Год I. ЛІПЕНЬ 1927 г. №. 1.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

**МЕСЯЧНАЯ ЛІТЭРАТУРНА-ГРАМАДЗКАЯ ЧАСОПІСЬ.**

Рэдакцыя і Адміністрацыя месьціцца у Вільні, Ціхая вуліца 4—20.
Тэл. 12-07.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На ½ года . . . . . . . . . . 8 зл. — гр.
На 3 месяца . . . . . . . . . 4 зл. — гр.
На 1 месяц . . . . . . . . . 1 зл. 50 гр.
За граніцу у два разы даражэй,



## АД РЭДАКЦЫІ.

*Незалежнасьць Беларусі* -- наша першае і апошняе слова!

Служыць гэтаму ідэалу, змагацца з яго праціўнікамі, — галоўная наша задача.

Гуртаваць усе жывыя творчыя сілы навакол ідэі адраджэньня Беларусі, выхоўваць нацыянальную сьведамасьць патаптанага вякамі беларускага народу, спрыяць росквіту беларускае літэратуры, навукі, мастацтва, — наагул памагаць выяўленьню беларускага нацыянальнага творчага гэнія і вызваленьню беларускае душы — вось наш шлях.

У цяжкіх, надзвычайна цяжкіх варунках пачынаем мы сваю працу.

*Беларусь падзелена.*

Брат адарваны ад брата.

Ворагі нашых імкненьняў працуюць і ўдзень і ўночы.

Яны хочуць здэнацыяналізаваць наш народ: зрусіфікаваць яго, альбо апалячыць. Яны не прызнаюць за ім права на самастойнае істнаваньне.

І вось задачаю нашае часопісі зьяўляецца даказаць, што Беларускі Народ у нетрах сваіх маець магутныя творчыя сілы, што Беларуская Культура, — гэта асобная самабытная культура, што росквіт яе патрэбны ня толькі для адраджэньня нашага народу, але і для агульначалавечага прогрэсу, сутнасьць якога *ў адраджэньні і вызваленьні ўсіх народаў і ў іх братэрскім сужыцьці.*

Які-б цяжкі крызыс не перажывала *сягоньня* беларуская грамадзкая думка, якая, дзякуючы падзелу Беларусі, хістаецца паміж Усходам і Захадам, — *заўтра* яна скрышталізуецца пад штандарам *Незалежнасьці*.

Гэта будзе так таму, што Беларуская Культура і тварэц Яе, наш *Народ*, усё лепшае, што ў ім ёсьць, прасякнута духам *Вольнасьці*, духам *Самастойнасьці*, духам протэсту проціў дэспотызму, духам барацьбы проціў панаваньня над нашаю краінаю.

*Мы ня можа быць, ня будзем рабамі!*

Іскра вызваленьня і адраджэньня Беларусі, запаленая піонэрамі беларускага руху, *сягоньня* разгарэлася ў магутны стыхійны пажар беларускага сэрца, у нязломнае імкненьне да Волі.

Спыніць хвалю беларускага руху, затамаваць росквіт Беларускае Культуры, — ніхто ня ў сілах!

Вырасшая ў барацьбе з ворагамі беларушчыны, зьяўляецца яна моцным грунтам-фундамантам для будаўнікоў лепшае, слаўнае будучыны.

Усіх тых, хто прыхіляецца да нашых мэтаў, усіх тых, каго можа злучыць імя *Беларусь*, — заклікаем да актыўнага супрацоўніцтва ў нашай часопісі, якая павінна стаць кузьняй беларускае нацыянальнае думкі і вольнаю трыбунаю яе.



# Беларусі.

*Над старою крывіцкай зямлёю*
*Расьцілаецца дзіўны туман;*
*Разьвіталіся людзі з вясною,*
*А над прошлым узьнёсься курган.*

*Сярод мглы, у сьмяротным заціішы,*
*У краіне адвечнага сну*
*Нешта бліснула там, на узвышшы,*
*Ці-ж бы неба дало нам вясну?...*

*Нечыя крыльля ціха шумелі,*
*Нехта плаўна, павольна ляцеў;*
*Ціхім звонам даносіліс трэлі,*
*Песьні-жальбы там ліўся напеў.*

*І ў ім гордасьць зьвінела ледзь чутна;*
*Ён у покліч паволі ўзрастаў,*
*А ў канцы загрымеў так магутна,*
*Перакатамі ліўся, сьціхаў.*

*Ў сьветазарных праменьнях зарніцы,*
*З па-за цёмных, як волава, хмар,*
*Гэній роднае нашай зямліцы*
*Вылятаў на пахмурны абшар.*

*На ім белая шата ўзьлягласе,*
*Яго стан быў істужкай увіт,*
*Што чырвона-крывава вілася,*
*Мук малюнак на ёй быў адбіт.*

*Яго крыльля зямлю атулілі,*
*Дзе жылося так цяжка усім,*

*Ад бяды, ад няшчасьця закрылі;*
*Ён быў страшны ў вяліччы сваім.*
*Яго вочы — падобныя зорам,*
*Яго твар, — быццам сонца, гарэў;*
*Ён над родным ўзнасіўся прасторам,*
*Панад ім сьветазарны ляцеў.*

*Яго голас, як звонкае срыбра,*
*І цьвёрды, як моцная сталь,*
*Загудзеў дзіўнай сілаю віхра,*
*Загудзеў і паплыў рэхам ўдаль.*
*„Ўстань, Народ! Я прынёс табе волю,*
*Я жадаю, каб ты уваскрос!*
*Даволі цярпеў ты нядолю,*
*Даволі праліў ты ўжо сьлёз".*

*„Даволі вас мучылі мары;*
*Спакой я і праўду прынёс;*
*Разганю я кашмарныя хмары,*
*Палепшу цяпер я твой лёс".*
*„Табе сілы і моцы хапае,*
*Ты мусіш праснуцца, паўстаць,*
*Глядзі, ужо днее-сьвітае,*
*Паўстань, ўжо даволі стагнаць!"*

*Голас нёсься яго сілай ветраў*
*І здарыўся, зьдзейсьніўся цуд:*
*З цемры адвечнае нетраў*
*Узьняўся патоптаны люд.*
*Ён узяўся за працу і дружна*
*Новы шлях стаў ўпярод пракладаць;*
*Ён працуе ахвотна і мужна,*
*Ён пачаў сваю долю каваць.*

*Агонь ў горнах палае і зьяе,*
*Накавальні зьвіняць і гудзяць;*
*Сон з павек мімаволі зьлятае:*
*„Беларусь пачала паўставаць".*

*А. БАРТУЛЬ.*

А. БАРТУЛЬ. ПЕРАДРУК ЗАБАРОНЕНЫ.

# КНЯЗЁЎНА.

## КАЗКА Ў ДВУХ АКТАХ.

АСОБЫ:

ВЕДЗЬМЫ І-ая і ІІ-ая.
РЫЦАР.
НЯВОЛЬНІКІ і СЯЛЯНЕ
ХОХЛІКІ, РУСАЛКІ і НЯЧЫСЬЦІКІ.

## АДСЛОНА І-ая.

Балота-дрыгва, зарослая густою лазой. Навокал адвечны бор. Цьмяна сьвеціць праз хмары месяц. У траве бліскаюць сінія вогнікі.

### ЗЬЯВА І-ая.

(Дзьве ведзьмы выходзяць з гушчыні).

**І-ая.** Эх, што за ночка! люблю такі час!
Сягоньня нам сьвята. Тут зробім папас,
Тут загуляем паскачам якраз...

Здалёк, быццам з пад зямлі, чуваць стогны, плач і дзікі рогат роспачы. Усё зьліваецца ў нейкую, дзікую, шалёную мэлёдыю).

Ага! ўжо і музыка грае для нас.

(Ведзьмы садзяцца каля лазы. Адна супроць другой).

**ІІ-ая.** Добра заводзяць, мне мілы іх крык,
Люблю гэта слухаць, люблю дзікі зык.
Ну што-ж, павялося нам, праўда, кума?

**І-ая.** Дый што гаварыці, я знаю сама!
Ўсё-ж дзікія думкі у гэтых людзэў;
Яны за князёўну гатовы ліць кроў,
Гатовы змагацца, а сілы у іх
Хапіць ці-ж магло-бы проці чараў маіх.
Князёўна іх сьпіць, гэта каменны сон,
Вякамі, гадамі утрваліўся ён.

**ІІ-ая** Ха, ха, што за мова! яе ня збудзіць,
Пакуль мы, сястрыца, з табой будзем жыць.

**І-ая.** Вось, Рыцар адзін толькі страшны для нас,
Ён можа прысьпешыць прабуджаньня час,
То тут, то ён там у паветры мігне,
Адразу нейк жудасна робіцца мне.
Ён бой супраць нас бязьлітосны вядзе.

**II-ая.** Э, што гаварыці аб гэтай бядзе!
Давай лепш наварымо сокаў густых,
З траваў чароўных і зёлкаў лясных. (Устаюць).

**I-ая.** Гэй, хохлікі! хутка зьбірайце гальлё,
Нясеце, кладзеце, я зладжу зяльлё...

### ЗЬЯВА II-ая.

(З лесу выбягаюць тры хохлікі, нясучы ахапкі сухіх галін і складаюць вогнішча. Адзін з іх падае ведзьме невялікі кацялок з вадой. Ведзьма цягне з-за пазухі і сыпле ў яго зёлкі. Хохлікі ладзяць трыножак з сукоў).

**II-ая.** Ну, вогнік, раз-два, разгарыся хутчэй,
Ўздымайся, успыкні, паліся, ясней!
(Успыхвае агонь. Ведзьма вешае над ім кацялок).
Чакай-жа, сястрыца, пільнуй тут агню,
Я-ж з імі пайду туды, ў лес, ў глыбіню.
(II-ая ведзьма выходзе разам з хохлікамі).

### ЗЬЯВА III.

(I-ая ведзьма садзіцца ля вогнішча).

**I-ая.** Ха, ха! вось ізноў будзе добра зусім.
Сябе мы пакажам ўсяму і усім,
Калі і прабудзе іх Рыцар ад сну,
Няўдасца спаткаць ім збуджэньня вясну;
Пачнецца між імі змаганьне, грызьня,
А гэта і будзе для волі матня.
Каб толькі яны не згадзіліся ўраз,
Было-бы, ой, выгадна й добра для нас.
(Хвіліну сядзіць ціха).
Гм! але кума за мяне нейк хітрэй,
Яна пры падзеле дастала балей.
Вось добра было-бы, каб мне гэта ўсё,
А то, толькі маю кавалкі-рызьзё.
Пярсьцёнак ізноў падзялілі наўпол,
Каб мне вось аднэй ўсё дасталась наўкол —
Было-б надта добра...
(Падымаючыся) Ага, ўжо й кума,
Што-ж гэта сягоньня злавіла яна!

### ЗЬЯВА IV.

(Уходзе II-ая ведзьма. На руках у яе акручаны гады, на адным і другім плячы сядзяць два кажаны).

**I-ая.** Ужо вар гатоў. Сьпярша гадаў пашлём,
Паўзуць хай працуюць і ноччу і днём.

(Бярэ галіну, мочыць яе ў кацялок і пырскае гадаў, абвітых каля рук II-ой ведзьмы).

Паўзеце-ж ў нявольнікаў гушчу, сябры,
І пільна працуйце да самай зары;
Усюды ўкруцецесь, праслухайце ўсё,
За нашую справу лажэце жыцьцё,
Шыпеце салодка і сейце разлад,
Каб біліся ўсе і каб брата біў брат!
Калі-ж хто пачне штось запраўды рабіць,
Патрэба яго вам зьбіць з толку, абвіць,
Абвіць, задушыць вольны думкі парыў;
Забійце яго! не патрэба, каб жыў!

**II-ая.** (Пускае гадаў на зямлю. Яны адпаўзаюць у лес).

Паўзеце-ж хутчэй, вы ў мяне малайцы,
З імі нам трэба зьвязьці ўсе канцы
Цяпер кажаноў трэба выслаць, сястра,
Для іх ночка чорная — працы пара.

**I-ая.** (Ізноў падходзе да II-ое, бярэ кажаноў, садзіць аднаго на пляче, другога бярэ ў рукі і так сама, як гадаў, пырскае зельлем).

Ляці, гэй, ляці, ты, мой дружа, кажан,
Навокал усіх расьсявай ймглу-туман,
Смакчы іх заўсёды, цягні сокі-кроў,
Смакчы, навадзі ім кашмар дзікіх сноў.
Хай чуюць бясьсільле сваё супраць нас,
Хай знаюць, што волі агонь для іх згас,
Ня трэба, каб сілу пачулі яны!
Іх трэба чмуціць, ім патрэба маны.
Сок гэтых зёлаў, вам пэўна паможа,
Зьбясьсіліць, зьвязьці іх сярод раздарожжа.
Гэта твой сябра, табе ў дапамогу.

(Зьнімае другога кажана з пляча і пускае абодвых).

Ляцеце-ж, ляцеце, сьмялей, у дарогу!

(Ведзьмы застаюцца самі. Вогнішча гарыць; першая ведзьма ходзіць, другая садзіцца).

**II-ая.** Хай смокчуць іх кроў, дык няхай-жа цярпяць,
Калі ім хацелась князёўну збаўляць.
А. . а .. што- гэта?

(Чуваць шум; ад лесу відаць яснасьць).

...Рыцар імкнецца сюды,
Яшчэ ня было якой ліха-бяды.

## ЗЬЯВА V.

(З лесу выяжджае Рыцар у сярэбранай зброі, на прыгожым белым кані. Зброя сьвеціць нейкім таемным блескам. Пабачыўшы ведзьмаў, спыняецца).

**I-ая.** (кідаючыся да яго).

Здушу я праклятага, зьнішчу, самну,

**II-ая.** (устрымоўваючы яе).
Чакай, ня чапай, ці ж што зробіш яму?
Ён памкнецца, як вецер, і згіне, як дым,
Нічога ня зробіць і чарам тваім.

**I-ая.** (спыняючыся).
Пракляты хай будзе...

**II-ая.** Э! кінь ты яго.
Пашто тут клясьціся, было-бы каго?

**Рыцар.** Ўжо блізка сьвітаньне, праклятыя зморы,
Народ ужо рушыць, як хвалі на моры,
Чакае ён толькі князёўны збуджэньня,
Тады ужо скончыцца наша цярпеньне.

**II-ая** Ха, ха... ён верыць, што ўстане князёўна!
Дык вер-жа, дык вер, бо для нас усё роўна!
Вось толькі ці прыйдзецца вам дачакаць,
Ці прыйдзецца гэтае шчасьце спаткаць?

**Рыцар.** — „Так, веру і буду верыць да скону!
Народ ўвесь пачуе водгалас звону,
Звону, ў які я ўдару магутна;
І так ужо ўдару, што будзе ўсім чутна.
Народ мой спавіты у вашыя сеці,
Забыўся аб ўсім, ён забыўся аб сьвеце,
З князёўнай заснуў ён, з ёй толькі паўстане,
З ёй толькі вольным і слаўным ён стане.
Я сын вольных ветраў і сілу іх маю,
Я з імі нашуся па нашаму краю.
І слаўнай мінуўшчыны маю я шчыт,
Ўвесь прошлае славы ён блескам спавіт.
Яснае сонца мне справіла зброю,
І сьмела я стану да слаўнаго бою.
Я зброяй магутнай шляхі адчыняю,
У сэрцы маім няма месца адчаю,
Ня знаю раздумы, ня знаю цярпеньня,
Я маю адно, мне сьвятое, імкненьне.
Прайду з ім адважна цярністы свой шлях,
Горда і думна трымаючы сьцяг.
Цяпер шмат ня чуе яшчэ мае словы,
Гукі забыўшыся роднае мовы.
І сьмех вызывае заклік да змаганьня,
Да лучнасьці братняй, да моцы яднаньня.
Блудныя дзеці! Вас гады скруцілі,
Здаровую думку у вас атруцілі...
Але вам у сэрца мячом я удару,
Адсуну праклятую згубу і мару;
Цемру-туман я напэўна разьвею,
Ўскрашу абуджэньня князёўны ідэю.
Ідэю, што сьвеціць, гарыць сьветазарна,
І праца мая ўжо ня пойдзе намарна.

*„Усё для Князёўны!“* вось кліч наш сьвяты!
І з ім пераможамо мы заўсягды.

(Падымаючы каня на дыбы).

Я веру, я веру—ідуць ужо хмары;
Паўстануць, праснуцца волі ахвяры!

(Выяжджае ў бор).

## ЗЬЯВА VI.

(Ведзьмы адны, стаяць у нейкай задуме).

I-ая. Ён нешта прароча, аб нейкае зьмене.
II-ая. Э... глупства, кума, мы трымаем іх ў жмені.
Князёўне ня ўстаць ўжо ніколі, ніколі!
I-ая. Усё-ж такі робіцца страх мімаволі,
Каб, толькі, вось Рыцар яе ня збудзіў.
II-ая. Але-ж ці хопіць яму *стольк*і сіл?

(Змаўкаюць, угледзіўшыся ў вогнішча).

II-ая. Э, думаць яшчэ! лепш зробімо шабаш...
I-ая. Рацыю маеш, праўду ты кажаш
Давай загуляем, давай-жа, хутчэй,
Як вып'ем крыві іх, нам будзе лягчэй.
II-ая. (крычыць).
Гэй, браце Лясун, ці ты чуеш стары?
Нячысьцікаў ўсіх ты сваіх нам зьбяры!

## ЗЬЯВА VII.

(Выбягаець некалькі нячысьцікаў, прысядаючы і робячы нізкія паклоны).

I-ая. Нявольнікаў борзда прывесьці сюды,
Мы крыху гульнём, вось так проста, з нуды,
Дый музыку зладзьце і толькі ўсяго,
Прыдумаем потым яшчэ мо' чаго.

(Нячысьцікі выбягаюць).

## ЗЬЯВА VIII.

II-ая. (крычыць ім усьлед).
Хутчэй-жа вяртайцеся, эй, вы! хутчэй,

(да I-ае)

Дык што-ж? загуляем, як можна гучней.
I-ая. Страшэнна люблю я глядзець на іх твар,
Зблядненшы і змучаны роямі мар;
Люблю я іх стогны, люблю дзікі сьмех,
Бясьсільле і мука дае шмат пацех.

(Здалёк чуваць гоман).

II-ая. Ага! чую шум, ўжо здаецца вядуць,
Прыемна нам будзе на іх спаглянуць.

## ЗЬЯВА IX.

(З лесу выходзе грамада людзей. Рукі іх моцна пераплецены. Твары выглядаюць страшэнна: шэрыя, пакрываўленыя; адзеты яны ў нейкае шмацьцё. Нячысьцікі падганяюць іх трысьцінкамі).

**Адзін з нячысьцікаў** (да іх).

Ну, тут укладайцеся, шэльмы, у рад!
(да першае ведзьмы).
Яшчэ можа маеш які, ты, загад?

**І-ая.** (паказваючы на двух нячысьцікаў)
Хай гэтыя зараз-жа пойдуць да хаты
І прынясуць нам князёўіны шаты.

**Адзін з пасланых.**

Зараз-жа, ў момэнт, тут будзем...
(выходзіць).

**ІІ-ая.** (да астаўшыхся) ...Цяпер
Прыводзьце у дзела вясёлы замер.

**Адзін з нячысьцікаў.**

(да людзей, паказваючы ім).
Вось гэтак, кладзецесь, адзін прад адным.
(тыя стаяць).
Ну, будзьце-ж паслушныя словам маім,
А то будзе горш...
(людзі са стогнамі, пачынаюць класьціся),

**Адзін з іх** (кідаючыся ведзьме ў ногі).

Я вас заклінаю!
Зьменшце нам мукі, ад болю, адчаю
Месца няма нам, мы думаць няздольны,
Згодзен служыць вам Народ, калісь вольны.
Ужо доля, хіба нам гэтак судзіла,
Што разам з Князёўнай загінула сіла,
Сіла і Дух наш загінулі гдзесьці,
Хоць літасьці дайце нам, дайце нарэшце.

**І-ая.** (піхае яго нагой, той падае і адпаўзае да ляжачай грамады).
Ха, ха... ідзі проч і спакойна ляжы...
(Убачыўшы аднаго нявольніка, яшчэ нялёгшага).
А гэты чаго там стаіць? Ты, кажы!

**Нявольнік.** (гледзячы на яе з пагардай).
Я вольны душой, я табе ні слуга,
Можаш мяне катаваць, як мага;
Я горды у нашай бядзе, у бяздольлі,
Прасіць зьлітавацца ня стану ніколі!
Легчы пад ногі табе не згаджуся,
Бейце мяне, я ў сябе сам замкнуся!
Пагарда таму, хто свой гонар забыў,
Пагарда таму, хто каго з вас прасіў.

**І-ая.** Ты так?... надта добра!

(да нячысьцікаў).

...Яшчэ больш вужакаў.
Цясьней скруцеце і будзе ён плакаў
І літасьці будзе, ўючыся, прасіць,
Там, пры сасне, няхай ён павісіць.

(Нячысьцікі хапаюць яго і вужамі прыкручваюць да таўшчэннай сасны).

Дый вугалькоў яму дайце пад ногі,
Мы пачакаем свае перамогі.

(Нячысьцікі бяруць з дагараўшага вогнішча вуглі і сыплюць яму пад ногі).

## ЗЬЯВА X.

(Зьяўляюцца пасланыя нячысьцікі, нясучы, адзін — дзьве багатыя вопраткі, другі — тацу з залатымі чаркамі; першы расьцілае прыгожую тканіну на зложаных у рад паўтрупах. Ведзьмы з задаваленьнем садзяцца на заімправізаваным памосьце. Каля іх стаіць пара чарцей з тацай. Пачынаецца музыка з шалёным тэмпо).

**ІІ-ая.** Гэй, хохлікі, дайце нам хутка віно,
Кіпіць, хай бурліць, няхай паліць яно

(Выбягаюць хохлікі, нясучы вялікі коўш поўны нейкім пылаючым плынам, які і наліваюць у чары. Ведзьмы з задаваленьнем п'юць).

**І-ая.** Яшчэ мне, яшчэ, я ўжо чую жыцьцё,
У жылах маіх закіпае чуцьцё.

(Нячысьцікі круцяцца каля ведзьмаў. Адзін з іх пэдсядае да І-ае).

Кума, мая мілая, лапу мне дай,
Пры табе я забуду згублены рай;
Дай лапку хутчэй, я хачу цалаваць ..

(Ведзьма са сьмехам).

Ідзі проч, бо можаш у зубы дастаць.

**Нячысьцік** (разводзячы рукі).
Клянуся рагамі, клянуся хвастом,
Клянуся смалою і на'т капытом;
Кахаю цябе...

(цягнучыся да ведзьмы).

...і твой гак, а ня нос.

(Абымае яе. Ведзьма б'е яго ў зубы).

**Нячысьцік** (адскакваючы).
Ці хочаш мяне ты давесьці да сьлёз!
Кахаю цябе... а тут раз табе ў твар...
Кума! маю кроў, п'е каханьня камар. .

**І-ая.** Э, досыць ужо, бо дакучыла мне
Слухаць залёты дурныя твае.

**ІІ-ая.** Русалкаў сюды, хай вядуць карагод,
Укруг нас заводзяць хай танцы і лёт.

## ЗЬЯВА XI

(З лесу выбягае чарада русалак, узяўшыхся за рукі. З шалёнай шыбкасьцю пачынаецца карагод навакола ведзьмаў. Часам карагод рвецца і заплятаецца навокал сасны, ля якой вісіць самлеўшы хлапец).

### ПЕСЬНЯ РУСАЛАК:

„Мы русалкі, духі ночы,
Дзеці возераў, балот,
Круцім, ўёмся у прасторы,
Мы ня бачым перашкод.

Асака нам шэпча казкі,
Мы калышамся ў лазе,
Мы ня ведаем аб горы,
Мы ня чулі аб тузе.

Лёгка хваля нас падхопе,
Панясе у глыбіню;
Там крыштальныя палацы.
Там праводзім дзень па дню

З рыбкай срыбнаю гуляем,
На ўздагонкі з ёй плывём;
Вадзянік нам бае казкі,
Так праходзе дзень за днём!

Зноў ўсплываем на паверхню,
З ляліяў вяночкі ўём,
Свае песьні мы заводзім,
Аб жыцьці сваім пяём.

З лясуном мы пажартуем,
Наламаем мы бяроз,
Абальлём яго старога
Брыльлянцістай вадой рос.

Ён пагоніцца за намі,
Мы ўзьлятаем ў вышыню,
Хай стары вось пазлуецца —
Ён кахае цішыню.

Зарагочам мы вясёла,
Ўторыць нам зялёны лес.
Кожны любіць весяліцца,
Нам ніхто ня йдзе ў разрэз.

Мы людзей не разумеем,
Іх жыцьцё адзіны сум.
Вечна нечага шукаюць,
Вечна поўны нейкіх дум.

Ў лятуценьнях, у тумане
Борзда іх праходзе век,
Ў нейкім шуме, у змаганьні,
Жыве дзіўны чалавек.

Жыць часіну і то марна?
Трэба жыць і ўсім жыцьцём:
Закруціцца, ўсё забыцца
Так вось як, і мы, жывём.

Дый што-ж думаць, мы-ж ня [можам
Ні у чым ім дапамогч,
Гэй! шалёна лепш закруцім,
Борзда кончыцца ўжо ноч.

(Песьня змаўкае, русалкі круцяць моўчкі).

**І-ая.** Балей ня стрываю, хачу я скакаць,
Давай-жа, кума...

**ІІ-ая.** Ну дык што-жа чакаць!

(Ведзьмы начынаюць дзікі танец у карагодзе русалак Праз нейкі час спыняюцца і зусім перастаюць, калі русалкі разарваўшы карагод умыкаюць у лес).

**І-ая.** (прыглядваючыся да наўпол жывога, прывязанага да сасны, хлапца).
Ага! ён самлеў яго трэба чуціць,

**ІІ-ая** Дый чым-жа, скажы, што патрэба схапіць.

**І-ая.** Вось з вогнішча можам узяць галаўню,
Здаецца, ў ёй знойдзем йшчэ крыху агню.

**ІІ-ая.** (бярэ галаўню. дзьмухае ў яе. Ляцяць іскры. Нячысьцікі прыглядаюцца).
Цяпер напішам яму запытаньне,
Ці з намі зможа ён весьці змаганьне?

(І-ая зрывае ў яго з грудзей шмацьце, ІІ-ая вядзе па жывым целе распаленай галаўнёй. Хлапец адчыняе вочы).

**Ён.** Ага! ужо бачу канец мой падходзе,
Бывай! мой загнаны й бедны. народзе!
Князёўна! з няволяю я ня ўжыўся.
Помні, што сын твой, памёр — не скарыўся.
Помні...

(змаўкае).

**I-ая.** Ха, ха... кінь, ты вугаль! ўжо па ім!

(кідаючы галаўню).

**II-ая.** А змоўкнуў такі, прапяяўшы ёй гымн.

(аглядаючыся).

Хмары гусьцей неяк неба пакрылі,
Дождж можа люнуць у кожнае хвілі,
Хіба ўжо пойдзем...

А і праўда ідзём;

**I-ая.** (Бяручы вопратку Князёўны)
Гэтыя шмацьця з сабою вазьмём?

**II-ая.** Чакай, знаеш ты што? аддай мне абое,
Адно бяз другога, ні гэта, ні тое.

**I-ая.** Ого! шмат ты хочаш, а што-ж тады мне?
Гаворыць, як быццам у неякім сьне!

**II-ая.** Напраўду кажу, мне суцэльнасьць давай!

**I-ая.** Ну, ну, пагаворым яшчэ, пачакай...

**II-ая.** (хапае яе за рукі, тузаючыся).
Як так даць ня хочаш, дык сілай вазьму!

**I-ая.** Праклятая!..

**II-ая.** Не, цябе я самну.

(Бліскае маланка, ударае пярун. Ведзьмы тоўзаюцца. Нявольнікі, хто ўскочыўшы, хто паўзком, разам з нячысьцікамі і хохлікамі ўцякаюць).

## ЗЬЯВА XI.

(Ударае другі пярун, з лесу выяжджае Рыцар, спыняецца ўбачыўшы змаганьне ведзьмаў).

**Рыцар.** Доўга-ж чакалі мы гэтай хвіліны,
Як расіцы, засохшы, чакаюць расьліны.
Ў суспольным змаганьні вы сілу згубілі
І гэтым Князёўну вы нам абудзілі.
Згінулі ў момэнт вашыя чары,
Як гінуць пры сонцы ночныя мары.
Мы дачакаліcь; прыйшлі ўжо хмары,
І зараз паўстануць вашы ахвяры;
Бо наша Князёўна праснулась, ня сьпіць,
Мы разам ўсе пойдзем яе бараніць.

(Б'е трэці пярун, Рыцар адлятае, ведзьмы змагаюцца, тузаючыся па зямлі)

## ЗАСЛОНА.

(*Канец I акту*).

# Славацкаму.

Ты песьняй-красою будзіў свой
[народ
І новыя сеяў ідэі;
Ты зваў іх заўсёды ісьці упярод,
Казаў ня губляць ім надзеі.

Гэтыя песьні пачулі і мы —
Народ, як калісь Твой, загнаны,
Народ, што скідае вяковыя
[сны
І подлыя крыша кайданы.

Ў малюнках тваіх бачым долю сваю,
Да сэрца іх блізка прымаем:
Твой прах, што прыбыў на Айчыну
[Тваю,
У задуменьні мы шчыра вітаем.

*Б.*

**Ю. СЛАВАЦКІ.**

# АНГЭЛЬЛІ.

(Пераклад з польскага М. Г.).

*Сьцяпану Х. На памяць аб спатканьні*
*ў Сьвятой Зямлі і пад горамі Лібанскімі.*

Ніжэй друкуем пераклад на беларускую мову трох першых разьдзелаў „Ангэльлі“ — твору надзвычайнае сілы і глыбіні духу. Думкі і вобразы „Ангэльлі“ зьяўляюцца і сягоньня жывымі. Яны зразумелы дла нас, беларусаў, бо мы сягоньня таксама ня маем свае дзяржавы, як калісьці Палякі, і моральна зьяўляемся выгнанымі з Бацькаўшчыны. У наступных кніжках „Беларускае Культуры“ надрукуемо увесь гэты твор гэніальнага поэта-прарока.

## РАЗЬДЗЕЛ I.

Выгналі іх. І прыйшлі яны ў з-млю Сыбірскую, выбралі месца шырокае і пабудавалі дом драўляны, каб жыць разам у згодзе і любові братэрскай. Было-ж іх каля тысячы людзей з рознага стану.

А ўлада даставіла ім дзяўчат, каб пажаніліся, бо дэкрэт гаварыў, што пасланы яны на залюдненьне.

Праз нейкі час быў паміж імі вялікі парадак і вялікі смутак, бо не маглі забыць аб тым, што зьяўляюцца выгнанцамі і не пабачаць больш свайго краю; хіба Бог захоча.

А калі пабудавалі дом, то кожны заняўся сваёю працаю, апрача людзей, каторыя хацелі, каб іх называлі мудрымі і заставаліся ў бясчыннасьці, кажучы: вось думаем аб вызваленьні Бацькаўшчыны; пабачылі раз вялікую грамаду чорных птушак, якія ляцелі з поўначы.

За птушкамі-ж паказаўся абоз, як табар, і сані запрэжаныя сабакамі і стада аленяў з сукаватымі рагамі, і людзі на лыжах, узброеныя стрэламі; гэта быў цэлы народ сыбірскі.

На чале-ж іх ішоў кароль і разам з гэным ксёндз народу. Вопратку меў паводле звычаяў: футра і каралі, а на галаве, заместа кароны, вянок з няжывых вужоў.

Уладар гэты падыйшоў бліжэй да грамады выгнанцаў і прагаварыў на мове іх зямлі: „Вітаю вас!“

„Знаў я і бацькоў вашых, такіх-жа нешчасьлівых, і бачыў, як жылі і ўміралі, кажучы: Бацькаўшчына! Бацькаўшчына!

„Хачу быць прыяцелем вашым і зрабіць згоду паміж вамі і маім народам, каб ведалі, што зямля наша гасьцінная і край наш дабра вам жадае.

„А з бацькоў вашых ня жыве ўжо ніхто, апрача аднаго. Стары ён і мне спрыяе. А памешканьне яго адгэтуль далёка, у адзінокай хаце.

„Калі хочаце, каб прыяцель бацькоў вашых быў правадыром вашым, застануся з вамі і народ свой пакіну; бо вы больш нешчасьлівыя“.

Гаварыў яшчэ доўга гэты старык, і пашанавалі яго і запрасілі да свае хаты.

І зрабілі згоду з народам сыбірскім, каторы разышоўся і стаў жыць у сваіх сьнежных сёлах; а кароль іх застаўся з выгнанцамі, каб пацяшаць іх

І дзівіліся мудрасьці яго, кажучы: напэўна ад бацькоў нашых набыў яе, а словы яго ад дзядоў нашых.

Называлі яго Шаманам, бо так называў народ сыбірскі каралёў і ксяндзоў сваіх, якія зьяўляюцца чараўнікамі.

## РАЗЬДЗЕЛ II.

І разгледзіўся Шаман у сэрцах гэтае грамады выгнанцаў і сказаў сам сабе: „Запраўды не знайшоў тут, чаго шукаў; бо сэрцы іх слабыя і паддадуцца смутку.

„Добрыя былі-б з іх людзі ў шчасьці, але бяда перарабіць іх у людзей злых і шкодных. Што зрабіў Ты, Божа?

„Кожнай кветцы даеш Ты цьвісьці і дацьвітаць там, дзе яе зямля і жыцьцё яе? Чаму-ж гэтыя людзі мусяць загінуць?

„Выбяру аднаго з іх і пакахаю яго, як сына, а ўміраючы аддам яму цяжар мой, найбольшы цяжар, які могуць нясьці людзі; няхай ён будзе ахвяраю.

„І пакажу яму ўсе няшчасьці гэтае зямлі, а потым пакіну аднаго ў вялікай цемры і з цяжарам думак і сумам у сэрцы“.

І, сказаўшы гэта, паклікаў да сябе хлапчука, па імені Ангэльлі. І, палажыўшы на яго свае рукі, пераліў у яго сэрца любоў для людзей і літасьць.

А потым зьвярнуўся да грамады і прагаварыў: „Адыйду з гэтым хлапцом, каб паказаць яму шмат рэчаў, ад якіх баліць сэрца, а вы застанецеся самі вучыцца, як трэба пераносіць голад, бяду і сум.

„Але мусіце мець надзею; бо надзея пяройдзе ад вас да новых пакаленьняў і ажывіць іх; але калі памрэ ў вас, то і новыя пакаленьні будуць з людзей памёршых.

„А тое, аб чым падумаеце — зьдзейсьніцца і вялікая радасьць будзе на зямлі ў той дзень *Уваскрасеньня*.

„Хоць вы будзеце ў магілах, і пакрывалы на вас спарахнэюць, — але грабы вашы будуць сьвятымі, і нават Бог адгоніць ад целаў вашых чарвякоў і ўбярэ вас памёршых у тканіну гордае павагі;—будзеце прыгожымі.

Так, як бацькі вашы, што так сама ў магілах, бо гляньце на кожны чэрап іх; ня згрызены і ня мучыцца, але спакойны і як-бы кажа: *добра зрабіў*.

„Уладайце сабою, бо зьяўляецеся людзьмі, якія стаяць на ўзвышшы; а тыя, што прыдуць, — бачыць вас будуць.

„Пераказаў-бы вам тайніцу: душы адных ідуць да сонца, а душы другіх аддаляюцца ад сонца ў цемру, — але не зразумееце мяне!

„Сказаў-бы вам, дзеля чаго жывеце і дзеля чаго родзяцца мільёны новых душ — і для якое мэты цела: але не зразумееце мяне!

„Кажу вам: будзьце спакойнымі не за будучыну вашу, але за дзень, каторы будзе па сьмерці вашай.

„Бо горай будучына жыцьця вашага, ніж дзень пасьмертны, хоць і ня так думаюць подлыя людзі і людзі малога сэрца“.

І загаманіла тады да Шамана грамада: „Хто даў табе ўладу вучыць нас аб жыцьці і сьмерці? Вось маем паміж сабою ксяндзоў і да іх належыць слова Бога“.

На гэта адказаў ім Шаман: „Чулі аб Майсею і цудах, якія ён тварыў? Я зьяўляюся Майсеем сыбірскага народу і цуды тварыў страшнейшыя, ніж той, што прад вякамі.

„А ці ня вышаў з паўночнае зары анёл, калі яго выклікаў з полымя? Запытайцеся ў майго народу.

„Ад майго слова сьнег гэты стаў крывёю, а гэтае сонца счарнела, як вугаль, — бо шмат ува мне Бога.

„Але не спакушайце мяне цудамі; бо з'яўляецеся старым народам і ўскрэсіць вас — цуд. Аб гэтым прасеце Бога.

„Каб уваскрасіў вас і дастаў з магілы, і зрабіў вас народам, каторы другі раз ужо паложаны ў калыску і спавіты; каб вырас просты, а ня скрыўлены целам“.

Так гаварыў Шаман; і ня сьмелі яму адказаць выгнанцы; але далі слова жыць у згодзе з народам сыбірскім.

## РАЗЬДЗЕЛ III.

І вось аднаго разу ўночы разбудзіў Шаман Ангэльлі і сказаў яму: Ня сьпі, але йдзі за мною, бо важныя рэчы ёсьць у пустыні.

І, ўбраўшыся ў белае адзеньне, Ангэльлі пайшоў за старцам, і йшлі яны пры зьяньні зораў.

І як зайшлі недалёка, — пабачылі цэлы абоз малых дзяцей - сіротак, выгнаных у Сыбір. Яны адпачывалі пры агні.

А ў сярэдзіне іх грамадкі сядзеў поп на татарскім кані і меў каля сядла два кошыкі з хлебам.

І пачаў гэтых дзяцей вучыць, каб верылі парасейску.

І задаваў дзецям брыдкія пытаньні, а яны адказвалі яму ласкава, бо меў каля сядла кошык з хлебам і мог іх накарміць; бо былі галодныя.

І зьвярнуўся да Ангэльлі Шаман і прагаварыў: „Скажы ці не перайшоў граніцаў гэты ксёндз, засяваючы злыя зярняты ў гэтыя чыстыя душы дзяцей?

„Забыліся яны ўжо плакаць па матках сваіх і просяць тут хлеба, як малыя шчаняты, шчабечучы злыя і праціўныя веры рэчы.

,Кажуць, што цар ёсьць галава веры і што ў ім ёсьць Бог, і што кожны яго прыказ, не праціўны Сьвятому Духу; і нават тады, калі аддае прыказы, падобныя злачынствам, трэба выконваць іх, бо ў іх ёсьць дух сьвяты.

„Ужыву проціў гэтага ксяндза агню нябеснага, каб спаліць яго і заб'ю яго прад вачамі дзяцей".

І як толькі выказаў Шаман словы праклятцьця, запаліўся гэты поп на кані і выйшла з грудзёў яго полымя і злучылася ў паветры над галавою.

А спуджаны конь панёс яго, палаючага па стэпу, а потым, уздрыгнуўшыся, скінуў з сябе вугаль, што сядзеў на сядле.

І вось па гэтым спарахнеўшым чалавеку хадзілі іскры, як тыя іскаркі, каторыя бываюць на спаленым паперы: блядыя і снуюць у розныя бакі.

І падышоў тады бліжэй да дзяцей Шаман і прагаварыў: „Ня пужайцеся! Бог з вамі!

„Агонь настрашыў вас, як галубкоў, што сьпяць, але заснулі вы ў доме пажару і цельцы вашы ўжо зьвялі".

І расьцілалі дзеці ручкі да старца і крычалі: ,.Дзеду, вазьмі нас з сабою!'

А Шаман адказаў ім: „Куды-ж вас павяду? Іду я ў дарогу сьмерці; хочаце, каб забраў вас і схаваў пад плашчом, а потым высыпаў вас з палы перад панам Богам?"

І адказалі яму дзеці: „Вазьмі нас і завядзі нас шырокім гасьцінцам аж да матак нашых".

І ўсе пачалі крычаць з вялікім гонарам „Мы Палякі! — Завядзі нас да Бацькаўшчыны і да матак нашых". Аж Шаман пачаў плакаць, усьмяхаючыся.

І ня мог адыйсьці, бо адно дзіцянё заснула ў прыполе плашча яго тады, калі ён размаўляў.

А казакі глядзелі на ўсё і задумаліся. Яны пачалі адганяць дзяцей ад чужых людзей, але ня сьмелі біць іх, бо памяталі добра той агонь.

## Паэту.

Засьпявай, паэце,
Песьню засьпявай, —
Пра наш Нёман прудкі,
Пра наш родны край.
Гукі хай нясуцца
Ў пушчу, ў поле, ў даль;
Гулка раздаюцца
І зьвіняць, як сталь.

Затрубі ў фанфары,
Маршу нам заграй;
Пра свабоду нашу
Нам ты засьпявай!
Разбудзі, будзі нас,
Наш прарок-пясьняр,
Удар па струнах сэрца,
Удар сьмялей, — удар!

Хай ляціць, хвалюе,
Абуджае край
Кліч твой новы, сьмелы,
Кліч твой: Паўставай!

1926 г. — Горадня. *Я. Д.*



**А. МІЦКЕВІЧ.**



# Сьвітэзь.

(Бальляда).

*Вольны пераклад А. Бартуль.*

Калі ты доляй закінены будзеш
Да Плужан, ў бок Навагрудку,
Дык у бары там, каня зьдержыць [мусіш
Прад возерам дзіва й смутку.

Сьвітэзь там дрэмле ў прасторы [спакойным,
Ад даўных спачыў ужо год;
Лесам увіты адвечным і стройным,
Вялізны і гладкі, што лёд.

Ноччу, як прыйдзеш на бераг разьлеглы
І глянеш адважна ў простор,
Убачыш на возеры месячык сьветлы,
Навокал яго поўна зор.

Здаецца тады, вялізарная шыба
Да неба імкнецца у даль,
Ці яснае неба схіляецца хіба,
Каб легчы пад ногі амаль.

Вока ня знойдзе нідзе небасхіла,
Бо неба зьлілося з вадой;
Здаецца злучыла іх дзіўная сіла
І дружбай зьвязала сьвятой.

У часе пагоды, дый ночнай парою
Там зрок можна лёгка зманіць,
Але, каб ноччу праехаць сюдою,
Адважным патрэба ўжо быць.

Як там гарцуе нячыстая сіла,
Якія там дзівы здаюцца,
Слухаць і то, ці адвагі-б хапіла,
Страхі магутна там ўюцца.

Нярааз між хвалямі шум вялізарны,
Полымя, дым клубам валіць,
Енкі чувацца, ваякаў алярмы
Ў звоны шалёна хтось смаліць.

Раптам ўпаў дым і замоўкнуў шум [бітвы.
Ужо толькі шуміць ціхі бор,
Сумна дзявочыя стогнуць малітвы,
Дый пацяры льлюцца да зор.

Што гэта знача, дагадак шмат ходзе,
Кожны тлумача, як знае
Розныя весткі істнуюць ў народзе,
Але хто-ж праўду згадае?

Плужынскі пан, да якога прадзедаў,
Сьвітэзь спрадвеку належыў,
Гэтыя дзіўныя тайніцы зьведаў,
Першы цікавасьць ня зьдзержыў;

Казаў прылады рабіць ў блізкім месьце,
Выдаў вялікія грошы,
Невад зьвязалі, даўгі на стоп [дзьвесьце,
Човен зрабілі нязгоршы.

Я асьцярог, што у гэтакім дзеле,
Толькі сам Бог памагае;
Далі на імшу праве ў кожным [касьцеле
З Цырыну ксёндз прыяжджае.

Стаў ён на бераг, адзеўся ў арнаты,
Кропіў вадою, хрысьціўся.

Знак дае пан і ў прастор той закляты
Невад ураз затапіўся.

Топіцца, нават плаўкі з-заду цягне
(Надта вада там глыбока)
Гіне павольна, як быццам у багне,
Пэўна ні зловяць ні вока.

Цягнуць на бераг вялікія крыльля,
Вялікія так, што ці змерыць;
Што-ж там у невадзе людзі злавілі,
Сказаць... дык ці хто мне паверыць.

Аднак-жа, скажу, страхацьця там ня [ўзялі —
Жывая ў сетцы дзяўчына,
Твар мела ясны і вусны-каралі,
Стройная, быццам каліна.

На бераг ідзе, той зыходзе з дарогі,
Той зноў скамянеўшы прыціх,
Гэты трасецца увесь ад трывогі,
Яна-ж так азвалась да іх:

„Ведайце людзі, што тутка бяскарна
Ніхто да вады не кранецца,
А хто й асьмеліцца, згіне намарна,
Хваля над ім ўраз самкнецца".

„Ты, мой паночку, і гэты грамады
Адважных і дзёрзкіх людзёў,
Толькі ня згінуць таму з нашай [здрады,
Бо ў вас цячэ нашая кроў".

„Хоць кліча кару, цікавасьць пустая,
Але-ж вы помнілі Бога,
Дык праз мяне скажа сіла сьвятая
Пра дзеі месца страшнога".

„Тутка, дзе жоўты пясочак сягоньня,
Дзе вырасьлі цар, дый трысьцё,
Дзе вёслы адважна рэжуць бяздоньне,
Калісьці кіпела жыцьцё".

„Сьвітэзя слава далёка грымела
Аружжам вядома наўкол,
Места расло, красавалась, цьвіцела,
Туган там займаў княжы стол".

„Абрыў пануры, ня страшыў вам вока,
Было тады можна ураз
Згледзіць муры Навагрудку здалёка,
Сталіцу Літвы пад той час".

„Пэўнага разу на княза Мэндоўга
Цар нападае раптоўна,
Па усенькай Літве разьляглася трывога,
„Здаецца, наш князь бязумоўна".

„Пакуль ён сьцягнуў сваё войска [з граніцы,
Піша пасвойскі Тугану:
„Толькі ў табе абарона сталіцы,
Сьпяшыся да нашага стану".

„Хутка чытае Туган князя словы,
Зараз вайну абвяшчае.
Пяць тысяч ваякаў у момэнт гатовы,
Зброя на сонцы зіяе".

„Трубы грымяць, ідзе войска магутна,
Туганаў калышацца сьцяг,
Але Туган спазірае нейк смутна,
Нямілы яму гэты шлях".

„Кажа ён: сэрца маё прадчувае —
Гублю я сваіх жыхароў,
Сьвітэзь другой абароны ня мае,
Проч нашых грудзёў і мячоў".

„Як разьдзялю невяліку дружыну,
Мендоўгу ня дам дапамогі,
Пойдзем усе, вас адных я пакіну,
Што робіць ня знаю з трывогі?"

„Князю, кажу, ня пужайся нічога,
Йдзі куды слава пакліча,
Сёньня у сьне мне была прадсьцярога,
Ангела бачу аблічча".

„Сьвітэзь абвёў ён мяча бліскавіцай
І крыльлямі яснымі скрыў,
Сказаў мне, што покі вы загранiцай,
Жанчын будзе ён бараніў".

„Паслухаў Туган, павёў сваё войска,
А калі ночка настала,
Крыкі Масквы разьляглiся нясвойска,
Дзіка „Ура!" рагатала.

„Ударыў таран, брам разьбіты [астаткі,
Стрэлы імкнуцца магутна,
Бягуць старыкі, дзяўчаты і маткі,
Дзеці галосяць ледзь чутна.

„Ратуйце!" — крычаць, — Масква ту-ж [за намі
У шале ляціць бязупынку;
Заб'емся ўзаемна, загінем лепш самі,
Сьмерць нам удзеліць прыпынку!"

„Ізноў месца страху, злосьць уступае;
На вогніщча сыпяць багацьця,
Страшны агонь усё чыста зжырае,
Што маюць, рвецца на шмацьця".

Крычаць: пракляты, хто сам не [заб'ецца
І кленчаць у дзікім апоры,
Чакаюць, покі сякера ўзаўецца;
Ня чуюць мае угаворы".

„Праступак гатовы... ў хвілі няшчаснай
Што робіць? ці дацца ў няволю,
Ці згінуць, забіцца рукой сваёй [ўласнай?
Божа! дзе-ж дзеў нашу долю?"

„Божа, малюся, няма нам збаўленьня
Мы просіма сьмерці ў цябе,
Удар Пяруна, хай нам скончыць [цярпеньне,
Жывых, хай зямля заграбе".

„Раптам загінула ймгла цёмнай ночы,
Зайскрылася неба зарой,
І на зямлю мае глянулі вочы,
Зямлі ўжо няма пада мной".

„Так уцяклі мы ад ганьбы і рэзі,
Бачыш, ты, красачак бельля,
Гэта жанчыны і дзеці Сьвітэзі;
Бог замяніў іх у зельля".

„Белымі краскамі, як матылёчкі
Плывуць яны тут над вадой;
Зялёны, як ёлкі, іх дзіва-лісточкі,
Раса на іх сьвеціць парой".

„Яны пры жыцьці ня ведалі сказы,
А гінулі страшна, між мук,
Цяпер ўжо, як зёлкі ня сьцерпяць [абразы,
Датыку сьмяротніка рук".

„Гэта ўсё цар і натоўп дасьвядчае,
Ўгледзіўшы краскі на волі,
Той рве й сталёвы шышак убірае,
Той ўе вянок мімаволі".

„Але хто выцягнуў дзёрзкую руку,
Да дзіўнай красак прынады,
Той адтрымаў заслужоную муку;
Сьмерць дае лільляў улада".

„Хоць гэты здарэньні з памяці [сходзяць,
Як гаснуць адбіткі зары,
Водклік аднак-жа ў народзе знаходзяць
І краскі завуцца — цары".

Гэтак сказаўшы, адходзе паволі,
Топяцца чоўны і сеці.
Бор зашумеў і вада, як ніколі,
Ўзьнялася — стала кіпеці.

Возера лопнула ўздоўжкі і шыркі,
Вокам за ёй ня угнацца,
Ня ўбача нічога зрок самы зыркі,
Больш аб яе ня чувацца.

# Летні вечар.

Зарыцца неба, прыгожы узор,
Колеру рожы узьлёгся на бор.
Зоркі у цёмным прасторы мігцяць
Гэтак прыгожа, таёмна дрыжаць.

Дрэмлюць ўжо дрэвы, лісткі ледзь [шасьцяць,
Так ціха навокал, так сонна, ўсе [сьпяць.
Белая пара ўстае ад балот,
Дрэмле над мохам высокі чарот.

Сярод урачыстай такой цішыні
Гукі пачуліся з дрэў глыбіні.
Песьня задумы, прыгожасьці гымн
То сумна лілася, то чуўся уздым.

Хацелася слухаць, забыцца аб ўсім,
Аддацца красе, цэлым сэрцам сваім,
Хацелася слухаць, ўсё чыста [забыць,
Замёрці, замоўкнуць і вечна там [быць.

*Б.*

# Марская легэнда.

Раз, у пахмурны і халодны жніўнёвы падвячорак, я сядзеў на адным з лічных выступаў вялікага гранітнага рыфу, на каторым, па правую маю руку, узвышаецца даволі імпануючая будыніна маяку. Навакола рыфу выстаўляліся з вады вялікія і малыя каменьні. Вада кіпела і круцілася паміж імі, творачы значны гоман. Дзе-ня-дзе на небе відаць было белую чайку, каторая то лятала высока з сваім плачлівым крыкам, то, як камень, падала на воду і зноў узьвівалася ўгару, трымаючы ў дзюбе трыпочучую, срабрыстую рыбку...

З дзьвяроў маяка выйшаў сторaж яго — стары фін з гладка выгаленым тварам, што яго рабіла шмат падобным да бабы, з люлькаю ў зубах і з характарнаю „фінскаю“ шапкаю на галаве.

Залажыўшы рукі ў кішані свайго кажушка, абцягнутага скурай, ён стаў каля мяне і, пасмоктваючы люльку, паглядаў на мора.

— Як, дзядзька Арон, вам тутака ня нудна жыць? — запытаўся я, бачачы, што ён размовы пачынаць ня мае ахвоты.

— Не, — флегматычна адказаў ён, не зьмяняючы свае пазыцыі.

— Гм... а вось я, здаецца, памёр-бы тутака з нудаў.

— Як хто, — а я з сваёю старою чуюся тут вельмі добра, — дваццаць гадоў займаю я гэтае месца... — казаў Арон.

— А дзе вы ўперад жылі? — пацікавіўся я.

— У Аланцы і ў Улеаборгу, у электроўнях там працаваў, парасейску гаварыць там навучыўся; бачыш, гавару ня горш за цябе, мой хлапчына.

— Так... — ну, а ня страшна вам тутака?

— Чаго? — з ветрам, з бураю я пакуміўся, і яны мяне не зачапаюць і ня пужаюць...

— Падумай, — раптам ажывіўся ён, — ці горш тутака на гэным самотным рыфе, куды рэдка які госьць, у родзе цябе, загляне, ці ў сьвеце— там у вас? Там—вайна, льлецца кроў чалавечая няведама за што, а ў мяне цішыня!... Прывязуць мне раз у месяц ежы, газэтаў, кніжак — і даволі з мяне... не, тутака добра.

— Праўда, непарадкі цяпер вялікія на сьвеце, даўней так ня было... як думаеце? — сказаў я.

— Даўней лепей было; не выдумлялі на чалавека газаў розных і ўсялякае там атруты, горш як на зьвера... О, пакарае некалі людзей Бог, — пакарае. Забыліся яны аб Ім... Есьць легэнда...

Я настрыў вушы.

— Якая, якая? — раскажэце, вы ведаеце шмат розных казак цікаўных, — прасіў старога Арона я.

— Захацеў! — усьмяхнуўся дабратліва ён; — ну, так і быць, хоць ты й вялікі ўжо хлапец, каб казкі слухаць, але раскажу.

Ён прысеў каля мяне, выняў з зубоў люльку, плюнуў у ваду і пачаў вытрасаць яе. Вытрасшы, выняў капшук з тутуном, напоўніў яе ім і зноў усадзіў у зубы. Потым дастаў сернікі, закурыў і кінуў абгарэлы сернік у мора. Я чакаў.

— Ну, слухай-жа, — вымавіў, раскурыўшы люльку.

— Слухаю, слухаю, — адказаў я, — толькі расказвайце хутчэй!

— Ну... як-бы сказаць: — быў край пасярод акіяну, вялікі край. Дзьве дзяржавы былі ў тым краі; народу было столькі, што, пэўна, мо' і не палічыў-бы... Так, — але, ня гледзячы на лічнасьць людпасьці, усе жылі шчасьліва і ў дастатку. Зямлі было шмат і добрая, — ня то, што на маёй бацькаўшчыне — Фінляндыі, дзе толькі каменьні адны ляжаць... Кожны абрабляў зямлю — кароль нават, бо кароль быў у адным гаспадарстве і ў другім, — і хлеб мелі з працы свае. Пры берагох акіяну рыбалоўствам людзі займаліся... Добра было там, справядліва; ня ўціскалі адны адных, як гэта цяперака робіцца. Дзяржавы ў згодзе жылі паміж сабой. Дамоў ніхто не замыкаў, бо зладзеяў там ня было і ніякіх ліхіх людзей. Грошаў так сама ня было — ня ведалі людзі, што гэта золата, катораму цяперака пакланяюцца ўсе...

Добра было, але папсавалася гэта добрае.

Пэўнага дня да берагоў таго краю падплыў карабель. Адкуль ён прыехаў, ніхто ня ведаў. Выйшлі з яго нейкія людзі, пачалі выносіць пакункі розныя на бераг; пачалі гаварыць да сабраўшыхся людзей нейкай незразумелай мовай, рэчы розныя паказвалі ім. Захацелася людзям з шчасьлівага краю мець розныя рэчы: гэта былі тканіны каштоўныя, вырабы з золата і серабра, пацяркі. Вось яны і назносілі ім, гэным гасьцём заморскім, прадуктаў зямлі свае. Але тыя ня бралі, бо гэта была рыба сушаная, птушкі бітыя, збожжа... Якраз адзін з гасьцёў убачыў на галаве аднаго з хлапцоў пекнае пяро. Паказаў на яго. Людзі зразумелі, што ён хоча яго. Далі яму. А ён ім шпілечку залатую даў. „За гэткую драбніцу і такую рэч даў! — дзівіліся людзі: — нясеце яшчэ: у нас гэных птушак і пёраў ад іх шмат“.

Пёры былі прынесены; госьці ахвотна давалі за іх свае прыгожыя, як здавалася людзям тым, тавары.

Прабылі гэныя купцы, — гэта, разумееш, купцы былі, — там тыдзень і адплылі да сябе на ўсход. Вялікі натаўп людзей праважаў іх, стоячы на беразе, аж пакуль карабель не прапаў з вачçу.

З тае пары кожны хацеў золата; кожны біў птушак, пёры якіх былі патрэбныя купцом, складаў іх і чакаў гасьцей. — „Вось тады і я буду мець пекныя рэчы“,—думаў кожны. Але госьці ня ехалі.

Раптам па краю пранеслася вестка, што знайшлося тое, з чаго заморскія людзі выраблялі свае рэчы, — золата; толькі яго знашлі памешанае з пяском, ад каторага трэба было яго адмываць. Усе зьбегліся да караля, як учулі, што там ёсьць золата. І праўда: вялікая міса была поўная бліскучага парашку.—„Золата, золата!“—закрычалі ўсе радасна. Тымчасам кароль распаліў вялікі агонь і ўставіў у яго місу з залатым парашком.

— „Ну, а калі згарыць?“—цікаўна гаварылі прысутныя. Але золата не згарэла; яно толькі растапілася ў нейкую зялёную жыжку. Тады кароль выняў яго з агню абцугамі і чапялою і паставіў на халодны пясок. Золата паволі астыла і зрабілася ізноў жоўтым. Але цяпер гэта быў не парашок, але кавалак золата.

І сталі людзі шукаць золата. Некаторыя і зямлю сваю пакідалі. Яе захапілі суседзі, бачачы, што гаспадар не вяртаецца. Жабракі зьнекуль пачалі знаходзіцца. Тыя людзі, што пазахаплялі чужую зямлю, ня могучы

яе абрабіць, бралі гэных жабракоў да сябе, і яны працавалі. Але гаспадары зямлі разгультаіліся і самі ўжо яе абрабляць не хацелі...

Троха па троху зрабілася так, што зямлю абраблялі нанятыя людзі, а гаспадары нічога не рабілі і толькі думалі, каб якнайбольш золата дзе дастаць. Некаторыя, бачачы, што ў суседзяў шмат золата, адбіралі яго ў іх і іх самых забівалі, чаго ўперад нідзе ня было чутно: кожны тады цаніў сваё і чужое жыцьцё... Сьлёзы і плач зрабіліся звычайным зьявішчам у тым, некалі шчасьлівым, краі...

Арон адкашляўся і пачаў раскурваць патухшую люльку. Я маўчаў.

— Бога запомнілі людзі тыя, — пачаў гаварыць ізноў, — і цэрквы стаялі пустыя. Ціснуць пачалі адзін аднаго; у каго было шмат зямлі і золата, той прымушаў рабіць на сябе бяднейшага; багаты пачаў думаць, што ён лепшы за беднага. Застагнала зямля тая. Забыліся людзі, што яны браты паміж сабою.

А Бог з неба глядзеў на гэта і гневаўся, але яшчэ не караў. Толькі паслаў да людзей сваіх анёлаў, каб яны іх ацьвярозілі.

І вось, пашлі па зямлі тыя анёлы, гаварылі з людзьмі, навучалі іх, каб паправіліся. Але людзі ня слухалі і прадаўжалі рабіць сваё. Некаторыя анёлаў тых ганялі ад сябе, каменьні кідалі ў іх... А палажэньне бедных людзей рабілася цяжэй і цяжэй. Уцякаць пачалі яны з свайго краю; сядалі на лодкі і ад'яжджалі ў акіян шырокі, бесканечны. Шмат з іх гінула, але і шмат прыяжджала да іншых земляў і аставалася тамака. Там таксама было золата ў ужыцьці, але людзі жылі чамусьці лепей. Можа яны пажытак лепшы з золата рабілі, — няведама.

А ў шчасьлівым некалі краі людзей станавілася што раз менш і менш, аж урэшце засталіся багатыя, якія мелі золата. Але ўжо ня было тых, што хлебам іх кармілі. Але багатыя дагадаліся: збудавалі вялікі карабель і паплылі на ўсход, адкуль калісьці прыехалі купцы. З сабой павязьлі сваё золата. Прыехалі яны ў канцы да нейкае зямлі. Людзі, што жылі тамака, мелі золата, але мала. За тое ў іх было шмат хлеба. Багатыя аддалі ім сваё золата, а тыя далі за гэта шмат хлеба. „Вось і маем з чаго жыць! — радасна думалі багатыя: — будзем даставаць золата з зямлі, прывозіць яго сюды, а тутака браць хлеб“. Паплылі да сябе і пачалі працаваць — шукаць золата. Цяжка працавалі яны. А зямля — свая зямля, з каторае можна было мець уласны хлеб, толькі працы трошкі ўлажыць у яе — ляжала адлогам; лес парос на ёй... Тады людзі ўжо саўсім забылі Бога і думалі толькі аб золаце. І разгневаўся Бог у канцы на людзей. „Не, з гэнага народу нічога ня будзе; ён не займаецца тым, чым я загадваў яму, творачы чалавека, а зьвярнуўся да іншага занятку яму непатрэбнага! І Мяне, Створцу свайго, забылі. Выгублю іх!“...

— Дзядзька Арон, — адазваўся я: — ці-ж паміж гэнымі людзьмі ня было а ніводнага добрага?

— Чаму не, хлапчук, быў адзін такі — сын караля. Ён заклікаў усіх узяцца да свае працы, да тае, для якое яны радзіліся. Але яго прамовы вельмі не падабаліся багатым і каралю самому. Скончылася на тым, што кароль, пасьля прамовы свайго сына, у каторай той пераконваў яго кінуць пагоню за золатам, замкнуў яго ў цёмную турму на хлеб і ваду; — турмаў калісь, у шчасьлівыя часы, таксама ня ведаў ніхто.

І вось, знача, Бог пастанавіў вынішчыць гэны народ...

Паклікаў Бог анёлаў і сказаў ім: „Ідзеце пад зямлю, скажэце духом агню, што жывуць там, каб яны спалілі нікчэмную зямлю тую“. І пайшлі анёлы. А Бог паклікаў да сябе аднаго з сваіх анёлаў — Сьмерць — і сказаў яму: „Пранясіся над тым краем, адкуль прыплылі купцы да няшчаснае зямлі, што я пастанавіў спаліць, і вынішчы там палову жыхароў; імя табе цяперака хай будзе — Чорная Сьмерць“.

— Чорная Сьмерць? — гэтак шэсьцьсот гадоў таму называлі чуму, якая прайшла праз Эўропу і ўсьмерціла якраз палову жыхароў яе, — сказаў я.

— Можа быць гэта была гэная Чорная Сьмерць, што Бог паслаў, — з усьмешкай сказаў Арон, і казаў далей.

— Вось паляцела тая Чорная Сьмерць туды з касою і, кудэмі ляцела, там заставаліся горы трупаў. Сын унікаў тады бацькі, маці—дачкі, брат—сястры; усе сваякі баяліся адзін аднаго. А духі агню таксама рабілі сваю працу; пад той край падлажылі агню, што ў нетрах зямлі хаваецца, і спалілі яе. Згарэла зямля, згарэлі людзі, іх золата, іх гордасьць...

— Ну, а што зрабілася з каралеўскім сынам, што быў пасаджаны ў турму? — цікаўна запытаўся я.

— Анёл прышоў да ягонае турмы, дакрануўся да яе пальцам, і яна рассыпалася ў порах. Тады ён вывяў юнака і сказаў яму: „Цераз якія дзесяць хвілінаў агонь пажарэ гэны край, але Бог цябе пастанавіў збавіць; вось ты будзеш вечна плаваць па акіяне і ў часе буры даваць помач і ратунак гінучым мараком. Але гэта дзейнасьць ня будзе табе цяжарам“.

Толькі сказаў гэта анёл, юнак пачуў сябе раптам на вадзе, але зараз-жа зьявіўся карабель, каторы лёгка панёс яго далёка ад яго радзімага краю, над каторым ужо вісеў дым і полымя палала...

Вось гэны каралевіч лічыцца апякунчым духам усіх рыбакоў і маракоў, якія ў мінуту сьмяротнае небясьпекі клічуць яго на помач; і заўсёды гэтак, як клічаш яго і верыш, што прыплыве, то ён збавіць цябе і завязе да бясьпечнага месца; а калі ня верыш, — згінеш. Але дзіўна тое, што яго рэдка хто бачыць; толькі хто мае сумленьне чыстае, той бачыць ягоную туманную постаць, стоячую каля кіруна...

Ён замоўк, маўчаў і я; сівы туман аблёг паверхню мора; ён быў такі густы, што яго можна было нажом, здавалася, рэзаць. Халодныя хвалі лізэлі падножжа рыфу, дзе я сядзеў з Аронам; здалёку даносіўся рэў вады паміж бурунамі.

— Эй, вячэраць ідзеце! — пачуўся голас „старое“ Арона, якая вышла з маяка.

— Ідзем, што замысьліўся, god poikaa (добры хлапец)? — сказаў стары Арон, патрапаўшы мяне па плячы.

За вячэраю, прыгатаванаю хоць проста, але смачна, я ніяк ня мог забыцца аб юнаку каралевічу, што носіцца з сваім паветраным караблём па магутных хвалях акіяну, падаючы помач гінучым; уночы нават сьніў аб ім.

*С. Белайц.*

# НЕНАДРУКАВАНЫ Ў МЕНСКУ ВЕРШ.

Ніжэй падаем верш невядомага паэты, прысланы нам з Менску, верш надзвычайнае дынамікі. У Менску ён ня мог быць выдрукаваны, бо востра выступаець проціў бальшавікоў, крытыкуючы іх акупантскую палітыку. Не прыдворная, казённая савецкая паэзія, — а гэты верш адбіваець праўдзівыя настроі і думкі беларускага народу, у нетрах якога накіпаець пратэст проціў камісарскіх гвалтаў. Грамадзкае значэньне верша сягоньня трудна яшчэ ацаніць: — так далёка ў будучыню сягаець думка і імкненьне паэта. *Рэдакцыя.*

* *
*

*За ўсе краі, за ўсе народы сьвету,*
*І што былі, і прыдуць што пасьля,*
*Аздобленае горкім, цьмяным цьветам*
*Зазнаць нам гора лёс благі паслаў.*

*Скараліся і моўчкі ўсё прыймалі:*
*Самохаць можа прыйдзе лепшы час.*
*Як лісьцінку на поплаве качалі*
*І зневажалі чужаніцы нас.*

*Калёнія праз некалькі сталецьцяў,*
*Наедак ненажорным груганом...*
*Я прысягаю — праклянуць нас дзеці ..*
*За апяшаласьць нашу нам праклён.*

*На плечы ганьбы мы прынялі многа:*
*Нявольніцтва, жабрацтва навакол.*
*Сьлязьмі сясьцёр чужынцам мыем ногі,*
*Заместа песен — стогны бедакоў.*

*Прыціх наш край: ад гутарак аскома...*
*Прыціх наш край: маўчаць, ўсе маўчаць.*
*Свабодай карыстаюцца сачкомы*
*Каб тых, хто мысьліць, у вастрог саджаць.*

*Дакуль чакаць і варажыць павінны?*
*Пакуль раса ня выесьць вочы нам...*
*З усіх бакоў над нашаю краінай*
*Сплялася нясусьветная мана.*

*На нашым карку торг спраўляе сьмела*
*Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,*
*І наша змучанае катам цела*
*Штогодна новай кроіцца мяжой.*
*Масква сусьвету вушы прашумела*
*Пра самавызначэньне аж да зор.*
*Смаленск дзе? Нэвель? Гомель дзе падзела?*
*Стварыла Гомельскі ганебны калідор.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,*
*Пасьмешышчам для сьвету ўсяго.*
*Як быццам мала ў нашай волі сталі,*
*Як быццам у сэрцах нашых згас агонь.*
*Браты мае! Даволі ашуканства,*
*Гасьцей да хаты выправіць пара.*
*З лазы заплаканай сплящём ім кайстры*
*Для нарабаванага ў нас дабра.*
*Сьляды іх гідкія пяском пасыпем,*
*Пясочкам сьветленькім пасыпем іх,*
*Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў*
*Апошні водгук прагучэў і сьціх.*
*А не, — дык надармо ўсё, жыцьцё надарма,*
*Лажыся ў яму Сам, Народзе мой, —*
*Пакуль ты сам ня будзеш гаспадарыць, —*
*Не разьвітаешся з жабрацкай калітой.*

Менск. 29 верасьня 1926 г.



РАБІНДРАНАТ ТАГОР.

# Суклон сталецьця.

(*Напісана ў мове бенгальскай у апошні дзень мінулага сталецьця*).

1.

У крывава-чырвоных хмарах захаду, ў віхры ненавісьці гасьне апошняе сонца сталецьця.

Ахопленае бязмэжнай ненасытнасьцю, бясстыднае самалюбства нацыяў скача свой шалёны, п'яны танец пад музыку звону мячоў, пад дзікую песьню помсты.

2.

У разгары шалёнае ярасьці, прагавітае цела Нацыі лопне ад бясстыднае пражорлівасьці.

Бо ўвесь сьвет абярнула яна ў свой корм.

І аблізвае, жуе, глытае аграмадныя кускі і ўсё больш і больш распухае, покуль прамень нябеснай сьветласьці раптоўна не перарве яе дзікага балю, пракалоўшы яе жорсткае сэрца.

3.

О, мая Бацькаўшчына! Пурпуровая зара там, на небасхіле, — гэта ня сьвітаньне Тваё!

Гэча гарыць вогнішча, на якім палае аграмадны труп — самалюбства Нацыі.

Ён згарыць і будзе попел.

Ён загіне ад свае ненасытнасьці.

Сьвітаньне тваё чакае цябе, схованае ў ціхім змроку Ўсходу. Чакае цярпліва і моўчкі.

4

Будзь на варце, Індыя!

Няхай будуць падрыхтованы ахвяры Твае, калі настане сьветазарны Ўсход Сонца;

Няхай будзе голас твой першым яму прывітаньнем.

Сьпявай:

Прыдзі, нарадзіся *сьветласьць*, у вялікіх муках Бажаства, прыдзі са скарбам ціхага шчасьця, прыдзі з мячом адвагі, з чалом павенчаным любоўю.

5.

О, браты мае! Не саромцеся стаяць перад тым, хто чваніцца сваёй магутнасьцю ў белым адзеньні вашае прастаты.

Няхай будзе вянком вашым—пакора, а свабодаю—свабода душы вашае.

На голых палёх убогасьці вашае, будуйце што дзень пасад Бога вашага і ведайце:

„Аграмаднае ня ёсьць яшчэ *Вялікае* і чванства недоўгавечна“.

*Вольны пераклад М. Г.*



# З ВЕРШАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА*).

* * *

Цемень! Сосны. Елкі. Мох! Кара.
Сьмерць прыйшла ужо ка мне...
Разгарысь вячэрняя зара
У туманнай вышыне.

Цёмнай ноччу страшна у жальбе
Паміраць. — Шуміць трава,
Глуха дзяцел ў дрэва б‘е,
Гучна гукае сава.

А памрэш—прыцiснуць грудзь пласты
Гліны. Ўстану-ж на яру,
Падыйму галоўку праз кусты,
Гляну ў неба і памру.

Скоціцца карона, пабяжыць
Залатая ў шеры мох,
Чорны крот магілу прыйдзе рыць,
Дрогне вецер па кустох.

Месяц брызьне хваляй серабра,
Расой блісьне ў нізіне...
Разгарысь вячэрняя зара
У туманнай вышыне.

Яраслаўль.

## Мая душа.

Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор.
Вартуе вольных птушак крыкі
Мая душа, як ястраб дзікі.

Учуўшы іх, страхне вялікі
Свой сон, шыбнець ды вышей гор
Мая душа, — як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор.

## Вечар.

На небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане сьнегавым,
Над лесам, дзе шапочуць клёны
У небе месяц ўстаў зялёны.

Ўсё сьпіць. Нябачыць сьвет стамлёны
Што, сьвецячы праз хмарак дым,
У небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане сьнегавым.

Яраслаўль.

* * *

Дождж у полі і холад... Імгла...
Дзесь у вёсцы міргаюць агні.
Там злякаўшысь схавалась, лягла
Доля горкая ў чорным цені.

І пад цёмнымі скрыдламі ночы
Не убачаць цяпер яе вочы.

Толькі вецер асеньні, начны
У полі сумна гудзіць і пяе
Аб радзімай старонцы глухой,
Ды аб долі нешчаснай яе.

Цісьне сэрца мне песьня начная...
Хай жа голасна вецер сьпевае,

Хай пяе ён у роднай зямлі,
Каб у сэрцах нам сорам збудзіць,
Каб змагацца з непраўдай ішлі,
У чыім сэрцы сумленьне ня сьпіць.

Долю чорную ноч не схавае,
Калі выльецца песьня жывая!

*) Вышэй падаемо чатыры вершы М. Б. — з тых, якія у „Вянок“ не увайшлі і мала ведамы грамадзянству.

# Натхненьне.

Ў Тваіх казках вясновых і вершах,
Ў Тваіх радасьцях — муках Тваіх;
Прамень сонца чырвонага першы,
Водгульле гімнаў маёвых зямлі.

Узмацняе нас новаю верай
Тваіх крыльляў паточысты шум;
Ты палюбоўніца, мроя, гэтэра,
Нараджэньне высок х Ты дум.

Ап'яняеш нас новым каханьнем,
Новай прагай нас мучыш ізноў;
І гарыць наша сэрца жаданьнем,
І кіпіць зноў гарачая кроў.

Ты зоры вясной пакідаеш,
Ляціш на зямлю, на зямлю;
Ты вецер устрэчны вітаеш
Клічам вечным: Люблю... Люблю ..

Захапляеш бясьмертнай красою,
Уздымаеш пад высі нябёс;
З дазваленьня Твайго і загаду.
Прамэтэй нам агонь свой прынёс.

З тым агнём мы ня маем спакою.
Таямніцы *ўсе* прагнем пазнаць:
Што Любоў?... І што Сьмерць?...
Тайну вечнасьці хочам згадаць.

Але што Табе казка-мінутка
Чалавечых імкненьняў вянок?
Як чароўная папараць-краска,
На сьмяротны вядзеш Ты нас крок.

З даляў сонца і даляў сьвітаньня,
З даляў вечных загадак жыцьця,
Ты прыносіш нам сьмерці [каханьне
І магільную ціш нябыцьця.

# Восень у садзе.

Ападае жоўты ліст.

Так адыходзіць у вечнасьць мінулага вясна — з яе зялёным туманам і кветкамі.

Так паміраець май і моладасьць.

Успомні Яе!...

Перад табою маладая дзяўчына. Кожны рух Яе, гэта сьмех кветкі пад лёгкім ветрам. Ногі — вішняк з сокам гарачае крыві. Першыя іскры ў Яе вачох і малінавы сьмех. Ён бунтуе цябе салодкім бунтам. Успомні першы пацалунак і стан Яе, падобны да гнуткае лазы. Успомні ноч, цёмную ноч каханьня, — як закусіўшы вусны Яна стагнала асалодаю вясны.

А цяпер?...

У садзе я поўным грушак і яблык.

Там, дзе калісьці цьвілі белым цьветам зялёныя галіны, — нагнуўшыся пад цяжарам пладоў, крэхчуць яны, успамінаючы белы май.

То тут, то там з прадсьмертным апошнім гукам падаець пажаўцеўшая грушка. Часам я падымаю яе, разглядаю. Зьедзена чарвямі.

Так паміраець май і моладасьць.

Ападаець апошні жоўты ліст.

Вільня, 1927 г. *Янка Долін.*

* * *

Я быў на могілках пакінутых,
[пустых,
Паміж магіл і надпісаў старых;
Прайшло ўжо столькі лет,
Што на'т зацёрся сьлед
І ўходу, і равоў, што служаць за
[граніцы,
І на'т хундамэнтаў раськіданай
[капліцы.
Адно сасна зялёнаю хваёй
Задумліва шуміць вяршынай
[маладой.
Далёка ў вышчыні, як нейкі страшны
[пан,
На жудасны матыў крычыць груган.
Дзень яркі. Сонейка пад небам
[залаціцца
І сеткай залатой на дрэвах мітусіцца.
Шныраюць птушачкі малыя між
[кустоў,
Там скрыпне дзерава... і ўсё
[заціхне зноў.
Нявольна жудасна зрабілась мне,
Ці-ж гэтулькі ўсяго пакінем па сабе?
І шапаціць ў адказ рабіначка малая,
Што думкі тых людзей, жывуць
[у сьпевах мая.

* * *

Дзіўным здавалася мне гэта
[зьявішча,
Дзіўным здавалась ня раз,
Што на свой лёс у нас толькі ўсе
[жаляцца,
Толькі ўсе плачуць у нас.
Вось захацеў я сваей пастановаю
Гэты парадак зьмяніць;
Песьняй шчасьліваю, песьняй
[вясёлаю
Буду людзей весяліць.
Трэба-ж да песьні знайсьці мне
[натхненьне,
Трэба кругом пашукаць;
Не беспадстаўныя-ж зноў лятуценьні
Гэта змаглі-бы мне даць.
Глянуў навокал і з шчырай ахвотаю
Шчасьця па хатах шукаў,
Усюды знайшоў толькі гора
[з бядотаю,
Шчасьця на'т сьлед запрапаў.
Ўдарыў па струнах я — чорнымі
[жалямі,
Горычы, песьні нясьлісь,
Быццам атруты зьмяінымі хвалямі
Ў сэрцы маім разьляглісь.

*Язэп Паляшук.*

# У бары.

Стогне, шуміць чорны бор векавы,
Сумна песьню аб нечым сьпявае;
І ў той песьні чуваць дзіўны гул
[ракавы,
Гул таёмны за сэрца хапае.
Аб чым-жа пяе ён, аб чым-жа шуміць?
Незразумелыя песьні той словы.
Гукі сумныя й гострыя можна злавіць,
Непанятнае нейкае мовы.
Той слухаеш песьні і сэрца дрыжыць;
І чуеш ў ёй нейкія стогны...
Сьлёзы вякоў бор здалеў аднавіць,
Каб сказаць і сьпяваць нам сягоньня.
Стаіць ён ўжо доўга, стаіць цэлы век,
Як сьведка стаіць, ўсё, што бача, хавае:
Як цягне жыцьцёвы цяжар чалавек
І як, змучаны, долю ён злае.
І здаецца, каб знаў словы песьні тае
Вялікую-б тайніцу зьведаў;
Разгадаў-бы загадку жыцьця на зямлі,
Украў-бы ад бору, праведаў.
Але не, мы няздольныя ўслухацца, не!
Зразумеці ня можам той песьні,
Мы слухаем вухам — ў душы-ж, там
[на дне
Нейка ноч і туман, дый і плесьні.
О! натура адна, што кругом каля нас;
Гэты бор, столькі тайнаў хавае,
Зразумець каб, пазнаць можа-б іншы
для нас
Быў-бы лёс, дый і доля другая.

1927 г. *Міт.*

# Новыя творы Я. Коласа.

Якуб Колас (другі псэўдонім — Тарас Гушча), які нядаўна спраўляў сваё літэратурнае дваццацьгодздзе ня толькі вялікі паэт, аўтар „Песьняў Жальбы“, „Сымона Музыкі“ і „Новае Зямлі“, якую ён скончыў у 1923 годзе. Пад псэўдонімам Тараса Гушчы ён узбагаціў і беларускую прозу. За апошнія гады ім напісана шмат расказаў бытавога характару, з якіх відаць што талент прозаіка не пакідаець нашага вялікага песьняра і знаходзіцца ў росквіце свае сілы.

Характэрнаю адзнакаю прозы Я. Коласа (Т. Гушчы) з'яўляецца смачны, дабрадушны мастацкі гумар, што ў паэтыцкіх творах, калі ня лічыць „Новае Зямлі“ наскрозь бытавое паэмы, знайсьці бываець трудна.

З апошніх расказаў нам вядома яго гумарыстычная „*Адукацыя*“. На гэты раз Тарас Гушча малюець нам савецкія тыпы.

Героямі яго „*Адукацыі*“ з'яўляецца савецкі студэнт — рабфакавец Кузьма і вясковая дзяўчына Насьця, якія „сустрэліся, спадабаліся, прызналіся, падмацавалі прызнаньне адпаведнымі дзеямі і прыйшлі да заключэньня, што адзін без аднаго жыць ня могуць“.

Далей пачынаецца „трагэдыя“. Кузьма—рабфакавец-студент. Ён вянчацца ў цэркві ня можа, бо яго „перакананьні“ не пазваляюць.

— Не магу, кажа ён, арганічна пераварыць папа і Ісаію Лікуй. Якое дзела Ісаіі да яго жаніцьбы· І чаму ён павінен тут лікаваць? І што такое Ісаія? Буржуазны прарок...

· Такая аргумэнтуцыя „адукаванага“ Кузьмы не магла аднак пераканаць Насьці і асабліва яе бацькі Андрэя:

— Мая Насьця не мяшок продналогу — аддаў і клопат збыў. Тут трэба зрабіць палюдзку, пабожаму... — Не хачу гэтае вашае прысягі на сьвіной скуры...

І вось паўстае бытавы канфлікт. — На гэтым і пабудаваны сюжет расказу, напісанага з вялікім талентам гумарыстага.

І хоць справа са шлюбам канчаецца кампрамісам, але перад тым, як скончыць усё падобраму аўтар ставіць Кузьму ў такім камічным палажэньні, што, чытаючы расказ можна бакі падарваць са сьмеху. Сымпатыі аўтара пры гэтым увесь час на баку неадукаванае прыгожае Насьці, а рабфакавец паказаны нейкім савецкім дурнем.

Большае значэньне маець другая часьць повесьці „*У Палескай Глушы*“, якую Я. Колас толькі нядаўта скончыў і якая ў хуткім часе будзе выдрукавана ў адней з Менскіх літэратурных часопісаў. Большае значэньне таму, што повесьць „У Палескай Глушы“, як-бы зачынаець паважную мастацкую беларускую прозу. Ужо першая часьць „У Палескай Глушы“ зьвярнула на сябе ўвагу мастацкімі малюнкамі прыроды і быту глухога кутка Палесься.*) Нажаль поўны зьмест гэтае другое часьці повесьці „У Палескай Глушы“ нам невядомы, бо ў „Маладняку“ (сшытак пяты — май 1927 г.) была выдрукавана толькі — разьдзелы X, XI і XII. З гэтых разьделаў відаць, што героям другое часьці зьяўлаецца той-жа самы настаўнік Лабановіч, што і ў першай часьці. Апрача яго паказаны і іншыя тыпы настаўнікаў.

*) Повесьць „У Палескай Глушы“ можна дастаць у беларускіх кнігарнях у Вільні.

У вышейадзначаных трох разьдзелах апісана жыцьцё Лабановіча дома, ў бацькі, ў вёсцы Мікуцічы, над Нёмнам, расказана аб тым, як ён успамінаець часамі Цельшын і Ядвісю, што параніла яго сэрца першаю любоўю, як хоча памагчы сялянам пабудаваць грэблю, павялічыць ураджайнасьць поля і як з усяго гэтага нічога ня выходзіць і Лабановіч нарэшце едзець у новую школу вучыць дзяцей.

Калі першая часьць „У Палескай Глушы“ даець нам мастацкі малюнак быту Палесься, то разьдзелы X, XI і XII з надзвычайным талентам і сілай малюець нам прыроду і быт беларускае вёскі над Нёмнам. Свой расказ Тарас Гушча перасыпаець дыямэнтамі народнае гутаркі і, падаець як і ў першай часьці цудоўныя народныя легэнды.

Ня можам устрымацца ад таго, каб не пазнаёміць чытача з апісаньнем жыцьця над Нёмнам улетку, якое сьведчыць, што талент Коласа, як прозаіка, падняўся на такія высі, на якія не патрапіў узыйсьці да гэтага часу а ніводзін з беларускіх пісьменнікаў, бо што можа быць лепшае ў беларускай літэратуры ад такога малюнку:

— Каля самага сяла, падмываючы вулілы, цячэ Нёман. Разложыстыя, круглаверхія вербы, узьняўшы над вадою карэньне, абступаюць пяшчаны бераг...

„Шумна і гучна ў летку на беразе Нёмна. З ранку і да самага вечара галышамі качаюцца тут дзеці, то ў пяску, то ў вадзе. Сотнямі гукаў разносіцка над Нёмнам плясканьне пранікаў. Падаткнуўшы спадніцы і агаліўшы лыткі, выбіваюць палотны жанкі і дзяўчаты, беляць іх, расьцілаюць па беразе. • У гэтым мейсцы Нёман мелкі і шырокі. І езьдзяць і ходзяць і скаціну ганяюць у брод. Цалюткі дзень снуюць тут людзі — старыя і малыя, хто за Нёман, хто з-за Нёмна. Перайсьці ў брод летам — адна асалода. І калі ў мужчын ёсьць яшче такі-сякі клопат — падкасацца, або скінуць нагавіцы, калі вада ў Нёмне набудзе, то жанчыны ў гэтых адносінах зусім шчасьлівы народ. Падымуцца на хаду, колькі трэба, і храбра рушацца ў брод, не зважаючы, ці ёсьць хто тут, ці не, глядзяць на іх, ці не глядзяць. Часамі-ж некаторыя сьмелыя і рызыкоўныя асобы, асабліва, калі на беразе есьць гледачы, сумысьля нарыхтуюцца брысьці так, як бы тут вельмі глыбока і можна падумаць, што вада займе іх па самыя пахі, хоць вышэй кален яна не даходзіць...

Бывала і жартам перакінуцца ў такіх выпадках па істоце справы...“

Ня гледзячы на скаромныя кавалачкі ў гэтым апісаньні — вы не адчуваеце іх і проста захоплены праўдзівасьцю дабрадушнага гумару.

А вось і другі кавалак:

Па той бок Нёмну лугі ідуць, а за лугамі — лес і поле. Вярсты дзьве будзе да поля. Ляжыць чорная грэбля ўпоперак луга, адным канцом да Нёмна падходзіць, другім — у поле ўпіраецца. Вось гэтая грэбля — бяда і гора мікуціцкае. Покі праедзеш яе — духі вытрасеш і кішкі збоўтаеш, а ў мокрае лета і каня ўгрузіш, і сам, як д'ябал, у гразі выкачаешся. І снасьць ламалі тут і жывёлу калечылі. Паганая грэбля, каб яе і людзі ня знали. Праклiналі гэтую грэблю — так-жа ўелася яна ў косьці. А калісь тут, як расказваюць старыя людзі, праўда, самі яны ня помняць, быў мост. І цяпер яшчэ сям-там па баках грэблі засталіся рэшткі паляў, і тырчаць яны з гразі, як згніўшыя зубы ў сківіцы. Але мост гэты быў зьнішчаны ў часе Швэдзкага Паленьня. Жыве яшчэ ў памяці народа гэтая вайна

са швэдамі. Нават імя свас мае ў вуснах народа гэтая вайна — Швэдзкае Паленьне. Вось і спалілі тады швэды мост. Вялікія бойкі адбываліся тут. А над самым Нёмнам, вышэй трохі сяла, ёсьць курган-магіла. Размывае Нёман грудзі гэтай невядомай магілы, вымывае чалавечыя косьці і старасьвецкую зброю. І перадаюць мацяркі сваім дзецям аб гэтай страшнай часіне Швэдзкага Паленьня. Многа тады народу пабіта было, а будынкі папалілі. Людзі па лясох таіліся. І кідалісь швэды на хітрыкі.

Гукалі яны ў лесе:

— Тацяна, Мар'яна! выходзьце з лесу: швэды да дому паехалі!

І калі хто выходзіў на голас, таго забіралі і забівалі.

Многа было пабіта народу тады, і жывёла амаль уся перавялася. У Мікуцічах застаўся адзін толькі бык, а ў Сьверынаве — карова. Сабралі гэтую пару людзі потым і аралі на ёй. Але нарэшце пакараў Бог швэдаў за зьдзекі над людзьмі — асьляпіў іх, і калі садзіліся яны вярхом, то садзіліся тварам да конскага заду, і тады іх пабілі.

Такая легэнда зьвязвалася з грэбляю і з даўнейшым мастом, што быў на месьце гэтай грэблі".

Ад'езд Лабановіча у новую Выганскую школу апісаны ў XII разьдзеле, які пачынаецца вельмі прыгожа:

„Канчалася лета.

На лугох ужо расьцілалася зялёнымі аксамітамі пяшчотна-кволая атава. Парыжэлі стагі. Зьбіраліся ў вырай буслы. Агорнутыя сіняватаю смугою, журботна пазіралі далечы і ніклі ў сьвятле жніўеньскага сонца.

Пачалі разьяжджацца з летніх вакацыяў настаўнікі. — Пажыў, брат, і годзе: зьбірайся на сваё седала! У гэтым голасе восені чуваць нейкі смутак, бо, здаецца, так нядаўна яшчэ гучаў другі голас, радасны, сьвежы голас вясны: разгарні крыльле, рушся з месца, ляці на прастор, жыві, як толькі ты здолен жыць!"

І вось з гэтым смуткам у сэрцы Лабановіч пакідае родную вёску: „Напярэдадні ад'езду пайшоў Лабановіч у лес, каб апошні раз абыйсьці свае грыбныя абходы і разьвітацца з імі.

У лесе было зусім ціха. Скрозь галінкі выносных хвоек прабіваліся цёплыя косы верасьнёўскага сонца. Пажоўклыя калюшкі бяз шуму ападалі на дол, чуць закранеш галінку. Дзесь ў небе закрычалі жураўлі, шыбуючы ў вырай. Лабановіч адчуваў нейкую мяккую журботу, навеяную і цішынёю лесу, і гэтым заміраньнем жыцьця. І розныя думкі, лёгкія, бы гэтыя цені хваёвых галінак, журботныя, як і гэтае курлыканьне жураўлёў у небе, снавалі ў яго сэрцы.

Было чагось шкода, як-бы нейкая страта спаткала яго. Думаў аб сваім новым месьце, складаў новы плян і свайго жыцьця і свае работы на новым месьце. Успаміналася Цельшына. Цяпер яно нейк адыходзіла ад яго, ахіналася мрокам, рабілася пустым і чужым, бо ня было там таго мілага вобразу, што даваў жыцьцё і радасьць. І гэты вобраз неадступна хадзіў з ім па лесе, адганяў іншыя думкі яго, змушаючы думаць аб сабе. І гэтыя словы Ядвісі: „калі вы мяне пацалуеце, то, клянуся памяцю мацеры, я кінуся пад машыну", ніяк не забываліся, і сама яна, як жывая, стаіць у яго ўвесь час перад вачамі."

З нецярплівасьцю будзем чакаць канца повесьці, каб пазнаёміць нашага чытача з яе зьместам. *Аглядчык.*

# Шлях да Незалежнасьці Беларусі.

Ідэал беларусаў — гэта вольная, непадзельная Беларусь, Беларусь народная, Беларусь працы і адраджэньня. Ніякія цёмныя, варожыя сілы, ніякія перажыткі рабства, ніякія хмары сучаснасьці ня вырвуць з сэрца беларускіх народных масаў гэтае ідэі. Яна жывець і захапляець новыя і новыя сотні маладых беларускіх барацьбітаў. Мыляюцца яны, спатыкаюцца, падаюць у спрытна прыгатаваныя ямы, — але ізноў падымаюцца і ідуць да свае мэты.

І вось аб гэтым шляху хочацца нам сягоньня гаварыць, хочацца таму, што беларускі нацыянальны рух перажываець нябывалы яшчэ ў яго кароткай гісторыі крызіс і стаіць на раздарожжы, па пераломе.

Там, на Ўсходзе, набраўшыся сілаў, ён пачынаець штурмаваць маскоўскую акупацыю. Нацыянальна - рэволюцыйнае крыло яго ідзець там у падполье. Лістападаўшчына была першаю ластаўкаю гэтага няўхільнага працэсу, — а сягоньня мы ужо бачымо там сотні арыштаваных беларусаў. За што? Адказ ясны. Маскву пужаець здань незалежніцкае нацыянальнае ідэі.

Тут у Вільні крызыс прымаець іншыя формы, але істота гэтага крызысу тая самая. Упадак грамадаўшчыны, ўплывы якое зьмяншаюцца ў сувязі з крызысам на Ўсходзе, раскол Сялянскага Саюзу, сутнасьць якога ў банкруцтве літоўскае арыентацыі і ластоўшчыны і ў шуканьні новых шляхаў для сялянскага руху, раскол Нацыянальнага Камітэту, які прыняў вострыя формы грызьні, банкруцтва псэўда-полёнофільскае групы Паўлюкевіча, — ці ня сьведчыць гэта аб тым, што беларускі нацыянальны рух маець ўступіць у новую фазу і прыняць такую тактыку і стратэгію, якая-б адпавядала ідэі незалежнасьці і адначасна з гэтым не супярэчыла агульна-чалавечым ідэалам — роўнасьці і братэрства ўсіх народаў.

* *
*

Тры праблемы стаяць сягоньня прад кожным беларусам незалежнікам. Першая — гэта праблема адраджэньня і росту беларускае культуры. Яна зьяўляецца самаю актуальнаю і самаю важнаю. Могуць мяняцца розныя арыентацыі розных палітычных групаў і нават асобаў, можа быць зьменена тактыка руху, у залежнасьці ад абставінаў; але ідэя Незалежнасьці Беларусі, самабытнасьці яе і адраджэньня ня можа быць зьменена. Яна застаецца назаўсёды, навекі.

Росквіт беларускае культуры, — як выяўленьне нацыянальнага творчага гэнія — росквіт беларускае школы і навукі, беларускае літэратуры і мастацтва, — адраджэньне нашае эканамічнае сілы і прад усім нашае сельскае гаспадаркі — вось першая баявая запаведзь-задача кожнага незалежніка.

Дрэнна робяць тыя, хто блутаець ідэю нашае культуры, ідэю вечную— з бягучымі задачамі палітыкі і палітычнаю барацьбою, — а тым больш з грызьнёю. Гэтым яны выдаюць сабе атэстат на вельмі дрэнных палітыкаў.

Барацьба за легалізацыю нашага культурнага руху — вось чарговы крок Усходняй і Заходняй Беларусі. І калі на Ўсходзе культурны беларускі рух немагчыма аддзяліць ад палітыкі пануючай і дыктатарствуючай

там партыі, — і ён мусіць там ісьці на пэўны, часовы кампраміс, альбо хавацца, то тут, у Польшчы, пры сучасных палітычных абставінах, легалізавать беларускі культурны рух ня так ужо трудна. Незалежнікам трэба гэта зразумець і зрабіць адпаведныя крокі. Нават невялікія рэальныя дасягненьні ў гэтым кірунку будуць мець у сто раз большае значэньне для ідэі незалежнасьці, чымся безплоднае палітыканства па заказу варожых беларушчыне сілаў.

Але да якога-бы высокага роскзвіту не дасягнула беларуская нацыянальная культура і нацыянальная сьведамасьць для кожнага беларускага незалежніка павінна быць зразумелым таксама і другое: *дабіцца незалежнасьці Беларусі ў дзяржаўных формах немагчыма толькі аднымі сіламі беларусаў. Дзеля гэтага патрэбны саюзьнікі і саюзьнікі верныя.*

Успомнім паўстаньне незалежных дзяржаў пасьля вайны. Паўстаньне Польшчы было-бы немагчыма без дапамогі Францыі і Англіі, — дапамогі ня толькі маральнае, але і матэрыяльнае. Паўстаньне Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі і Чэхаславакіі таксама адбылося пры міжнароднай дапамозе. Гэтая міжнародная дапамога не адразу ўпала з неба. Яна рыхтавалася дзесяцьцігодзьдзямі праз літэратуру, праз навуку, праз грамадзкую думку, праз сувязь і супрацоўніцтва грамадзянства.

Само сабою паўстаець пытаньне, — хто-ж можа быць тым моцным саюзьнікам беларусаў, а разам з тым і ўкраінцаў пры паўстаньні іх да незалежнасьці?

Мы падыходзімо да другое праблемы — праблемы палючае, да арыентацыі на Усход, на Маскву, на Саветы, да арыентацыі наагул на Расею.

Мы лічым гэтае пытаньне палючым дзеля таго, што сягоньня усходняя арыентацыя лічыцца моднаю зьяваю не толькі для моладзі, якая ня ведяе гісторыі, — але і для людзей паважнейшых, для некаторых старых адраджэнцаў. Арыентацыя на Усход, — зьяўляецца сягоньня проста нейкаю хваробаю ў беларускім, лепей кажучы ў псэўдо-беларускім руху.

Грамада арыентуецца на Усход. Ярэміч, Рагуля, Богдановіч пры маўклівай згодзе беларускай хадэцыі ўступаюць у блёк з расейскімі элемэнтамі Польшчы на выбарах у віленскі самаўрад. Паўлюкевіч, убраўшыся ў палёнафільскую вопратку трымаець нейкую падазроную сувязь з расейскімі манархістамі і эмігрантамі, а сваіх блізкіх супрацоўнікаў выхоўваець на расейскіх нацыянальных „гэрояў-патрыётаў“.

І гэта робіцца ў той час, калі ўся гісторыя Расеі, — ўся расейская грамадзкая думка, ўсе расейскія політычныя партыі без ніякага выключэньня, пачынаючы ад кадэтаў і канчаючы соцыялістамі і камуністамі і *слухаць ня хочуць аб Незалежнасьці Беларусі і яе адраджэньні.* Дзеж тут лёгіка, дзеж тут мудрасьць, дзеж тут політыка? Калісьці у Дзяржаўнай Думе у Расеі адзін з дэпутатаў звертаючыся до міністраў сказаў: „Што гэта — глупство альбо здрада?“ Тое самое запытаньне можна задаць і ўсім усходнікам, нежалежна ад іх колераў. Іх праца, іх кірунак, іх шлях — гэта здрада Незалежнасьці Беларусі, і мы тут голасна пратэстуем проці ўсходняе арыентацыі і ўсходніх ухілаў, якія вядуць беларускі рух на край сьмерці.

Голасна кажам, што гэтая згубная ўсходняя арыентацыя не дасьць нам волі, не дасьць незалежнасьці нашаму краю, не дасьць адраджэньня нашае культуры. Не зьяўляемося ворагамі вялікарускага народу і іх культуры. — Зьяўляемося праціўнікамі гістарычных дэспотычных традыцыяў

маскоўскага імпэрыялізму і маскоўскае вялікадзяржаўнасьці, праціўнікамі русіфікатарскіх гвалтаў над беларусамі, якія не спыняюцца і не спыняцца пакуль Масква будзе цэнтрам імпэрыі, замест таго, каб па справядлівасьці быць толькі цэнтрам велікарасейскае нацыі ў яе этнаграфічных межах.

Калі нават рабіць стаўку на Расею — як на кузьню рэвалюцыі, — то трэба рабіць гэткую стаўку не на кузьню, якая патухае, не на тую рэвалюцыю, якая паміраець у канвульсыях тэрору, якая акамянела ў формах бюрократыі і дэспотыі, але на новую рэвалюцыю, больш вялікую і справядлівую, больш багатую высокімі ідэямі ніж рэвалюцыя бальшэвіцкая.

Няхай не гневаюцца на нас расейцы. Мы кажамо горкую праўду. Няхай успомняць яны царскія часы і мураўеўшыну, Пабедоносцева, няхай успомняць нарэшце часы рэвалюцыі, калі ў дзяржаўнага кіруна стаялі правадыры расейскае дэмакратыі з Мілюковым, Керенскім і Чарновым на чале. Самыя нявінныя дамаганьні беларусаў і ўкраінцаў, — як аўтаномія, спатыкалі рашучы адпор Тымчасовага Расейскага Рэвалюцыйнага Ураду. Нам могуць сказаць, што расейская дэмакратыя змянілася сягоньня, што эміграцыя чаму небудзь навучылася. На жаль яна стаіць на тэй самай пазыцыі, што і дзесяць гадоў таму назад. І нават скрайняе левае крыло яе расейскія меншавікі і эс-эры, лічучы сучасныя граніцы Польшчы ненармальнымі,—зусім маўчаць аб незалежнасьці Беларусі і Украіны. Бальшавікі аказаліся самай спрытнай расейскай партыяй у нацыянальным пытаньні — Разагнаўшы аружнаю сілаю Усебеларускі Кангрэс у 1918 г., бальшэвікі 1-І.1919 году аб'яўляюць „Незалежную Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку". І хоць старшыня савету народных камісараў гэтае рэспублікі З. Жылуновіч у хуткім часе змушаны быў уцякаць з Менска ў Харкаў, — а рэшта камісараў беларусаў як Дыла, Фальскі і іншыя былі заарыштаваны Кнорыным і Мясьніковым, потым з мэтамі чыста стратэгічнымі бальшавікі пачынаюць ліберальнічаць у нацыянальным пытаньні і пазваляюць карыстацца беларускаю моваю у тэатры, ў школе, ў газеце, ў савецкіх канцелярыях. Зачынаецца эра гэтак званнае „беларусізацыі", пачатак якое трэба аднесьці на канец 1923 году. Гетая „беларусізацыя" была спрытным манэўрам дзеля таго, каб разбіць беларускі нацыянальны рух і стварыць усходнюю арыентацыю, на Маскву.

Целы рад беларускіх дзеячаў паверылі ў шчырасьць бальшавікоў і паехалі ў Менск пад крыло А. Чарвякова, які быў галоўным дзеячом у справе гэтае усходняе арыентацыі і спрытна выкарыстаў усе памылкі польскіх урадаў у нацыянальным пытаньні. Прайшло тры гады гэтае „беларусізацыі" і штож мы бачымо сегодня. У Менск вяртаецца той самы Кнорын, які калісьці душыў беларусаў. Галоўны правадыр, галава менскіх беларусаў Чарвякоў звальняецца са свае „высокае" пасады „прэзыдэнта С. С. С. Р. і Б. С. С. Р., яго прыхільнікі пападаюць у апалу, соткі арыштаваных беларускіх інтэлігентаў у Менску і на правінцыі, — вось фінал бальшавіцкае „беларусізацыі", якая сягодня ужо аказалася непатрэбнай бальшавікам і ўводзіцца ў цвердыя кнорынаўскія рамкі. Так, бальшэвікі аказаліся найбольш спрытнаю расейскаю партыяй, — але за тое і самаю небясьпечнаю для нацыанальнага руху, бо расколі яго і абязсілілі на нейкі час, стварыўшы ў лоне адзінае нацыянальнае беларускае сямьі развал і разброд, інтрыгі і прадажнасьць Апошнія падзеі ў Менску

вылячыць шмат каго з беларусаў ад усходняе хваробы — і трэба думаць што ў будучыне ўсходняя арыентацыя ўжо ня будзе мець тых эфэктаў, якія можна было бачыць у 1925 і 1926 г. Падводзячы крэску, яшчэ раз сьцьвяржаемо: *Расея, незалежна ад таго якая яна, да таго часу, пакуль яна Імпэрыя, самы страшны і самы небязьпечны вораг беларускае нацыянальнае ідэі — і нам з усходнім суседам не падарозе ў сваёй працы над адраджэньнем і уваскрашэньнем Нашае Бацькаўшчыны.*

Трэцяя праблема — гэта адносіны беларускага незалежніцкага руху да Польшчы, да польскага народу. Гэтае пытаньне, асабліва-ж пасьля маёвага перавароту, калі да ўлады прыйшлі польскія незалежнікі, стаіць перад беларусамі рубам.

З пункту гледжаньня вытрыманае незалежніцкае ідэолёгіі гэтае пытаньне можна тэорытычна паставіць так: *ці незалежная Беларусь будзе пабудована на руінах незалежнае Польшчы, ці ў згодзе з ёю?* Як-бы не круціць і не ўхіляцца, — кожны палітык мусіць знайсьці той ці іншы адказ на гэта вострае пытаньне і адказ ясны і зразумелы для народных масаў. У залежнасьці ад гэтага адказу знаходзіцца і тактыка ў адносінах да польскіх незалежнікаў. Калі руйнаваць Польшчу, — тады тактыка варожая, тактыка *байкоту, паленьне ўсіх мастоў*, калі-ж згода з польскімі нёзалежнікамі, — *тады кантакт, супрацоўніцтва*, супольная барацьба з ворагамі незалежніцкае ідэі. Так у тэорыі ставіцца пытаньне ня толькі намі, але і польскімі незалежнікамі — польскімі радыкаламі („Głos Prawdy“, „Kurjer Wileński“, і польскімі соцыялістымі („Robotnik“). Ды інакш і ня можа быць пастаўлена справа, бо ідэя незалежнасьці народаў — гэта не манапольная ідэя якое небудзь аднае нацыі, — а ідэя больш высокая, ідэя міжнацыянальная.

Поўнае высьвятленяне справы польска-беларускіх адносінаў пытаньне настолькі важнае для ідэі незалежнасьці Беларусі, — што яго ня можна разглядаць так, як намі разгледжана справа расейска-беларускіх адносінаў. І гістарычна, і тэорытычна і практычна польская незалежніцкая думка, за выключэньнем эндэцкіх колаў, ня толькі прызнавала за намі права на нацыянальнае адраджэньне, але і зацікаўлена была ў тым, каб беларускі нацыянальны рух стаў на моцны незалежніцкі грунт. Палякі незалежнікі па прыродзе сваей ня могуць быць ворагамі адраджэньня Беларусі і Украіны, бо разумеюць, што без Беларусі і Украіны істнаваньню незалежнае Польшчы пагражаець небясьпека. Да поўнага, ўсебаковага разгляду польска-беларускіх адносінаў і формаў супрацоўніцтва польскіх і беларускіх незалежнікаў пяройдзэм у наступных сшытках нашае часопісі.

*Незалежнік.*

# Ад „Нашае Долі“ да „Беларускае Культуры“*).

Першым беларускім рэдактарам трэба лічыць паўстанца 1863 г. Кастуся Каліноўскага, які ў агні збройнае барацьбы з маскоўскімі акупантамі залажыў тайную беларускую друкарню ў Беластоку і выдрукаваў некалькі нумароў *„Мужыцкае Праўды“*.

У сваёй *„Мужыцкай Праудзе“* гэты герой і прарок нашага нацыянальнага адраджэньня заклікаў наш народ да барацьбы з маскоўскім дэспотызмам і з панамі, прапаведваў роўнасьць і братэрства. Легэнда кажа, што перад самаю сьмерцю, калі мураўёўскі кат прачытаў прыгавар аб павешаньні і назваў К. Каліноўскага шляхціцам Ваўкавыскага павету, дык Каліноўскі голасна крыкнуў:

— На Беларусі няма шляхты. На Беларусі ўсе роўныя!

Так загінуў першы рэдактар першае беларускае газэты.

Калі паўстаньне 1863 году было задушана, а ў нашым краі запанавала мураўёўшчына, дык аб беларускім друкаваным слове не магло быць і мовы.

Чорная рэакцыя цягнулася доўга. Беларускія вершы і апавяданьні пашыраліся сярод краёвае інтэлігэнцыі ў рукапісах. І толькі ў 1891 годзе ізноў на сьвет Божы зьяўляецца беларускае друкаванае слова. На гэты раз ужо не газэта, а зборнік вершаў, і не ў Расеі, а ў Аўстрыі, у Кракаве. Там была выдрукавана *„Dudka Biełaruskaja“* Ф. Багушэвіча. Цэлых пятнаццаць гадоў прайшло ад гэтае даты да заснаваньня першае тыднёвае газэты *„Наша Доля“* у Вільні, ў 1906 г. Беларускія народныя масы спаткалі газэту з захапленьнем. Аб гэтым гістарычным здарэньні жывы сьведка яго — рэдактар ч. „Н. Д.“ так кажа:

„Наша Доля“ нарабіла шуму. Першы нумар у ліку 10.000 экзімпляраў (5.000 лацінкай і 5.000 кірыліцай) разышоўсяя амаль увесь. Прадажа газэты ў Вільні йшла так бойка, што газэтчыкі раз-за-разам прыходзілі ў рэдакцыю па новую порцыю, распрадаўшы ў працягу некулькіх мінут узятыя імі пробныя нумары. У Менску і паветах газэта таксама йшла добра. Хутка аб'явіліся падпішчыкі і беларускія пісьменнікі. Адны з першых супрацоўнікаў, што пачалі прысылаць свае творы, былі Ядвігін Ш., Якуб Колас і др. Другі нумар газэты грамадзянства спаткала таксама прыхільна, як і першы... Падпісчыкаў з кожным днём прыбывала ўсё болей і болей. Рэдакцыя з ўсіх канцоў Беларусі атрымлівала шмат лістоў, у каторых іх аўтары горача віталі „Нашу Долю“. З кожным днём паміж газэтай і беларускім грамадзянствам завязваўся цясьнейшы вузел. Папулярнасьць яе расла... Аб папулярнасьці „Н. Д.“ сьведчыць, паміж іншым, той факт, што іншыя стацьці вывучываліся чытачамі напамяць. Я сам быў сьведкам, як адзін работнік у Вільні пераскавзаў другому ў памяці ўсю стацьцю пад загалоўкам „Старое Лякарства“. Ня меншай папулярнасьцяй карысталіся і вершы, друкаваныя ў „Нашай Долі“. Гэная вялікая папулярнасьць зьвярнула на сябе ўвагу царскіх чыноўнікаў, і дзеля таго, што газэта бязлітасна крытыкавала тагочасны лад і палітыку мясцовых расейскіх валадароў — яны аб'явілі вайну „Н. Д.“. Пасыпаліся кары. 3-ці нумар „Н. Д.“ ужо сканфіскавалі, так што толькі некалькі дзесяткаў экзэмпляраў яе ўбачылі сьвет Божы. З той пары бяз мала кожны нумар „Н. Д.“ спатыкала або канфіската, або штраф. Баючыся ўплыву „Нашае Долі“, мясцовыя ўлады выдалі цыркуляр, у якім гаварылася каб ўсе нумары „Н. Д.“ канфіскаваць, як газэту „исключительно вреднаго направленія“. Стала ясна, што пры гэткіх варунках газэту выдаваць немагчыма.“

З вялікай радасьцью спатканая народам, *„Наша Доля“*, была задушана тымі-ж самымі рукамі, якія задушылі першага рэдактара—Кастуся Каліноўскага.

*„Мужыцкая Праўда“* і *„Наша Доля“* — гэта першыя праменьні сярод цемры няволі.

*) У агляд не ўвайшлі газэты і часопісі у БССР пасьля Рыскага міру.

Далейшы шлях беларускага друкаванага слова хоць і трудны і цярністы, аднак куды лягчэй было ўжо працаваць у „*Нашай Ніве*“, якая паўстала да жыцьця ў тым-жа 1906 годзе ў Вільні.

„*Наша Ніва*“ выкарыстала ўсе легальныя магчымасьці парэвалюцыйных часоў і добра зрабіла, бо ўзгадавала на сваіх старонках нашых першых слаўных песьняроў Я. Купалу, Якуба Коласа, З. Бядулю, М. Багдановіча і іншых. „*Наша Ніва*“ жыла доўга і зачынена была ўладамі толькі ў 1915 годзе падчас вайны. Значэньне „*Нашае Нівы*“ ў гісторыі беларускага адраджэньня аграмаднае, бо гэта была школа нацыянальнага ўсьведамленьня, кузьня, ў якой тварыліся першыя цэннасьці нашае беларускае культуры“. Побач з „*Нашаю Ніваю*“ варта адзначыць яшчэ першую выдавецкую суполку ў Петраградзе „*Загляне сонца і ў наша ваконца*“. Гэтая суполка, ўзмацаваўшыся ў 1912 годзе, выдае творы Я. Купалы ў трох кніжках: „Жалейка“, „Гусьляр“ і „Шляхам Жыцьця“. Іншыя пісьменьнікі і паэты друкуюць свае творы у зборніках суполкі „*Маладая Беларусь*“, выданыя з вялікім стараньнем і любоўю. Выдавецкае Т-ва арганізуецца і пры „Нашай Ніве“, якое друкуе спачатку дробныя рэчы, як напрыклад: „*Казка аб вадзе*“, „*Як багацеюць чэскія сяляне*“, а потым пераходзіць і да друку першых беларускіх кніжак, як напрыклад: „*Вянок*“ — вершы М. Багдановіча, апавяданьні Т. Гушчы і іншыя.

Вайна стварае перарыў. „*Наша Ніва*“ і яе выдавецтво зачыняецца. Беларусь перажывае трагічныя часы бежанства.

Акупацыя Вільні немцамі ўносіць новы момант у беларускі рух. „Адкрыўшы“ беларускі народ, немцы стараюцца выкарыстаць беларускі рух на сваю карысьць і пачынаюць яго „падтрымліваць“. Паўстае газэта „*Гоман*“. Адначасна з гэтым беларускім бежанцам удаецца ў канцы 1917 г. выдаць у Петраградзе, дзе собралася шмат беларускіх культурных сілаў „*Дзяньніцу*“ і „*Сьветач*“. „*Дзяньніца*“ і „*Сьветач*“ былі нядоўгавечнымі. Выйшла ўсяго 6 — 7 нумароў.

* *
*

Расейская рэвалюцыя, выбухнуўшая ў лютым 1917 г., абудзіла спаўшыя сілы народаў былое Расейскае Імпэрыі. Пачатак гэтае рэвалюцыі застаў Беларусь парэзанай фронтам. У Менск патроху зьбіраюцца сьвядомыя беларусы і пачынаецца новая хваля нацыянальнага руху. Вылазіць з падпольля „Беларуская Сацыялістычная Грамада“, якая выдае свой орган „*Грамада*“; паўстае „Беларускі Нацыянальны Камітэт“, які выдае свой орган „*Вольная Беларусь*“. Гэтыя газэты популярызуюць *ідэю незалежнасьці Беларусі*, асабліва апошняя.

Бальшавіцкая рэвалюцыя няпрошаным госьцём урываецца на беларускую зямлю і ад часоў бальшавіцкай рэвалюцыі беларускі друк разьбіваецца на два кірункі: *заходні* — дэмакратычна-незалежніцкі і *ўсходні*, маскоўскі кірунак, бо ў Петраградзе, а потым ў Маскве пры Народным Камісарыяце Нацыянальнасьцяў ізноў пачынае выдавацца „Дзяньніца“, пад рэдакцыяй З. Жылуновіча.

З газэт незалежніцкіх, дэмакратычнага напрамку ў 1918 годзе трэба адзначыць, апрача „*Вольнае Беларусі*“, газэту „*Беларускі Шлях*“, якая выдавалася ў Менску падчас нямецкае акупацыі і „*Бѣлорусское Эхо*“, якое выдавалася ў Кіеве пры падтрыманьні украінцаў на расейскай і беларускай мове.

З кніжак за 1917—1918 гады выдана мала. Найбольшае значэньне з выданых за гэты час мае „*Сымон Музыка*“ Я. Коласа і „*Матчын Дар*“ А. Гаруна.

Савецкі кірунак беларускага друку больш рупіцца аб агітацыйнай літэратуры. Выдаюцца ў Маскве гэтакія брашуры: „*Павукі і Мухі*“ Лібнэхта; „*Што такое Радавая Улада*“ і г д Усе брашуры не арыгінальныя, а перакладныя. Што датычыць часоцісі „*Чырвоны Шлях*“, якога некалькі нумароў выйшла ў Петраградзе пасьля пераезду ў Маскву „*Дзяньніцы*“ то яна друкавалася мешанаю мовою: больш расейскаю, чымся беларускаю. Каб скончыць с аглядам беларускай прэсы на Усходзе да *Рыскага Міру*, трэба адзначыць яшчэ, што ў Менску выйшла некалькі нумэроў „*Вольнага Сьцягу*“ і „*Зоркі*“, але гэтыя часопісі за антыбольшавіцкі напрамак былі зачынены.

* * *

Канец вайны і падпісаньне міру паміж бальшавікамі і Літвою, паміж бальшавікамі і Латвіяй і паміж бальшавікамі і Польшчай прынясло падзел беларускага народу на чатыры часьці. Найбольшая часьць каля 7 мільёнаў засталася пад бальшавікамі, значная часьць каля 2.000.000 пад Польшчай, менш значная часьць пад Літвою і Латвіяй.

Беларускі нацыянальны рух аказаўся такім чынам *слабым* дзеля таго, каб ажыцьцявіць Незалежнасьць Беларусі і абараніць яе, *але ён ужо вырас так*, што ня мог памёрці ад гэтага падзелу. Наадварот. У кожнай з часьцей беларускае зямлі, аддзеленых адна ад аднае мяжою, ён пачынае паглыбляцца і пашырацца далей. Бязумоўна, розныя палітычныя ўмовы, ў якіх апынуліся беларусы, стварылі ненармальныя ўхілы ў беларускім нацыянальным руху. На сцэну зьяўляюцца хваравітыя зьявы: „арыентацыі“, кірункі, проста грызьня паміж сабою і г. д. Усё гэта знаходзіць выразны адбітак у сучасным беларускім друку, які ў большасьці свэёй адарваўся ад гістарычнае традыцыі, ад запаведзі „Мужыцкае Праўды“ і „Нашае Долі“. Цяжка, вельмі цяжка гаварыць аб сучасным беларускім друку, але трэба гаварыць, бо трэба зноў адрадзіць яго і паставіць на той грунт, адкуль ён вырас. А вырас і узмацаваўся ён тут, у Вільні. Адгэтуль пакацілася хваля беларускага слова, тут узгадавалася ідэя незалажнасьці, узгадавалася барацьба з маскоўскім дэспотызмам — гэтым адвечным ворагам нашага адраджэньня.

І вось калі гаварыць аб беларускім сучасным друку, то трэба перш за ўсё гаварыць аб віленскім беларускім друку, бо ў ім, як у кроплі вады, можна пабачыць усе хваробы беларускае сучаснасьці.

Перш за ўсё пара слоў аб тых газэтах, якія *арыентаваліся на Літву*. „Духоўным“ кіраўнікам іх быў В. Ластоўскі, які сядзеў у Коўні і выдаваў часопісь „Крывіч“. Ён высоўваў ідэю барацьбы на два фронты — процiў Масквы і процiў Варшавы. Але дзе-ж сягоньня Ластоўскі і яго ідэя? „Крывіч“, — тоўсты „Крывіч“, памёр бязслаўнаю сьмерцю, а яго рэдактар апынуўся ў менскім архіве. Літоўская арыентацыя збанкрутавала ідэйна. Гэта факт бязспрэчны і гэтым ідэйным банкруцтвам тлумачыцца развал і разброд у невялічкім лягеры віленскіх літваманаў.

„*Сялянская Ніва*“ і „*Крыніца*“, — газэты, на якіх адбівалася ўвесь час ідэя Ластоўскага, перажываюць нейкі крызыс. Яны на раздарожжы, асабліва-ж „Сялянская Ніва“, якая апошнімі часамі згубіла напрамак і кідаецца то ўправа, то ўлева, то проста апускаецца ў балота лаянак і глупстваў.

*Маскоўская арыетацыя* у беларускім руху ніколі ня была папулярнаю ў мінулым, асабліва-ж у Вільні. Але, пачынаючы з 1923 году, маскоўская арыентацыя набірае ў настроях некаторых віленскіх дзеячоў усё больш і больш сілы.

Пачынаюць выдавацца адна за адною газэты „Наш Сьцяг“, „Сын Беларуса“ і іншыя, а з заснаваньнем „Грамады“ яе афіцыяльныя органы, як напрыклад: „Наша Справа“, „Народная Справа“ і г. д. і г. д. Газэт усходняга кірунку за апошнія тры гады выдавалася шмат. Характарнаю адзнакаю гэтых газэт з боку зьместу зьяўляецца ўвасхваленьне Масквы і яе нацыянальнае палітыкі. Цяпер, калі „Грамада“ абвешчана нелегальнай арганізацыяй, — абавязкі маскоўскага трубадура ўзяла на сябе „Наша Праўда“. Дыфірамбы яе ў чэсьць бальшавікоў часам даходзяць да абсурдаў.

Антыподам „Нашае Праўды“ зьяўляецца газэта „Беларускае Слова“ орган Паўлюкевіча. Газэта „Б. С.“ як і ўся „група“ Паўлюкевіча ня зьвязана а ні маральна, а ні ідэйна а ні з воднаю польскаю дэмократычнаю групаю, — хоць і лічыць сябе палянафільскай. „Палянафільства“ газэты штучнае, няглыбокае і няшчырае. Газэта больш цікавіцца расейскімі справамі, што асабліва яскрава выявілася ўва ўсёй справе Кавэрды. Змагаючыся з камуністымі, газэта аднак вельмі прыхільна адносіцца да ўсякіх расейскіх партыяў. Такая пазыцыя — Паўлюкевіча з пункту гледжаньня беларускае нацыянальнае ідэолёгіі, — ня вытрымліваець крытыкі бо *ўсе расейскія партыі, пачынаючы монархістымі і канчаючы сацыялістымі, лічылі і лічаць Беларусь часткай адзінай, непадзельнай матушкі Расеі*, а гэта значыць зьяўляюцца *адкрытымі ворагамі ідэі беларускае культуры.*

Нарэшце, ў сакавіку г. г. пачаў выдавацца ў Вільні тыднёвік „Беларускі Дзень“, які стараецца памагчы сялянству гаспадарчымі і агранамічнымі парадамі, а ў сэнсе напрамку — ставіць сваёю мэтаю адрадзіць традыцыі „Нашае Долі“, — традыцыі братэрства і супрацоўніцтва народаў нашага краю і іх агульнае барацьбы з ворагамі незалежнасьці народу.

Каб скончыць кароткі агляд сучаснае беларускае пэрыядычнае прэсы ў Польшчы, трэба сказаць пару слоў аб месячных часапісях. Нажаль такіх нябыло ў Польшчы аж да 1927 году, калі нялічыць „Студэнтскае Думкі“ якая выдавалася нерэгулярна. Апошнімі часамі выйшла 5 кніжак літэратурнай часопісі „Родныя Гоні“ і адзін нумар літэратурнае часопісі „Досьвіткі“. Далейшых нумароў „Досьвіткаў“ не зьявілася і трэба думаць, што яны памёрлі,.

І вось у такую мінуту разброду беларускае прэсы ўВільні, разброду чыста-ідэологічнага пачынаець сваю трудную працу наша часопісь „Беларуская Культура“, якая ставіць сваею мэтаю злучыць навакол сябе ўсе жывыя творчыя сілы маладое беларускае інтэлігэнцыі, злучыць пад штандарам незалежнасьці і позытыўнае працы і барэцьбы за духоўнае, эканамічнае і політычнае вызваленьне беларускага народу.

*Падаў В.*

# Аб Уніі на беларускіх землях.

Уніоністычным рухам ёсьць імкненьне да злучэньня ўсіх хрысьціянскіх касьцёлаў.

Распачаўся ён у апошнюю чэцьверць XIX ст., прыпынены падзеямі вайны ўзрос нанова па вайне. Якраз сёлета ў Чэхаславаччыне, ў ліпні адбыўся ўніоністычны кангрэс, на якім былі прадстаўнікі ўсіх хрысьціянскіх касьцёлаў.

Мэта кангрэсу — вырашэньне дарог, па якіх ідучы можна асягнуць аб'яднаньне ўсіх хрысьціян у адным Касьцёле·

Імкненьне гэнае зьяўляецца гістарычнаю неабходнасьцяй.

Вынікае яно з досьледаў над мінуўшчынай XVI-XIX стагодзьдзяў і выразна праяўляецца з тэндэнцыі гістарычнага разьвіцця.

Цяпер ужо немагчымыя хатнія і міжнародныя войны, якія вяліся з прычынаў рэлігійных розьніц і неаднальковага талкаваньня навукі Хрыстовай.

Нечым далёкім і дзіўным вее для сучаснага грамадзяніна з указаў і эдыктаў, на падставе якіх выганяліся з граніц дзесяткі тысяч найлепшых грамадзян, для якіх ня было месца ў дзяржаве і праўнае абароны толькі дзеля адменнага спосабу аддаваньня хвалы і чэсьці Ўсявышняму.

Агульны поступ чалавецтва, якое шукае сынтэтычных формаў укладу свайго жыцьця, кіруючыся прыродазнаўчым правам захаваньня энэргіі, выкінуў далёка ў прошласьць справы сумленьня і веры, як прычыны і повады войнаў і ўціску. Грамадзянская правапдольнасьць не апіраецца ўжо цяпер на прыналежнасьць да тае, ці іншае веры.

Відзім шуканьне спосабаў злучэньня ўсіх галін хрысьціянства ў адно.

Пытаньне аб Уніі зьяўляецца адной з праблемаў заўтрашняга дня.

---

Унія ў Беларусі мае сваю вялікую гісторыю. На землях беларускіх стыкаліся ад XIII ст. аж да сяньняшняга дня дзьве найбольшыя галіны хрысьціянства: Заходняя і Ўсходняя яго часьці, Рымска-Каталіцкі Касьцёл і Праваслаўная Царква.

Каталіцтва прыйшло ў Беларусь пазьней. Нацыянальным беларускім касьцёлам ад X веку ёсьць праваслаўе, прыйшоўшае да нас з Канстантынопалю. Найстарэйшыя цэрквы, манастыры і першыя беларускія мучанікі, сьвятыя Антон, Астап і Іван (1346-7 г.) сьведчаць аб гэтым*).

Уплывы Заходняга Хрысьціянства пранікаюць у Беларусь з Нямеччыны цераз Мечаносцаў і Крыжаносцаў у XII і XIII стагодзьдзях. Аднак, дзеля розных прычын, уплывы гэныя былі слабыя аж да 1386 г.

Гэты год прыносіць зьбліжэньне Вялікага Княжства Літоўскага з Польшчай, хрост літоўцаў і заснаваньне каталіцкага біскупства. Пачаўшы ад Ягайлы, закладаюцца ў Беларусі каталіцкія манастыры, будуюцца касьцёлы і побач з праваслаўем расьцьвітае каталіцтва, якое пранікае з Польшчы.

*) Сьвятая Еўфрасінія Полацкая жыла ў XII ст. М. Дуброўскі. Житіе преподобной Ефросиніи 1887.

З гадамі рымска-каталіцкія ўплывы ў Беларусі ўзрастаюць, асабліва сярод сацыяльна вышэйшых слаёў насельніцтва Вялікага Княжства Літоўскага.

Треба адзначыць, што так званы „хрост Літвы“ 1386 г. абмяжоўваўся выключна да самых літоўцаў, якія былі паганцамі; беларускія славянскія плямёны ўжо даўно жылі ў хрысьціянстве, мелі свае цэрквы, рэлігійную пісьменнасьць і нацыянальных сьвятых.

Каталіцкія ўплывы, захапіўшы вышэйшыя кругі, пранікаюць да „паспалітага люду“, вядуць наступ на асьвячоныя традыцыяй хрысьціянскія ўплывы праваслаўнае царквы.

Гэны характар ваюючага хрысьціянства (ecclesia militans) Каталіцкі касяцёл захавае праз увесь час істнаваньня Незалежнага Вялікага Кн. Літоўскага.

У гэным характары Каталіцкага Касьцёлу, ня гледзячы на вонкавы яго расьцьвет, крылася перашкода злучэньня яго ў адно з Праваслаўнаю Царквою.

Побач і разам з каталіцтвам ішлі ўплывы польскія, — каталіцтва ў Беларусі заўсёды было зьвязана з польскім нацыяналізмам.

За Беларускія землі ў працягу значнага часу йдзе барацьба двох імпэрыялізмаў — маскоўскага і польскага. Апошні з Ягайлавічаў, пры іх разумнай палітыцы, мае пасьпех і як-бы вырашае перавагу Польшчы над Масквою. Ягайлавічы, зьвязаныя паходжаньнем і псыхікай з В. Кн. Літоўскім і пранікнутыя любоўю да яго справаў, вялі разумную палітыку, не дапускалі лішняга ўсіленьня польскіх уплываў на справы Вялікага Княжства, апіраючыся ў гэтым на апінію ўсяго насельніцтва Княжства.

Праваслаўе і каталіцтва мае поўную свабоду ў Беларусі, тады калі на Захадзе Эўропы пануе дагмат: чыя ўлада, таго і вера — Cuius regio, eius religio, — і праводзіцца ганеньне проціў усіх вызнаньняў, адменных ад веры караля і двара.

Розьніца рэлігіі пры Ягайлавічах не іграе ніякае ролі ў дапушчэньні грамадзян княжства да высокіх урадавых пасадаў. Уплывы праваслаўнага баярства і князёў у жыцьці Вялікага Княжства Літоўскага былі вялікія. Праваслаўныя займаюць высокія пасады і пакідаюць свае імёны ў гісторыі краю. Так напр., К. І. Астрожскі, ваявода літоўскі пабіў маскоўскае войска пад Оршай у 1513 г. і затрымаў паход Масквы проціў В. Кн. Літоўскага. Праваслаўныя сядзяць на староствах, вядуць скарб княжства — гэта вялікія патрыёты краю. Разам з гэтым, праваслаўнае грамадзянства Вялікага Княжства адчувае рожніцу, якая яго дзеліць ад Маскоўшчыны, дзе істнуе адна пануючая рэлігія — праваслаўная вера.

Аж да 1596 году бачым добрае сужыццьцё праваслаўных з каталікамі ў граніцах Княжства. Ягайлавічы аднолькава дбаюць аб праваслаўных цэрквах і каталіцкіх касьцёлах, граматамі сваімі пацьвярджаюць роўнае трактаваньне абедзвюх рэлігіяў. У прывілеі, выданым каралём Жыгімонтам-Аўгастам у 1563 годзе гаварылася:

„Прымаючы пад увагу, што каталікі, так сама як і праваслаўныя за пававаньня яго продкаў і ў дні панаваньня яго самога заўсёды выпаўнялі службы свае верна і шчыра, са згоды Дзяржаўнай Рады пастаноўлена, што ад цяпер усе павінны карыстацца ў В. Кн. Літоўскім аднымі і тымі шляхоцкімі й земскімі правамі і прывілеямі: ня толькі шляхта і баяры, каторыя з патомства знаходзяцца ў паслушнасьці рымскай царкве і якіх продкі атрымалі ад Польшчы гэрбоўныя клейнаты, але і ўсе йншыя асобы

хрысьціянскага народу, якіх продкі не запазычалі ад Польшчы гэрбаў. Дзеля гэтага як ліцьвіны, так і ру кія, якія паходзяць з баярства і вызнаюць хрысьціянскую веру, бяз розьніцы каталікі яны ці праваслаўныя, — павінны быць назначаны да выпаўненьня ўрадаў дзяржаўных, прыдворных і земскіх, кожны па меры сваіх здольнасьцяў і выказаных заслуг перад дзяржавай, і ўжо ніхто ня можа быць аддалены ад урадаў з прычыны рэлігійных сваіх пракананьняў."

XVI стагодзьдзе — гэта расьцьвет дзяржаўнага жыцьця Польска-Літоўскага гаспадарства. Уплывы яго пашыраюцца на Мадзьяршчыну і Чэхію, дзе на троны ўзыходзяць Ягайлавічы. У ва ўсіх галінах жыцьця бачым красаваньне і разьвіцьцё. Францішак Скарына друкуе і выдае першыя друкаваныя кніжкі. Укладаюцца і выдаюцца вялікія правадаўчыя акты: з Літоўскія Статуты, ў якіх скодыфікавана мясцовае літоўскае права, збудаванае на найлепшай сыстэме рымскага права.

Дапусьціўшы шырокую толеранцыю ў справах веры і сумленьня, В. Кн. Літоўскае ўзрастае ў моц і сілу.

Ведама, істнуючае на землях Княжства праваслаўе, каталіцтва і лютэранства вядуць барацьбу, але ў межах дапушчанае для агітацыі свабоды, дзяржава ня ўмешваецца ў гэта, стаіць з боку, пакідаючы самым вызнаньням вырашэньне перавагі і пашырэньня ўплываў сярод народу.

Дзеля гэткіх адносін дзяржавы да справы сумленьня і веры, ў Беларусь прыбываюць лепшыя інтэлектуальныя сілы таго часу з Заходняе Эўропы, дзе яны ня могуць праживаць пры панаваньні аднае толькі веры.

Тагочасныя адносіны дзяржавы да справы веры ў Літве і Беларусі прыпамінаюць тое, што будзе блізка за 3 вякі абвешчана францускай рэвалюцыяй.

Усе ўстаўныя акты, выдаваныя ў В. Княжестве, выяўляюць імкненьне да захаваньня асаблівасьцяў краю і абарону перад наплывовымі элемэнтамі з Польшчы.

Аднак разам з каталіцтвам чужыя, з Кароны людзі здабываюць штораз то большае значэньне.

Дзеля абароны перад гэнымі ўплывамі польскасьці мае такое пашырэньне ад паловы XVI ст. ў Беларусі лютэранства і кальвінізм.

Краёвыя патрыёты імкнуцца аслабіць значэньне каталіцкаго кліру, які ўасабляе польшчыну ў Беларусі.

Да барацьбы з рэфармацыяй прыбываюць у Беларусь езуіты. З іх прыходам пачынае ў дзяржаўнае жыцьцё Княжства пранікаць заходня-эўропэйскае падтрымліваньне і асаблівая апека аднае толькі веры—каталіцкай паводле тэзісу: cuius regio, — eius religio.

І ўжо ў канцы XVI ст., калі ня стала старое дынастыі Ягайлавічаў на Польска-Літоўскім троне, ў Княжстве іншыя запанавалі адносіны.

Акт дысыдэнцкай конфэранцыі 1599 г. (праваслаўных і рэфарматараў) рысуе сумны абраз. Акт гэны адбыўся з мэтай:

„каб кроў абыватэляў за веру бязьвінна ня было пралівана, не была канфіскат маетнасьцяў, пазбаўленьня чэсьці, вязьненьня й выгнаньня"... „бараніць ад уціскаў, крыўд і гвалтаў, а найболей ад духоўнага стану і некаторых сьвецкіх людзей рымскага закону... што немаль ніводнага кутка ў абшырнай гэтай дзяржаве і ніводнага чалавека ўсякага стану няма ад іх басьпечнага. . што ва ўласных дамох бываюць нападаны, граблены і зьдзекаваны і па вялікіх дарогах іх хапаюць, з рожнымі нячуванымі, для большай мукі, ўдручэньнямі, б'юць, топяць і забіваюць.. і прымушаюць слухаць пастыраў, якіх мы лічым за адступнікаў ад патрыярхаў ўсходных... За рознасьць у веры ў гарадох адбываюцца інквізыцыі... калі просім справядлівасьці і абароны, то атрымліваем пагарду і насьмешкі"...

Акт гэны падпісалі: ваявода кіяўскі Аляксандар Астрожскі, ваявода валынскі Канстантын Астрожскі, ваявода брацлаўскі князь Сангушка, князі Міхаал і Адам Вішнявецкія, віленскі ваявода Крыштоф Радзівілл і інш. 14 ваяводаў і 80 каштэлянаў.

Праўда, што якраз у гэтыя гады на беларускіх землях завастрыліся адносіны паміж уніятамі і прыхільнікамі праваслаўя, аднак акт гэны ясна сьведчыць, што мінула пара толеранцыі, якая была за Ягайлавічаў.

Езуіты зламалі рэфармацыю, ўзяўшы ў свае рукі выхаваньне маладога пакаленьня.

Увага іх скіроўваецца на п шырэньне ўплываў сярод праваслаўных.

Аднак-жа трудна было адарваць народ ад нацыянальнае „рускае" веры, якая абыймала большасьць насельніцтва. Паўстае сярод самых праваслаўных думка аб злучэньні Царквы з Рымска-каталіцкім Касьцёлам у форме ўніі.

Думка аб уніі насоўвалася дзеля шмат якіх прычын, ідэя гэтая ня была новай, бо ўжо ў мінуўшчыне была спроба злучэньня праваслаўя з каталіцтвам, г. зв. Флёрэнцкая унія 1438 г. У Беларусі яна ніякіх сьлядоў не пакінула, бо мела на мэце злучэньне Маскоўскага праваслаўя з Рымам.

У 1596 годзе на саборы ў Берасьці праваслаўныя біскупы з мітрапалітам Рагозаю на чале ўступілі ў унію і прызналі над сабою ўладу папы Клімэнта VIII. У Грамаце 8 верасьня 1596 г. гаварыцца, што:

„...царигородскіе патриархи колі отъ соединенія церковнаго отступили за таки свой грѣх отступленія і разорванія единости церковной въ моцъ поганьскую Турецкую впали: зачымъ много блудовъ и злыхъ поступковъ, и занѣханьне дозору правага и въ сих краѣхъ Руских, и много брыдкого святокупства наступило, иж ся ереси розсѣяли и всю правѣ Русь опановали, церквѣ пустошачы и хвалу Божую псуючы. Мы не хотѣчи быти участнками грѣху так великого и неволи поганьской, которая затым и прійшла на царигородских патріарховъ, и не хотѣчи им росколу и розорванія въ церкви святоѣ единости помогати и забѣгаючи спустошенію церквей и спасенію душъ людьских, через ереси, которые ся теперь поднесьли, маючи о то совѣтъ и небезпеченство спасенія своего и стада словеснага... выправили семо до отца святѣйшага Климентія осмога, папы Рымскага послы... просячи, абы нас до своего послушенства, яко навышній пастыр церкви вселеньской католической принял, и от зверхности патріарховъ Царигородских вызволил и разрѣшил, заховуючи нам обряды и церемоніѣ церквей Восточных Греческих и Руских, а ни якоѣ отмѣны въ церквах нашых не чинячи, только по преданію святых отецъ Греческих вечне нас оставилъ. Што и учинил..."

Перайшоўшыя ў унію біскупы і мітрапаліт мотывуюць злучэньне царквы з Рымам дабром для самае царквы і жаданьнем падняць яе аўторытэт і абнавіць духоўнае жыцьцё.

Паводле акту, ўніяты захавалі ўсе абрады, язык і літургію ў такім стане, які быў да 1596 г., прызналі толькі главенство папы.

---

Дасьледчыкі Берасьцейскае Уніі дзеляцца на два напрамкі.

Праваслаўныя робяць закід падпісаўшым ў 1596 г. акт біскупам, быццам яны кіраваліся карыснымі матар'яльнымі мэтамі.

Польскія гісторыкі прапушчаюць той момэнт, што акт уніі быў спосабам самазахаваньня народу ад чужых уплываў, паводле тварцоў уніі, і то ўплываў польскіх.

Нам здаецца, што падпісаўшыя акт 1596 г. біскупы былі перш за ўсё краёвымі патрыётамі В. Кн. Літоўскага. Раўнапраўнае палажэньне праваслаўных яшчэ да уніі пачало ўступаць прывілегірованаму палажэньню каталіцтва; тварцы уніі бачылі пасьпех езуітаў сярод прыхільнікаў рэфар-

мацыі з аднаго боку, а з другога, баючыся ўзросту маскоўскае орыентацыі ў праваслаўным грамадзянстве Вялікага Княжства, пастанавілі, злучыўшыся уніяй з Рымам, не дапусьціць аднаго й другога.

Апрача таго, беларускія рэфарматары царкоўнаго жыцьця, прыхільнікі уніі, думалі пры помачы замены Канстантынопольскага старшынства на рымскае, зрэфармаваць і падняць сваю царкву і ўтрымаць яе, як нацыянальна *рускую* ў процівагу царкве каталіцкай — *польскай.*

„Рэлігійная унія 1596 году ня была прыпадковым, ці накінутым фактам у жыцьці нашага народу, але саусім натуральным вынікам ходу тагочаснага жыцьця. Была гэта нацыянальная „русская“ справа, паднятая ініцыятарамі яе з добрай верай і надзеямі ўратаваць сваё грамадзянства пры помачы яшчэ аднэй рэлігійнай спробы, ў той час, калі надзеі, ўскладаныя на рэфармацыю, пачалі падаць, і каталіцкая рэакцыя стала загартаць пад сябе штораз то шырэйшыя масы, а з другога боку пагражаў узрост маскоўскіх уплываў. Пры самых сваіх нарадзінах, унія апынулася паміж двома варожымі ёй абозамі, — між рэфарматарамі і праваслаўнымі, якія ціснулі яе з двух бакоў, заганяючы ў штораз то большую залежнасьць ад Рыма — каталікоў. І хоць унія ня здужала ўтрымаць у сваіх руках кіраўніцтва адраджэньнем нашага грамадзянства, але ў пачатках палажыла вялікія заслугі, бо прычынілася да разбуджэньня дрэмлючых сіл у нашым народзе, як у грамадзкім жыцьці, так і ў пісьменнасьці. Адзін з абаронцаў праваслаўя, Лаўрын Дрэвінскі у соймавай прамове 1620 году кажа:

„Каб ня было сталася атступленьне некатарых з нашага духавенства ад свайго ў веры пастыра, каб выйшаўшыя з нас не паўсталі супроць нас, то такія навукі, школы і так дастойныя і вучоныя людзі ня выйшлі-бы з нашага народу“.

Унія выступіла сьпярша пад знакам адраджэньня царквы і свае народнасьці, але, дзякуючы лішне памылковай апецы над уніяцтвам каталікоў, чым далей, тым болш выпушчала ніці кіраўніцтва „рускай“ справай на карысьць праваслаўя, якое ўрэшце штораз-то часьцей, пачынае выступаць у ролі адзінага праўдзівага прадстаўніцтва „рускай“ народнасьці“ *).

Уніяцкая Царква праявіла вялікую жыцьцяздольнасьць, асабліва пасьля заснаваньня закону Базыліянаў, які вёў культурную работу сярод беларусаў.

Адносіны польскага каталіцкага духовенства да уніятаў ня былі шчырымі. Уніяцкія біскупы не атрымалі тых месцоў у польскім сэнаце, якія займалі біскупы каталіцкія.

Духавенства каталіцкае. паходзіўшае з шляхоцкага стану, лічыла сябе за нешта вышэйшае як уніяцкія сьвяшчэньнікі, якія выходзілі з „паспалітага люду“.

Аднак, да падзелу Польшчы, унія не прасьледавалася.

Пасьля падзелаў, пачынаецца прасьледаваньне і ліквідацыя уніі.

Ужо за Кацярыны II на землях, адышоўшых да Расеі, бачым прасьледаваньне уніяцкаго духавенства, за Паўла I яно слабне, аж урэшце надыходзе 1839 год, калі наступае ліквідацыя уніі.

Расейскі царскі ўрад апіраўся на праваслаўі, падобна-ж, як цяпер польская правіца на нацыяналізьме. Стараючыся зьнішчыць унію, ня мог прыступіць да гэтага, пакуль не знайшліся выканаўцы ягоных плянаў. Аказаліся імі уніяцкія пралаты, гадунцы духоўнага сэмінара пры Віленскім Унівэрсытэце на чале з біскупам Семашкай.

*) В. Ластоўскі. Гісторыя Беларускай кнігі. Коўна 1926 г. Стар. 249.

Уніяцкі архімандрыт Лужынскі піша да Семашкі такую заяву:

„На жаданьне Вашае Эксцэленцыі сьпяшу заявіць, што розніцу ў догматах Усходняга і Заходняга Касьцёлаў уважаю за вынік людзкіх мудрстваваньняў, а толькі не за скутак істотных праўдаў хрысьціянскіх, і жадаючы шчасьця Касьцёла й Бацькаўшчыны, гатоў у кожную хвілю прылучыцца да нашага прайайцоўскага Грэка-Расейскага Касьцёла; ўрэшце *здаюся цалком на мудрасьць улады,* верачы, што мой пастуnак будзе спрыяць агульнаму злучэньню грэка-уніяцкага народу з гэтым Касьцёлам і не абудзіць у ім жахлівасьці да субратоў і ўласнае Бацькаўшчыны-Расеі *).

Другі уніяцкі архімандрыт Зубко яшчэ ясьней матывуе сваё адступленьне ад уніі і пераход у праваслаўя.

„Вашая Эксцэленцыя (у пісьме да Семашкі) аддаўна ведае мой спосаб думак і пачуцьцёў, якія жыўлю адносна Грэка-Расейскага Касьцёла, — ведае мае моцныя пераканаearьні аб праўдзе дагматаў гэтага касьцёла і аб памылках Рымлян, — знае маё абурэньне на прадзелкі Лаціньнікаў і Палякоў, тварцоў уніі, — знае мой жаль з прычыны вынарадаўленьня $1^1/_2$ міліона Рускіх, якія будучы ў уніі, ўтрацілі сваю мову і народнасьць, — ведае мой шчыры ўдзел у добрым дзеле наварачываньня уніятаў на лоно Праваслаўнага Касьцёла, — ведае маю гатоўнасьць хуткага прылучэньня да нашае супольнае Мацi - Праваслаўнае Царквы, — ведае *мае поўнае давер'е да сродкаў, якія ўлада захоча застасаваць у справе ўніяцкай,* — усё гэта ёсьць знана Вашай Эксцеленцыі сьцьвярджаю гэта на пісьме“.**)

Маючы падобных выканаўцаў замераў „улады ў справе ўніяцкай“, што без засьцярог згары годзяцца на ўсе спосабы ліквідацыі ўніі, Расейскі Урад, дзе ня было разграніченьня ўплываў улады сьвецкай і духоўнай, 12.II-1839 г. на зьезьдзе ў Полацку духоўных уніятаў прыгатовіў акт аб „воссоединении церквей“.

Лужынскі і Зубко, цяпер ужо як біскупы разам з Семашкай, усім жыравецкім уніяцкім духавенствам падпісалі акт аб зьліквідаваньні Уніі і пераходзе ўніятаў да Грэка-Расейскае царквы.

Да акту гэнага далучана 1305 абавязаньняў аб пераходзе на праваслаўе, здабытых ад уніяцкіх сьвяшчэньнікаў па прыказу Семашкі і яго памоцнікаў.

Апіраючыся на акт 1839 г., расейскі ўрад сілаю нішчыць унію на мясцох, часта гвалтам і ашуканствамі здабывае подпісы ад уніятаў аб пераходзе іх на праваслаўе. Уніяты былі моцна прывязаны да свайго Касьцёла, ня мала пралілося крыві пры злучэньні уніяцкаго каталіцтва з праваслаўем, ці з *рускай* верай, як яе назваў беларускі народ.

Ф. Багушэвіч у вершы „Хрэсьцьбіны Мацюка“якраз паказвае спосаб ліквідацыі уніі, якая староньнікамі яе прымае характар веры „польскай“.

Ізноў спатыкаем адгалоскі 2-х уплываў на нашых землях — маскоўскага і польскага.

Пасьля ліквідацыі Уніі, царскі ўрад, пры помачы справаджанага з Расеі духавенства, вядзе ўзмоцненую русыфікацыю беларускага насельніцтва і выдае *ўказ* аб забароне друкаваньня па беларуску.

*) Православный Собѣседнік 1884 г. стр. 32. Запіскі Васілія Лужынскага, архіепіскопа Полацкага.

**) „Літоўскія Епархаільныя Вѣдомости“ № 6-7, стр. 48. 1884 г. „А. Зубко“.

Што кіравала расейскім урадам, які так востра ліквідаваў уніяцкі Касьцёл? Існуе баламутная багаслоўская літэратура, выданая пры дапамозе сыноду. Усе працы стараюцца сьцьвердзіць вялікі нахіл быўш. уніятаў да Маці-Праваслаўнае Царквы, ад якой былі адарваны стараньнем лаціньнікаў і палякоў. Масы нібы дабравольна пакідалі унію.

Аднак жыцьцё паказвае другое. Запярэчаньнем гэтага ёсьць прывязаньне да уніі, любоў і вернасьць свайму абраду другое часьці б. В. Кн. Літоўскаго, дзе не маглі пашырыцпа ўплывы св. Сыноду, Семашкі et consortes, — унія ўва Ўсходняй Галіччыне.

Пасьля 1905 г., калі быў дапушчаны пераход б уніятаў з праваслаўя, яны тысячамі прымалі каталіцтва, ня маючы свайго ўніяцкага Касьцёла. Запярэчвае тэзе сынодальных дасьледчыкаў маса судовых справаў і прыгавараў на уніятаў, што байкатавалі накінены ім сілаю новы Касьцёл.

Ужо энунцыяцыі Лужынскага і Зубка насоўваюць адказ на пастаўленае пытаньне. Уніяцкія пралаты здаюць сабе справу, які чыньнік будзе верхавадзіць у справе уніяцкай — улада — расейскі ўрад.

Лужынскі „давярае цалкам мудрасьці *ўлады*“, а Зубко яшчэ ясьней заяўляе, што „годзіцца на тыя сродкі, якія *ўлада* захоча застасаваць у справе ўніяцкай“.

Падзяліўшы Польшчу, захапіўшы абшар з чужым па духу, звычаях і праваым парадку насельніцтвам, маскоўскі імпэрыялізм імкнецца да сьцісьлейшага злучэньня набытых земляў з Расеяй, якія ніколі перад гэтым да Масквы не належалі.

Гісторыкі, служкі пануючых дынастыяў, у працах сваіх даказваюць расейскі характар беларускіх земляў, ствараецца фікцыя, нібы землі гэныя належалі да Масквы, доказам чаго зьяўляецца мэдаль, выбіты за Кацярыны II пасьля першага падзелу Польшчы з напісам: „атторженныя возвратіхъ“ (адарванае вярнула). Уся палітыка Масквы ў Беларусі аж да сусьветнае вайны кіруецца дэнацыяналізацыйнымі мэтамі, зроджанымі імпэрыялістычным імкненьнем пашырэньня ўлады цароў.

Маскоўскі абсолютызм будаваўся і апіраўся на самадзяржаўі і праваслаўі. Праваслаўе было служкай царскага абсолютызму і імпэрыялізму Расеі. У русыфікатарскім пляне, паводле якога мела быць зацёрта розьніца паміж беларусамі і маскоўцамі, ўдарную і галоўную ролю павінна было адыграць праваслаўе. Цераз царкву і ўплывы духавенства мела адбывацца злучэньне Беларускіх земляў з Масквою.

Дзякуючы асаблівай будове Ўсходніх Касьцёлаў і спэцыяльна будове Царквы ў Расеі, дзе існавалі найбольшыя ўплывы сьвецкай улады на справы духоўныя, цераз царкву дзеець урад, а палітыкай царквы кіруе сьвецкая ўлада.

---

Унія 1596 г. захавалася ўва Ўсходняй Галічыне, якая пасьля разьдзелаў Польшчы адыйшла да Аўстрыі. Гісторыя грэка-каталіцкага галіцкага Касьцёла, сучаснае яго палажэньне і значэньне для украінскага народу, а таксама і роля ўніяцкага духавенства ў справе адраджэньня украінцаў-галічан, — пацьвярджае пастаўленую намі тэзу аб краёвым беларускім патрыятызме тварцоў уніі 1596 г.

У Галічыне існуе 1 мітраполія і 2 уніяцкія біскупства. Уніяты маюць 1906 прыходаў.*) У кожным прыходзе (парахвіі) дом параха (плебанія) зьяўляецца цэнтрам культурна-асьветнае працы сярод украінскага народу. Зьвязаныя паходжаньнем і працай са сваім народам, уніяцкія сьвяшчэньнікі, украінцы родам, сапраўды стаяць на чале ўсіх культурных начынаньняў украінцаў, прынамсі бяруць у іх дзейны ўдзел. Уніяцкі Касьцёл ува Усходняй Галічыне шмат прычыніўся да адраджэньня свайго народу. Львоўская грэка-каталіцкая мітраполія аказала вялікія заслугі для ўкраінцаў, а мітрапаліты ад 1848 г. лічацца апякунамі вялікіх культурна-асьветных таварыстваў.

Дасьледчык грэка-каталіцкага Касьцёла Др. Л. Колянкоўскі, паляк, так адзываецца аб значэньні для ўкраінцаў уніяцкае царквы і ўплывах уніяцкага духавенства: „Палажэньне і значэньне кожнага ўніяцкага ксяндза сярод украінскага грамадзянства без параўнаньня значнейшае, чымся рымска-каталіцкіх ксяндзоў сярод грамадзянства польскага, пражываючага на тэрыторыі Усходняе Галічыны. Уніяцкае парахвіяльнае духавенства, як цэласьць, мае ў украінскім народзе без параўнаньня большыя ўплывы, ніж каталіцкае духавенства ў народзе польскім. Уніяцкая царква павялічваецца коштам парахвіян рымска-каталікоў".*)

Высьвятляючы прычыны перавагі ўплываў, гэты дасьледчык кажа: „Вялікая роля ўніяцкага духавенства выплывае з яго социяльнае і грамадзкае пазыцыі сярод свайго народу. Гэта ёсьць лічная інтэлігентская група, аб якой ані сьніцца польскаму грамадзянству. Плебанія ўкраінскага пароха зьяўляецца культурнай народнай пляцоўкай, зьвязанай тысячамі вузлоў са сваім грамадзянствам. Уплывы ўкраінскіх плебанаў колёсальныя."

Голас гэтага аб'ектыўнага дасьледчыка пацьвярджае выстаўленую намі тэзу аб краевым патрыятызме тварцоў акту 1596 г., а з другога боку пераконвае аб патрэбе уніі.

Бо нават ортодоксальныя польскія нацыяналістыя павінны згадзіцца, што ўплывы ўніяцкага духавенства для дзяржавы выгаднейшыя, чымся безаўтарытэтнае становішча духавенства сярод масаў і што за гэтым ідзе, бяручы сучаснае палажэньне, ўзрост уплываў III Інтэрнацыяналу. Расейскі нацыяналізм зглум ў унію ў Беларусі і гэта наша вялікая страта, але, нашчасьце для суседняга братняга народу, яна асталася ў украінцаў, стаўшы нацыянальнай украінскай царквою.

Пераходзячы да пытаньня аб уніі ў Беларусі ў нашыя дні, лічым неабходным абазначыць розьніцу структураў Рымска-Каталіцкага Касьцёла і Праваслаўнае Царквы, а таксама адносіны іх да сьвецкае ўлады.

Каталіцкі Касьцёл адзіны; ў арганізацыі і гіерархічнай будове яго праведзена стройная сыстэма з кіраўнічым цэнтрам у Рыме, найвышэйшым і найбольш аўторытэтным органам Касьцёла — Папежам.

Каталіцтва, падобна да сыстэмы рымскага права, перайшло праз цэлы рад разьвіцьцёвых фазаў, ня трацячы характару адзінства, выкрысталізаваўшыся ў барацьбе са сьвецкай уладай — нямецкімі цэзарамі, кіруецца

*) Паводле дадзеных за 1903 г.

*) Dr. L. Kolankowski. Kościoł a Cerkiew we Wschodniej Galicji. — Kraków 1909 r. str. 10—12.

цяпер паводле адных і тых самых спосабаў, апіраючыся на новым скодыфікаваным у 1917 г. канонічным праве, мае аднолькавы падзел тэрытарыяльны — арцыбіскупства і біскупства.

У адносінах да сьвецкай ўлады Рымска-Каталіцкі Касьцёл, пакінуўшы свае імкненьне падпарадкаваць меч сьвецкі мячу духоўнаму, лічыць сябе роўным з уладай сьвецкай, якая ня можа мяшацца ў справы духоўныя і з імі зьвязаныя. Адносіны да дзяржавы Касьцёл гэны ўкладае паводле дагавораў з ёю—конкордатаў, якія маюць характар міждзяржаўных трактатаў.

Папеж мае пры сваім двары — Ватыкане акрэдытаваных паслоў і сам высылае сваіх прадстаўнікоў — нунцыяў і легатаў. Ад 1870 г. папа зьяўляецца неабходным сябром і правадыром уселенскіх сабораў, і без ягонае згоды пастановы сабораў ня маюць вагі абязуючага права. Традыцыя XIX вякоў істнаваньня хрысьціянства, прывязаная да рымскага біскупа, выбарны спосаб крэацыі папы высокім сабраньнем кардынальскага Collegium'у — конклява, і вялікая пашана, што акружае найвышэйшага прадстаўніка Каталіцкага Касьцёла, ствараюць папежу надзвычайнае палажэньне і аўторытет.

Папеж ўрэшце, зьяўляецца ў дарозе comitas gentium прызнаным суб'ектам міжнароднага права. Вялікія маральныя вартасьці суцэльна вяжуцца ў разуменьні хрысьціяніна з імем намесьніка сьв. Пётры на біскупскай мітраполіі, і ў гэтым ужо залог сілы каталіцтва, збудаванага на прынцыпе паслушнасьці (reverentiam et oboedientiam) ніжэйшых духоўных *палажэньняў* адносна вышэйшых пры загварантованай незалежнасьці ад сьвецкае ўлады.

Інакш укладаліся абставіны жыцьця ўсходняе галіны хрысьціянства. Перш за ўсё Праваслаўная Царква ня знае адзінства гіерархічнага. Усходні Касьцёл падзелены на незалежныя, аўтокефальныя цэрквы.

Гэны падзел, падобна да адзінства каталіцтва, вырабіўся гістарычна. Цэлы рад чыннікаў уплываў на вытварэньне такога стану. Адным з найболей галоўных фактаў было тое, што заходняя часьць Рымскае дзяржавы ўпала пад націскм барбарскіх плямёнаў. Усходняя часьць — Візантыя істнавала яшчэ 1000 г. бяз мала і лічыла сябе за прадаўжэньне Рымскае Імпэрыі. З даўных давен патрыархі ў Канстантынопалі лічылі сябе роўнымі з рымскімі Папамі. Гэта ў значнай меры паслужыла прычынай разьдзелу хрысьціянства. Рымскія Папы вялі барацьбу са сьвецкай уладай і запэўнілі незалежнае палажэньне ад апошняе Каталіцкаму Касьцёлу. У Канстантынопалі патрыархі прызналі вышэйшасьць візантыйскіх цароў. Калі пасьля ўпадку Рыму, папества было сымболем б. велічу Рыму і яго культуры і ўзмацніла павагу рымскае эпіскапаліі, у геты самы час Усходні Касьцёл падпарадкаваўся сьвецкай ўладзе. Цар візантыйскі, Лявон Мудры, напр., выпаўняў царкоўныя абрады, гаварыў пропаведзі, адзяваў біскупскую вопратку. Другі цар, Канстантын V, сваім дэкрэтам скасаваў пачытаньне абразоў, якое ізноў увяла гэтай самай формай дэкрэту царыца Ірэна.

Тагочасныя візантыйскія хронікі сьведчаць аб падпарадкаваньні духоўнае ўлады сьвецкай, і гэта лічыцца за нармальны стан. У кроніцы Нікэтэса, напр. чытаем, што паміж Богам а царом няма ніякае розьніцы. У XIII стаг. Дымітры, цар баўгарскі, кажа, што цар у справах веры зьяўляецца вышэйшым за сабор, цар гэта — pontifex maximus (вышэйшы сьвяшчэньнік).

Друг й прычынай перавагі ўлады сьвецкай над духоўнай на Ўсходзе ёсьць паяўленьне і пашырэньне там сэктаў. Арыяне, сэкта заходняя не пашырылася, а на ўсходзе бачым цэлы рад сэктаў: нэстарыне, монофізыты, монотэліты і іншыя. З пашырэньнем сэктаў малела значэньне канстантынопольскага патрыарха яшчэ до разьдзелу ў Касьцёле.

Дзеля такой перавагі сьвецкай улады і паменьшаньня аўторытэту патрыарха ў Канстынтанопалі, паўстае цэлы рад аўтокефальных цэркваў, якімі кіруе дзяржава. Другія патрыархаты, як антыохійскі, ерусалімскі і александрыйскі, догматыгна падобныя да патрыарха ў Канстонтынопалі імкнуцца да аддзяленьня, што ім і ўдаецца. І толькі за турэцкага панаваньня наступае зблізэньне іх дзеля таго, што гэныя партыархаты ў касьцельных справах маглі зьвяртацца да турэцкага султана толькі цераз Канстынтанопольскага партыарха.

Тыповым прыкладам аўтокефалізму ўва Ўсходняй Царкве ёсьць манастыр на гары Сынай, якім кіруе незалежны біскуп.

Касьцёл у Расеі аказаўся ў найбольшай залежнасьці ад сьвецкай улады. У 1721 г. за панаваньня Пётра Вялікага скасаваны патрыархат, а кіраўніцтва царквою перайшло да Сыноду. Сталася гэта на моцы ўказу цара. Сынод складаецца з біскупаў і арцыбіскупаў, нарады-ж яго праходзяць пад кіраўніцтвам пракурора Сыноду, які ўваходзіць у склад Рады Міністраў. Гэтым спосабам дзяржава мае ўплыў на Царкву, а з другога боку духоўныя ўплывы сплятаюцца цесна з дзяржаўным правапарадкам.

Духоўнаю галавою Царквы быў цар. Такое палажэньне праваслаўя істнавала до бальшавіцкае рэвалюцыі. Формы царкоўнае арганізацыі ў С. С. С. Р., як і ўсё жыцьцё пры камуністычным ладзе, зламаны і здэзарганізованы.

Праваслаўная Царква ў Польшчы лічыцца аўтокефальнай (незалежнай). На чале яе стаіць мітрапаліт у Варшаве і дэпартамэнт у міністэрстве. Ад 1919 г. матар'альна праваслаўная царква ў Беларусі панясла шмат стратаў. Царкоўныя землі, якіх да 1914 г. было шмат, адыйшлі ў чужыя рукі, шмат цэркваў „рэвіндыкована“ вернена назад і абернена на касьцёлы.

У працягу 8 гадоў ішла адплата „вока за вока“, „зуб за зуб“, дужа часта з крыўдай для праваслаўных і без ніякае патрэбы для дзяржавы. Польскі нацыяналізм імсціўся за быўшыя старыя крыўды, дазнаныя ад нацыяналізму маскоўскага, вызываючы гэтым новыя крыўды.

Праваслаўнымі ў Беларусі зьяўляецца беларускае насельніства. Невялікая група абмаскоўленных беларусаў і расейскае эміграцыі складае малы толькі працэнт.

Пасьля 1921 г., калі Польская дзяржава пачала ладзіць сваё жыцьце, паднялося пытаньне аб уніі ў Беларусі. Разгляданая тэорытычна ў публікацыях, унія знайшла практычнае зрэалізаваньне толькі ў 1925 г., калі архімандрот Філіп Марозов (расеец) перайшоў на ўнію.

Аднак да сяньня унія, пачатая арх. Марозовым, да якога прылучылася было некалькі сьвяшчэньнікаў, пасьпеху ня мела і не пашырылася ані званьня. Мала таго сам Марозов, разам з другімі пачынальнікамі ўніі ў нас, вярнуўся назад у праваслаўе, шырока матывуючы адыход ад уніі.

Разьбіраючы гэтую спробу злучэньня Праваслаўя з Рымска-Католіцкім Касьцёлам у Беларусі, трэба з'аналізаваць абставіны яе, грунт, на якім рабіўся

і робіцца сяньня яшчэ гэны экспэрымент, здаць справу з дзеючых чыньнікаў, псыхалёгіі праваслаўных масаў у сучасны момэнт, а галоўнае разабрацца ў спосабах зьдзейсьненьня уніі, якія ужываюцца і яе мэтамі.

І сам арх. Марозов і тыя польскія чыньнікі, што дзеялі праз яго, падходзілі да ўніі, не бяручы пад увагу досьледаў гісторыі аб уніяцкім пытаньні, не разумелі, не хацелі разумець вывадоў яе, а галоўнае адразу праяўлялі гіпокрызію, самаабман, ужываючы унію як спосаб, не падходзілі да гэтае справы як самамэты.

Унія ў Беларусі ня можа мець пасьпеху, калі ня будзе ўзяты пад увагу характар таго людзкага матар'ялу, верных, якія маюць захапіцца ёю, беларускага праваслаўнага насельніцтва. Ад 1596 г. прайшло шмат гадоў, цяпер ужо іншыя адносіны верных да сваіх пастыраў, і пераход сьвяшчэньніка ці біскупа на ўнію ня цягне за сабою народу. Асабліва так ёсьць пры сучасных адносінах праваслаўнаго беларускага насельніцтва да пануючага правапарадку, пры дазнаных крыўдах з боку ўлады і каталіцкага духавеньства, якое ў разуменьні праваслаўных зьяўляецца органам польскае ўлады і праводзіць яе пляны.

Рэалізацыя уніі ў форме тк. зв. Марозаўшчыны адкрыла ясна, што мэты уніі перш за ўсё палітычныя, а не касьцельныя.

Злучэньне Праваслаўнае Царквы з Рымскім Касьцёлам у Беларусі мела-б вялікія пасярэднія вынікі ў галіне нацыянальнага разьвіцьця беларусаў, але ня дасьць ніякіх рэзультатаў і ня можа быць зьдзейсьнена, калі ў самым залажэньні ставяцца уніі іншыя, чужыя яе характэру мэты. Рагоза, Рутскі і др. тварцы акту 1596 г. імкнуліся да адзінства свае Царквы з Рымам, думаючы аб рэформе царкоўнага жыцьця і захаваньня народу ад дэнацыяналізацыі.

Унія 1925 г. мела якраз мэтай дэнацыяналізацыю беларусаў і была далёкай ад усялякіх рэформаў. Нацыянальныя імкненьні праваслаўных беларусаў зусім ня былі ўзяты пад увагу, мала таго, дзейнасьць арх. Мorозова і інш. уніяцкіх ксяндзоў, насіла чыста русыфікатарскі характэр і як-бы прадзначалася для невялікае групкі монархістычнае расейскае эміграцыі ў Вільні.

У чужой для справы уніі Вільні, без падгатоўкі грунту, ў месьце, дзе наймацнейшыя традыцыі ліквідацыйнае палітыкі Семашкі, пачаў сваю місыйную працу Марозов, патрымліваны віленьскім каталіцкім духавенствам.

Апошняе-ж, у масе сваёй нацыяналістычнае, праніктутае шовінізмам без граніц і далёкае ад магчымасьці зразумець значэньне уніі. Сама сабою выцякаўшая неабходнацьсь зьвязаньня ўніяністычных пачынаньняў у Беларусі з істнуючай у Ўсходняй Галіччыне сільнай і жыцьцяздольнай грэка-каталіцкаю Царквою ня толькі ня была праведзена ў жыцьце, але арх. Морозову было „сурова забаронена“ мець якія-небудзь зносіны з мітрапалітам Шэптыцкім.

Польскія нацыяналістыя, чужыя і варожыя справе ўніі 1596 г., хацелі йсьці сьлядамі Семашкі і чорнае расейскае сотні, ствараючы самаабман, гіпокрызію „польскае ўніі“ на грунце, так няпрыязна ўспасобленым імі-ж да ўсяго польскага.

Нармальная дарога падходу да ўніі праз беларускае духавенства, якое адно толькі магло-б з пасьпехам праводзіць гэтую вялікую справу,

зьяўляецца чужою для высокіх касьцельных чыньнікаў. Яны карыстаюца амбітнымі расейцамі, як архім. Морозов, або выкаляенцамі, быўшымі есауламі, гатовымі на ўсё і далёкімі ад звычайнае хрысьціянскае этыкі, як кс. Леснабродзкі, але перш за ўсё б. царскімі служкамі, манархістымі па пераконаньню, варожымі і чужымі Беларускаму народу і насельніцтву.

Канцэпцыя польскага нацыяналізму, ў найгоршай ягонай форме, створанай эндэцыяй — вынарадаўленьня беларусаў праз касьцёл, так добра знаная з практыкаў расейскага чорнасоценства і да яго падобная, ўлілася ў новую форму, форму ўніі ў Беларусі, пачатую архім. Морозовым.

Эндэцыя жыве самаабманам. Гэныя мяшчанскія па духу палітыкі, польскія эндэкі, захапіліся каўтунск м поглядам на каталіцтва, як на „польскую“ веру, не разрожніваючы рэлігіі і нацыянальнасьці. няздольны адказацца ад гэтага самаабману. Нацыяналізм — гэта, па выражэньні вялікага філёзафа і глыбокага ўніяністага Ул· Соловьёва, „сыфіліс хрысьціянства“. Нацыяналізм забіў ун ю 1596 году і дыскваліфікуе яе цяпер.

---

Арх. Морозов, полянізатар праваслаўнае духоўнае семінарыі і русыфікатар уніі, судзячы па прошлай ягонай дзейнасьці быў чужы справе уніі. Але ня будзем, ідучы па лініі найменшага апору, відзець у ім толькі кар'ерыстага, які адважыўся парваць з праваслаўем дзеля карысных матываў. Бязумоўна інтэлігентны чалавек, вучоны багаслоў, перарастаў усіх іншых уніяцкіх ксяндзоў і шырэй заглядаўся, стаўшы уніятам, на справу уніі.

Морозов меў плян уніястычнае працы і імкнуўся да зьдзейсьненьня яго. У сваіх мэморыялах, складаных духоўнай уладзе, ён дамагаўся пэўнай формы гіерархічнае незалежнасьці ад віленскага каталіцкага духавенства ў постаці эгзархату і захаваньня для грэка-каталікоў назовы „праваслаўны“. Гэнае жаданьне вікарнае уніяцкае біскупскае мітраполії наводзіць нас на думку, што арх. Морозов разгадаў ігру эндэцкага нацыяналістычнага клеру ў справе уніі.

Зьезд каталіцкіх біскупаў, калі адыйшоў з Вільні найлепшы для уніі біскуп Ю. Матулевіч, адкінуў пляны Морозова адносна эгзархату, паказваючы істотныя свае адносіны да уніі. Ужо і да гэтага раскрыцьця „карт“, Морозов ня меў падтрыманьня ў польскіх групах. Нацыяналістыя баяліся паважнага падыходу да уніі нават такім далёкім ад беларусаў чалавекам, як арх. Морозов. Адмова эпіскапату згоды на пляны Морозова адчыніла яму вочы на ягоную ролю і на няшчырасьць каталіцкіх духоўных вярхоў да вялікай справы злучэньня Касьцёлаў. Морозову аставаўся толькі адзіны натуральны выхад з створанага палажэньня, і ён яго зрабіў: вярнуўся назад у праваслаўе.

Таго, што робіцца цяпер у справе уніі, ніхто, ані каталікі-палякі, ані праваслаўныя, не трактуюць паважна. Унія ўзята ў недастойныя рукі, (Гапановіч, Леснабродзкі), якія якнайхутчэй павінны яе выпусьціць для дабра і павагі справы.

Сваё аўторытэтнае слова мусіць сказаць Рым.

---

Унія ў Беларусі зьвязана з такім ці іншым паглядам на яе мясцовага каталіцкага духавенства. Выходзячы з к нечнасьці імкненьня за ўся-

лякую цану да адзінства Касьцёлаў пад гістарычна апраўданай рэпрэзэнтацыяй Рымскага Папы, самі каталікі мусяць перамяніць свае адносіны да уніі, шчыра яе хацець.

Унія можа мець пасьпех, калі яна будзе самамэтай, а ня спосабам. Да яе трэба падходзіць, маючы на мэце ўсіленьне духоўнага жыцьця, праз яснейшую лучнасьць духавенства з вернымі, праз павялічэньне ўплываў яго ў справе культурна-асьветнага поступу прыхажанаў.

У сучасны мамэнт ад сьвяшчэньніка вымагаецца глыбокая веда, вялікая інтэлігэнцыя, практычнае азнаямленьне з патрэбамі верных, дбаласьць аб палепшаньні іх дабрабыту — прыстасаваньне і здольнасьць грамадзкае працы. Нічога не накідаючы згары, а вядучы сваю паству праз труднасці штодзеннага жыцьця, здабывае сабе духавенства ўплыў і пашану.

Перш за ўсё зьяўляецца неабходнасьцяй дзеля асягненьня такога становішча духоўных вытварэньне свайго нацыянальнага духавенства.

Праца духавенства будзе мець пасьпех калі абапрэцца на ўзаемным давер'і і шчырасьці. Народ заўсёды крытычна адносіцца да ўлады, і ўсё тое, што вяжацца ў яго разуменьні з уладай, што накідаецца яму згары ўрадоўцамі, ці кругамі, ад ураду залежнымі, сустракаецца з той ці іншай мерай падазроннасьці.

Асабліва-ж жыва гэта выяўляецца ў нас, у Беларусі дзеля спэцыфічных варункаў, якія выкапалі цэлую прорву недавер'я паміж народам і ўладай. Напрамак палітыкі, практыка ўрадоўцаў як-бы зумысьльна паглыблялі гэную прорву.

Дзеля гэтага ніякая спроба уніі ня прымецца ў Беларусі, калі за яе возьмуцца ўрадовыя чыньнікі, нават калі яны яўна стянуць памагаць старонькам уніі.

Справа рэлігіі і дзяржаўны правапарадак цесна, праўда, зьвязаны з сабою, але сувязь гэная носіць іррацыянальны характар, абодва зьявішчы гэныя ляжаць у рожных плошчах. Апанаваньне духоўнае сфэры сьвецкаю ўладаю — залог аслабленьня рэлігійнасьці ў краі і паменшаньня ўплываў клеру.

Дзеля гэтага ўнія, якая праводзіцца старастамі і паліцыяй, будзе загублена ў самым яе пачатку.

---

Унія ў Беларусі цесна вяжацца з нацыянальным характарам праваслаўнага насельніцтва — беларусамі, і кожная спроба пашырэньня уніі бязумоўна з гэтым нацыянальным характарам народу павінна лічыцца.

Дзеля таго, што ў нас, дзякуючы масе прычынаў сярод насельніцтва істнуе пагляд, што каталіцтва і польскасьць адколькавыя рэчы, дзеля таго, што самі польскія нацыяналісты лучаць гэныя два разуменьні і праз Каталіцкі Касьцёл стараюцца вынарадавіць беларусаў, а таксама, бяручы пад увагу узрост сьведамасьці Беларускага Народу, — справа уніі павінна быць аддана ў рукі беларусаў. Уніяцкая царква тады толькі стане на правідловым шляху, калі яна будзе насіць характар „беларускае“ Царквы.

Дзеля гэтага павага уніястычнага руху вымагае з боку Рымскае духоўнае ўлады распараджэньня, якое забараніла-б польскім нацыяналістым карыстацца уніяй, як спосабам і не дапусьціла-б іх да уніоністычнага руху нават пасярэдна, бо польскі нацыяналізм шкодзіць і толькі адцягвае справу злучэньня касьцёлаў.

Прапагатарамі уніі мусілі-б быць не перабежчыкі ад праваслаўя, якім грозіць выдаленьне з Царквы, не рэнэгаты і кар'ерыстыя, а адданыя глыбока сваёй справе ідэйныя людзі, выхаваныя ў гэтым абрадзе і адбыўшыя працу на грунце уніяцкага Касьцёла ў-ва Ўсходняй Галіччыне. Ад іх вымагаецца вялікая місыйная ахвярнасьць, моральная чыстата і вялікая этычнасьць.

Далей трэба вясьці ўмелую прапаганду уніі сярод насельніцтва ў роднай яго мове, каб народ зразумеў і пераняўся гэтай справай. Бяз верных ня будзе касьцёла, бо з трох элемэнтаў, з якіх складаецца разуменьне Царквы: догматы, гіерархія і верныя, апошні мо' найважнейшы.

Мэтодамі Семашкі унія ня можа быць рэалізована.

Нельга да уніі падходзіць з прадузятым поглядам, што ўсё ў Праваслаўнай Царкве мае толькі нэгатыўную ацэнку. Злучэньне Касьцёлаў магчыма толькі тады, калі каталікі пераймуцца пашанай таго, што ў праваслаўі варта яе, а гэтага бязумоўна там шмат.

Беларускае грамадзянства мусіць горача жадаць уніі. Адраджэньне Беларускага Народу, яго культурнае і матэр'яльнае разьвіцьцё суцэльна вяжацца з рэалізацыяй уніі, паводле прадстаўленай намі концэпцыі.

Для дзяржаўных інтарэсаў Польшчы унія, гэтак сама мае вялікае значаньне, бо яна аслабіць і выключыць маскоўскія ўплывы, якія ідуць у праваслаўныя масы ад сучаснага праваслаўнага духавенства, якое ў большасьці сваёй арыентуецца на „Великую, Единую і Недѣлимую“ Расею.

*Я. Зенюк.*

## Літэратура:


Купріяновіч — Историческій очерк Православія, Католичества и Уніи въ Бѣлоруссіи и въ Литвѣ. Вильна 1899.

А. Ластоўскі — Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі. Коўна 1926.

Wiatrowski — Greko-unici hrubieszowscy. Lublin 1926.

Walerjan Charkiewicz — U grobu unji kościelnej. Kraków 1926.

Kolankowski Ludwik — Kościoł a cerkiew w Galicji Wschodniej. Kraków 1909.

Ks. Edward Likowski — Dzieje Kościoła Unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX w. Warszawa 1906.

# КУЛЬТУРНАЯ і КРАЯЗНАЎЧАЯ ПРАЦА.

Наша грамадзянства не павінна забываць галоўнага свайга заданьня: будаваць і развіваць далей сваю культуру і прыгатаўляць культурных працаўнікоў. Культурная праца, дзе-б яна не вялася пакідае найбольш трывалы сьлед, узбагачывае ўвесь народ, дае яму духовую страву і падносіць нас беларусаў у вачох суседзяў.

Гісторыя апошніх гадоў нашага Адраджэньня, якое буйна зацьвіло і выйшла на шырокую дарогу, здабываючы імя і належнае для народу месца, высунула на першы плян палітычную работу. Яно і зразумела. Калі перабудовываліся дзяржавы, нацыянальна-сьведамыя групы дабіваліся прызнаньня права на самавызначэньне. Беларусы не маглі астацца на баку, а аддалі сваі сілы справе вызваленьня свайго народу. Арыентацыі, групіроўкі каля тых ці іншых дзяржаўных інтэрэсаў, урэшце скіраваньне сілаў і увагі на выпрацоўку незалежніцкае думкі і асягненьне яе, — ўсё гэта забрала шмат высілкаў і энэргіі беларускае інтэлігэнцыі. Абарона загварантаваных дзяржаўнымі законамі правоў для беларускага насельніцтва, палітычна-праўная яго арганізацыя, гэтыя заданьні забіраюць шмат сілаў беларускае інтэлігэнцыі. Дзеля чыста культурнае работы астаецца вельмі мала часу і як бачым культурная работа ў нас заняпала.

Калі ўва Усходняй Беларусі, дзе згуртавалася значнейшая частка культурных працоўнікоў і дзе яны, адсуненыя ад якіх колечы уплываў на палітычны прабег грамадзкага жыцьця, аддаюцца культурнай працы, таму здабыткі беларусаў там вельмі значныя, а ў нас, у Заходняй Беларусі не вядзецца ніякае культурнае працы, разлічнае нятолькі на сяньняшні дзень.

Беларускае Навуковае Т-ва дае аб сабе знаць толькі з таго, што час ад часу у прэсе складае падзяку за прысланыя у Таварыства ахвяры. Праца яго агранічываецца да аднаразовых у год паседжаньняў дзеля перавыбараў Управы. Ці сама Управа апрача гэтых, вымаганых уставам адбывае калі небудзь паседжаньні, аб гэтым беларускае грамадзянства ня ведае. Ня бачым выдавецкае працы Т-ва, а таксама нічога ня чуваць аб якой небудзь іншай працы гэтае высокае установы. Ці-ж Т-ва, загледзеўшыся на дзейнасьць Інбелкульту у Менску, самахоць адмаўлялася працаваць, ведаючы, што ня здоляе выказаць такога размаху і асягнуць вынікаў Інбелкульту? Беларускае Выдавецкае Т-ва ажыло крыху з лютага месяца. Увайшлі туды відаць сьвежыя працаздольныя сілы. Можна толькі радавацца, што Выдавецкае Т-ва папоўніць пустыя ўжо полкі ў беларускіх кнігарнях і стараецца заспакоіць імкненьне беларускіх масаў да роднага беларускага слова. Інстытут Беларускае Культуры і Гаспадаркі пасьля свайго заснаваньня ніякае працы не выказывае.

Выдавецкая дзейнасьць гэта толькі адна малая галіна культурнае працы, якая адлогам ляжыць у Заходняй Беларусі. Якія-ж прычыны гэтакага палажэньня? Мы добра ведаем, што і на месцы у Вільні і ў другіх гарадох, а асабліва ў нашых мястэчках і сёлах шмат працаздольных людзёў, якія маглі-б скрануць з месца беларускую культурную працу. Цяпер гэта паросшае бадзякамі, асотам ды чартапалохам „гуляй поле“.

Віною тут інэртнасьць вярхаводаў беларускіх культурных установаў. Ня меншаю перашкодаю зьяўляецца палітыканства, здэмаралізаваўшае нашае жыцьцё, ортодксальнасьць палітычных групаў, што заядаюцца ў узаемнай грызьні

і марнуюць сілы на асабістыя выпады проціў інакш-думаючых. Загледжанныя ў далекія асягненьня, прыняўшы такі ці іншы напрамак, паразьбіваліся мы на групкі, варымся ў сваіх маленькіх кружкавых лятуценьнях, няздольны да шырэйшага сьветапогляду, вольнага ад асабістых сымпатыяў і антыпатыяў і здольнага да культурнага будаўніцтва.

Кожны сьведамы гэтага благога стану беларускі інтэлігэнт павінен скрануцца, перааналізаваць сябе і вытварыўшы узаемаадносіны да другіх, зразумець ўсю небясьпеку такога палажэньня і шукаць дарог да паправы. Трэба аддзяліць палітыку ад вялікае справы культурнае працы і ўплываў першае не пераносіць на галіну культурнае дзейнасьці. Палітыка будзе такой самай, яна вызываецца патрэбай сяньняшняга дня і часта на сяньня разьлічана, залежна ад укладу абставін, сярод якіх праводзіцца і тых момэнтаў, якімі вызываецца. Культурная праца — гэтя чорная, штодзенная праца, здабываньне веды аб народзе, Бацькаўшчыне, прыродзе краю, далёкай яго мінуўшчыне і падставах да лепшае будучыны. І калі палітычнымі ходамі будуць займацца вярхі-гэнералы, то да культурнага будаўніцтва мусяць быць закліка765 усе сьвядомыя інтэлігэнцкія сілы, якія як мураўі — кожны на сваім месцы, будуць прыкладацца да будовы трывалых, вечных вынікаў.

Прыступаючы да кожнае дзейнасьці, трэба найперш ведаць прадмет яе і сродкі, якімі можам карыстацца. Дзеля гэтага культурная праца, панятая вельмі шырока, мо' ў сягоньняшніх абставінах не маглаб быць зьдзейсьнянай ўва ўсім аб'ёме, бо шмат якія сродкі нам недаступны, але гэта яшчэ не дае нам права зусім складаць рукі, ды не рабіць нічога. Перш за ўсё Беларускае Навуковае Т-ва з пасьпехам магло-б прыступіць да арганізацыі краязнаўчага вывучэньня Заходняе Беларусі. Гэная галіна абсьледаваньня краю зусім непачатая. Перад вайною існавалі краязнаўчыя адзелы пры статыстычных камісіях, якія уваходзілі ў склад губэрнскіх упраўленьняў. Але і тады пляновага абсьледаваньня не праводзілася, а мэтады працы і вынікі яе залежалі ад кіраўнікоў статыстычных аддзелаў. Цяпер няма і гэтага. Ані пры уладах першае інстанцыі — староствах, ані пры воеводствах ня бачым сарганізаванае працы па абследаваньні краю. Ды нават каліб такая работа і вялася, яна для беларусаў будзе недаступнай і загадзя можна прадсказаць ненавуковасьць яе вынікаў, дзеля таго, што трудна спадзявацца аб'ектыўнасьці досьледаў.

Пераходзячы да падзелу працы па краязнаўству, беларускія культурныя установы павінны заняцца абсьледаваньнем структуры зямельнага укладу (лясы, пяскі, балоты, рэкі, вазёры) у Заходняй Беларусі, спосабу разьдзелу зямлі і формаў зямельнае уласнасьці. Няведамай галінай гаспадарчага жыцьця пасьля вайны і рыжскага падзелу Беларусі зьяўляецца промысел у Заходняе Беларусі, вялікі ў гарадох, рамесьленны па мястэчках і сёлах, а ў рэшце промысел зьвязаны з земляробствам. Лясная гаспадарка ў нас прадстаўляе таксама цікавае пытаньне і варта самага глыбокага досьледу. Далей структура насельніцтва з усімі зьвязанымі з гэтаю структураю пытаньнямі. Загадзя трэба сказаць, што гэныя пытаньні і іх разьвязка з навуковага боку маглі-б быць асягняны урадовымі статыстычнымі досьледамі, што мае кожныя 10 гадоў рабіцца, але добра зарганізованае анкетнае абследаваньне, каліб нават не дало-б агульнага навуковага выніку, то служыла-б сродкам дзеля крытыкі, часта мала аб'ектыўных урадовых даных. Далей з боку філёлёгіі дагэтуль жывое і неабходнае пытаньне аб гаворках мясцовых, гаворках прафэсыянальных групаў: кавалёў, сталяроў, бандароў, рыбакоў і др. у Беларусі.

Легэнды, казкі, песьні, прыказкі, якімі багата нашая вёска, дамагаюцца запісаньня, бо-ж ад часоў працы на гэтым полі Шэйна і Раманава ніхто плянова да гэнае працы не падходзіў. Гэтай галінай краязнаўства не займаецца ніхто і ні водная дзяржаўная ўстанова за такую працу ня возьмецца. Кожная сяліба, вёска, хутар, мястэчка зьвязана з такімі ці іншымі легэндамі аб паўстаньні гэтых сяліб, дзеючых у іх чыннікаў і уплывах, што кшталтавалі жыцьцё. Адносіны да пражываючых у нас меньшасьцяў жыдоў, татароў, старавераў, палякоў абрысовываецца ў такой кожнай гісторыі мястэчка. Шмат дзе захаваліся старыя акты, дагаворы, граматы, якія пры такіх досьледах маглі-б быць выкарыстанымі умелымі дасьледчыкамі. Ведама напр., што кожны жыдоўскі кагал вядзе хроніку свайга кагалу,—там цэлае багацьцё крыніц для шырокае гісторыі краю. Справа асадніцтва, прабег калянізацыі і палянізацыі Беларусі зьяўляецца якраз добрым і патрэбным матэрмялам для анкетнага абследаваньня. Спосабы селянскае гаспадаркі, яе патрэбы — вось ізноў матэрыялы для абследаваньня. Было-бы толькі жаданьне працы, заўсёды знайдзецца шмат галін для краязнаўчага досьледу.

Хто-ж мае весьці гэную працу? Яна перадусім павінна быць апрацавана ў сэнсе мэтодыкі і краязнаўчага выкананьня. Навуковае Таварыства, ці другія ўстановы павінны апрацаваць плян досьледаў, указаньні дасьледчыкам і аддзельныя для кожнае галіны анкеты. Неабходна на месцы мець інструктараў краезнаўчае працы, якія-б кіравалі павятовымі краезнаўчымі гурткамі. Гэтыя-ж даглядалі-б працы па воласьцях.

Кожны павет мае шмат беларускае інтэлігэнцыі, якая сядзіць без працы, маючы зачыняны доступ да ўрадовых пасадаў. Вось сілами яе і трэба скарыстацца, навучыўшы праз раз'езнага інструктара, як павясьці працу. Аддзелы Т-ва Беларускае Школы, Інстытуту Гаспаспадаркі і Культуры і др. арганізацыі, іх мясцовыя гурткі, вось якраз сетка краязнаўцаў, што маглі-б з пасьпехам заняцца працай. Адно, другое папулярнае выданьне аб мэтадах краязнаўчае працы паслужыло-б мясцовым корэспондэнтам за падставу да працы. Пачын і кірунак належаць да цэнтральных культурна-асьветных арганізацыяў.

*Я. Зенюк.*

# ТРЫМАЙМАСЯ РОДНЫХ НАЗОВАЎ!

З гэткім клічам хацелася-б зьвярнуцца да нашае беларускае інтэлігэнцыі.

Як ведама, Беларускі Народ складаецца ледзь не з аднаго толькі гаротнага сялянства. Прамысловыя работнікі і працоўная інтэлігэнцыя ў нас у вузка нацыянальным сэнсе не складаюць сабою паважнае масы. Інтэлігэнцыя ў агульна прынятым разуменьні усё-ж такі беларуская ёсьць. Ворагі-ж нашага адраджэньня любяць ссылацца на тое, што ў нас „няма інтэлігэнцыі“, бяручы пад увагу нядаўнюю яе нацыянальную маласьвядомасьць і выхаванасьць у чужой для беларуса культуры. Бяда толькі, што інтэлігэнцыя наша старое расейскае школы апынулася тут, у Заходняй Беларусі, блізка што пагалоўна безработнаю: кожны, як кажуць, займаецца *не сваёю* справаю. Больш як паўтысячы народных настаўнікаў ня вучаць у родных школах, бо школ гэтых няма, а *плугуюць* зямлю-маці таксама, як і звычайныя сяляне — дзядзькі ды бацькі іхнія. Ніхто не падлічыў і безработных беларусаў іншых інтэлігэнцкіх прафэсіяў.

Уся наша народная, жыўшая ў родных вёсках, інтэлігэнцыя можа і павінна быць наперадзе ў нацыянальным руху, служачы, па меры сіл і магчымасьцяў, сваім менш асьвечаным ведаю братом. Штучна адарваная маскоўскім царызмам ад родных каранёў, яна цяпер, воляю лёсу і нашай гістарычнай трагэдыі, апынулася ізноў у народных гушчах. І колькі-ж яна можа зрабіць у сэнсе захоўваньня ўсяго чыста-нацыянальнага ў гэтых гушчах!

На інтэлігэнтаў у буйных местах, дзе гэтулькі пакусы да асыміляцыі, народу трудна разьлічаць. У гэткай, напрыклад, Вільні ёсьць даволі шмат беларускае інтэлігэнцыі: яе рады павялічваюцца студэнскаю і вучнёўскаю моладзяй. А спытайцеся, колькі тут у заходня-беларускай сталіцы беларускіх сем'яў, у якіх хатняя мова—беларуская? Адказ просты, што каб палічыць сем'і гэткія, дык хопіць пяцёх пальцаў аднае рукі дый можа адзін або два пальцы акажуцца лішнімі.

Провінцыяльнай інтэлігэнцыі, асабліва зьлітай з сялянствам у адно соцыяльнае цэлае, няма нашто браць гэтага благога прыкладу з розных там „дзеячоў“, якія дома гаворадь альбо па расейску, альбо па-польску.

Жывучы тым самым сялянскім вясковым жыцьцём, кожны з нашых братоў, пабачыўшых больш-менш сьвятло навукі, павінен зразумець, што ў будаваньні роднае, нацыянальнае культуры ляжыць ключ беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Вось, напрыклад, наша народная інтэлігэнцыя шмат можа зрабіць, захоўваючы ў жывой мове, перапісцы, карэспандаваньні ў беларускія часопісі ў кожнай простай гутарцы — свае родныя назовы местаў і мясцовасьцяў, што гэтак часта перакручваюцца.

Пяройдзем проста да справы.

Хто ня чуў на вёсцы, як гуляе па ёй цяпер ад хаты да хаты, ад чалавека да чалавека, пачынаючы з солтысавай сядзібы, слова — *гміна* (*gmina*).

А ці хто задумаўся калі над тым, што слова гэтае ня наша, а чыста польскае. Бо ў нас ёсьць сваё нацыянальнае слова таго самаго значэньня. Слова гэтае — *воласьць*. Яно ёсьць у актах за літоўска-рускі пэрыяд нашае гісторыі, выданых Пецярбурскаю Акадэміяй Навук. Яно — нашае з незапомненых часоў і нішто ня змушае яго ісьці ад нас упрочкі.

Інтэлігэнцыя наша павінна і трымацца гэтага слова, падаючы прыклад цямнейшым братом сваім. А тымчасам, заўважаецца нешта іншае: карэспондуючы ў беларускія газэты, ледзь ня кожны піша там, дзе трэба *воласьць*—гміна.

Кожная мова мае свае асаблівасьці і наша таксама. Асаблівасьці гэтыя нярэдка настолькі пукатыя, што, пачуўшы само слова, альбо ўбачыўшы яго напісаным, кожны інтэлігэнтны чалавек адразу можа сказаць, з якое яно мовы.

Дзякуючы нацыянальным асаблівасьцям, мовы розных народаў і адрозьніваюцца адна ад аднае.

Калі, напрыклад, які-нібудзь беларускі назоў літаральна перакладзём на іншую мову, нават часамі і блізкую ла нашай (польскую ці расейскую), дык назоў гэты наўрад ужо ці будзе для беларуса зразумелым.

Хто мяняе назовы нашых местаў або вёсак і як мяняе — гэтых даных пад рукамі ня маем. Аднак-жа факт, што замен гэткі дзе-ня-дзе ўжо чуваць.

Возьмем, напрыклад, места (ці мястэчка) *Дзятлава* ў Слонімскім павеце. Як яго завуць афіцыальна (г. знач. паказённаму) цяпер?

Завуць гэтае мястэчка — Ździęcioł.

Але ж ці для нас Дзятлава пакінула быць Дзятлавам?

Сяло ці мястэчка ў Віленшчыне, якое дзяды і прадзеды нашага пакаленьня называлі *Куранец*, цяпер завецца афіцыяльна Kurzeniec, вёска *Забярэзіна* ў Горадзенсяім павеце перароблена афіцыяльна ў Zabrzezino, Турец — у Turzec і г. д.).

Рэч вядомая, што ў Усходняй Беларусі валасныя пісары пры царызьме перакручвалі беларускія прозвішчы на расейскі лад і які-нібудзь наш Чыж — выходзіў у іх ужо *Чижев*, Рыжык — *Рижиков*, Бадун — *Бодунов* і г. д.

Калі і цяпер перакручваньні нашых назоваў зроблены лёгкаю рукою якога-нібудзь эндэка-валаснога пісара, дык беларускія прадстаўнікі ў адпаведных самаўрадовых інстытуцыях павінны падняць свой голас у абарону роднага назову.

Бо каму-ж патрэбна перакручваньне нашых назоваў на польскія?

На гэтае пытаньне адно можна адказаць, што ні польскаму селяніну, ні работніку, ні інтэлігэнту Варшавы, Лодзі ці Пазнані перакручваньне гэтае непатрэбна. Тым болей непатрэбна яно і нам.

А нашто нам тое, што нікому непатрэбна?!

Які праўдзівы назоў таго ці іншага геаграфічнага пункту, вельмі часта можна даведацца ад самога вакольнічнага насяленьня, асабліва ад старэйшых людзей, ад дзядоў і бабулек.

Вось помніцца мне, што адно сяло ў Лідзкім павеце старыя людзі ў мае дзіцячыя гады называлі *Дзебрава*. Вядомае ўсім стара славянскае слова „дебра" ўжываецца сялянамі і ў горадзенскім павеце. І вось тое, што нашымі сялянамі называлася Дзебравам, насіла ў часы расейскага панаваньня — дый цяпер носіць — назоў *Дземброво* — (Dziembrowo).

Вось тут і варта мясцовай беларускай інтэлігэнцыі дакапацца да праўды — знайсьці гістарычны назоў сяла, даведацца ад тых з нашых дзядзькаў, хто ўжо аднэю нагою ступае ў дамавіну — ад старэйшкх людцаў, — як у іхнія маладыя або дзіцячыя гады называлі цяперашняе Dziembrowo?

Бо з старадаўнімі местамі нашымі справа лягчэйшая: назоў іхні ёсьць у старых гістарычных дакументах. Маючы ў руках акадэмічныя выданьні гэтых дакументаў, лёгка даведацца, напрыклад, як беларусы звалі цяперашняе *Grodno*.

Паводле розных пісаных матар'ялаў за літоўска-рускі час нашае гісторыі, калі мова беларуская была ў нашым краі дзяржаўнаю, назоў цяперашняга Grodna пісаўся — *Городно*, — паводле цяперашняга беларускага правапісу — *Горадна*.

Гораднам яго завуць старэйшыя людзі ў глухіх лясных кутках павету і цяпер ад назоўнага склону — Городна або яшчэ часьцей *Горадзен*. Назоў Горадзен я чуў ад дзядзькоў сваіх, калі быў маленачкім дзіцянём, кожны раз, як гутарка йшла аб цяперашнім Grodnie.

Праўда, чыясь лёгкая рука адсюль з Вільні пусьціла для гэтага места свой назоў — *Горадня*, мусі прыраўноўваючы да слова *Вільня*. Але назоў Горадня з часам напэўна, як чыста інтэлігэнцкі, павінен будзе даць месца *Горадну*, як чыста мясцоваму сялянскаму і традыцыйна—беларускаму.

Называць мясцовасьці моваю прадзедаў нашых ніхто нам забараніць ня можа. А трымаючыся родных назоваў, мы заўсёды ўсяму сьвету будзем сьведчыць, якая тут нацыянальна галоўная маса насяленьня, які жыве народ!

Мы павінны помніць прарочыя словы Мацея Бурачка, якога „Smyk Biełaruski" і „Dudka Biełaruskaja" дэклямаваліся па самых глухіх кутках Беларусі. А Бурачок казаў: *„Не пакідайце мовы нашай роднай беларускай, каб не памёрлі!.."*

І названыя вышэй творы Бурачка вылазілі з цесных межаў вёскі, даходзілі да тагочасных „гарадзкіх вучылішчаў" і сярэдніх школаў, куды іх заносілі з сабою сыны нашага сялянства.

Дык чаму-ж нам ня трымацца родных назоваў нашых гэографічных пунктаў?

Хто-ж нас можа змусіць замяніць гэтыя назовы чужымі?

Ніхто!

Я ўзяў тут напамяць некалькі праяваў замены нашых назоваў на чужыя. Напэўна спісак іх можна прадоўжыць значна далей.

Хай-жа кожны беларус стараецца ў сваёй мясцовасьці ўлавіць праўдзівы традыцыйны назоў нашага ці іншага заселенага нашым народам пункту і, калі назоў гэты заменены якім-нібудзь новым, перакручаны на чужы лад, дык хай падасьць да публічнага ведама падобныя здарэньні.

Толькі шануючы сваю родную культуру, мы можам разьлічваць і на пашану да яе з боку іншых народаў.

А дзеля гэтага шмат зробім у сэнсе гэткае пашаны, калі будзем трымацца сваіх родных назоваў, створаных роднаю беларускаю стыхіяй у вольныя часы гаспадараваньня ў сваім краі нашых прашчураў.

*Звончык.*

# ДАСЬЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СПРАЎ У ВАРШАВЕ.

Яшчэ у 1921 годзе рад асобаў, як напр.: пасол Тугут, Т. Голувко, праф. Гандэльсман, сэнатар Поснэр, праф. Кшывіцкі і іншыя, пастанавілі залажыць навуковую інстытуцыю, якая мела-б на мэце досьледы жыцьця і руху нацыянальных меншасьцяў у Польшчы,

Агульна-палітычныя ўмовы аднак ня спрыялі таму, каб інстытут адразу мог распачаць шырокую дасьледчую працу.

Толькі ў пачатку 1926 году і асабліва пасьля маёвага перавароту Пілсудскага, з'явілася магчымасьць васкрасіць працу Інстытуту, які разьбіўся на 3 сэкцыі:

1) сэкцыя нацыянальных меншасьцяў Польшчы,

2) сэкцыя нацыянальных меншасьцяў у іншых дзяржавах,

2) сэкцыя польскае нацыянальнае меншасьці ў Літве, Расеі, Чэхаславацыі, Амэрыцы і г. д.

Сэкцыя нацыянальных меншасьцяў у Польшчы ў сваю чаргу разьбілася на камісіі: — Украінскую з сядзібаю ў Варшаве, Беларуска-Літоўскую з сядзібаю ў Вільні, Жыдоўскую, Нямецкую і Чэскую. Старшынёю сэкцыі быў абраны пасол Тугут, сэкрэтаром Т. Голувко.

Найбольш энэргічна працуюць покуль што толькі камісіі ўкраінская і жыдоўская. Украінская падзялілася на чатыры падкамісіі: а) Палітычную, б) Культурную, в) Гаспадарчую і г) Дэмографічную.

Камісія беларуска-літоўская пачала сваю працу толькі нядаўна. У Вільні адбыліся два паседжаньні гэтае Камісіі. На апошнім, якое адбылося 20 траўня, беларуска-літоўская камісія падзялілася на розныя падкамісіі: палітычную, культурную, гаспадарчую і г. д. На чале беларуска-літоўскай камісіі стаіць пасол Хомінскі.

Сэкцыя справы нацыянальных меншасьцяў у іншых дзяржавах мае на мэце вывучэньне нацыянальнае праблемы на грунце міжнародным. У склад гэтае сэкцыі запрошаны прадстаўнікі розных інстытуцыяў, якія працуюць у гэтым кірунку, як напрыклад: Фэдэрацыя Польскіх Таварыстваў Лігі Народаў, Міжпарламенскі Саюз, Т-ва Міжнароднага Права. На чале сэкцыі стаіць праф. Гандэльсман, а сэкратаром С. Папроцкі. На чале трэцяе сэкцыі польскае меншасьці ў іншых дзяржавах — стаў праф. Каменецкі.

Інстытут падрыхтоўвае цэлы рад навуковых манаграфіяў па нацыянальнаму пытаньню, якія яшчэ ў 1927 годзе выйдуць з друку. Апрача таго Інстытут выдае двухмесячную часопісь „Sprawy Narodowościowe“, — у якой можна знайсьці шмат вельмі цікавых артыкулаў па нацыянальнаму пытаньню.

7-га красавіка гэтага году ў зьвязку з назначэньнем дырэктара Інстытуту Т. Голувкі на начальніка Усходняга Аддзелу міністэрства справаў заграцічных — кіраўніцтва Інстытутам прыняў на сябе гэнэральны сэкратар яго С. Папроцкі, які адначасна з гэтым з'яўляецца і рэдактарам часопісі „Sprawy Narodowościowe“.

Заснаваньне „Дасьледчага Інстытуту Нацыянальных спраў“ маець ня толькі навуковае, але і палітычнае значэньне, бо падрыхтовываець матэр'ялы для рэформаў у справе нацыянальнае палітыкі ураду Польшчы.

# Хроніка Беларускае Культуры.

## Рэформа беларускага правапісу і азбукі.

У зьвязку з ростам беларускага культурнага руху паўстае пытаньне рэформы беларускага правапісу і азбукі. Гэтая справа зьяўляецца актуальнаю як на Усходзе, гэтак сама і на Захадзе. На Усходзе ў канцы 1926 г. гэтае пытаньне падымалася на „Акадэмічнай конфэрэнцыі“ ў Менску—пры гэтым пастаноўлена: гукі 1) „дз“ і „дж“ азначаць сэрбскімі літарамі, 2) выкінуць „й“ і замяніць яго „j“, 3) увясьці напісаньне „ja, je, jy, jo“ заместа я, е, ю, ё, у пачатку складу перад галоснай, 4) літары я, е, ю, ё, заставіць для азначэньня мяккасьці зычнай: нясу (ньясу), сёлы (сьолы).

Частка з членаў канфэрэнцыі адносна ўвядзеньня ў беларускую азбуку „j“ і застаўленьня пры гэтым „я, е, ю, ё“ (для памягчэньня зычных) падала заяву, знаходзячы проэкт камісіі мала палягчаючым беларускую азбуку. Заява гэтая, аднак, на канфэрэнцыі не разглядалася.

У зьвязку з рэформай беларускае азбукі, група сяброў канфэрэнцыі досыць значная і ўплывовая, падала заяву аб увядзеньні на Беларусі лацінскае азбукі. Падаўцы матывавалі сваю заяву тым, што па: 1) некаторыя народы ў цяперашні час адмаўляюцца ад сваіх азбук і уводзяць лацініку (цюрскія і каўказкія народы); па 2) што некаторыя беларускія выданьні ўвесь час друкаваліся і друкуюцца лацінікай (частка віленскіх выданьняў) і 3) што ў цэлым Савецкім Саюзе пытаньне аб увядзеньні лацінікі за апошнія часы стала актуальным і абгаварваецца ў навуковых колах.

Пытаньне пераходу на лацініку адхілена па палітычных прычынах. У Вільні, ў зьвязку з тым, што мае наступіць, зьмена школьнае палітыкі ураду на нарадзе ў куратара Віленскага школьнага вокругу Рыневіча ў пачатку гэтага году так сама ставілася пытаньне аб тым, як друкаваць падручнікі для школаў: лацінікай, ці гражданкаю. Потым гэтая справа была парушана ў „Беларускім Дні“ ў двух артыкулах і на гэтым, пакуль што, скончылася. Але неўзабаве пытаньне рэформы правапісу і азбукі павінна ізноў стаць на парадак дня і, так ці іначай, мусіць быць вырашана. Вельмі характэрна, што адначасна з беларусамі гэтае пытаньне ставяць таксама і украінцы. У Харкаве 3-га чэрвеня ў справе правапісу і рэформы азбукі скончылася нарада украінскіх вучоных філёлёгаў, якая прызнала неабходным увясьці ў украінскую азбуку пасобныя літары для афрыкатаў „дж“ і „дз“. Пастаўлена было пытаньне і аб пераходзе да ўжываньня лацінікі і толькі незначнай большасьцю галасоў лацініка была адкінута, што ў савецкіх варунках азначае, што большасьць украінскіх вучоных за лацініку.

---

## Раскол Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Сучаснасьць, якую перажываем наказывае абавязак кансолідацыі беларускага грамадзянства, дзеля абароны сваіх нацыянальных інтарэсаў. Лёгіка, грамадзкі розум такое кансалідацыі вымагае. Аднак нічога падобнага ня дзеецца, а наадварот мы перажываем новыя расколы, зьяўляемся сьведкамі што раз вастрэйшай і мала этычнае барацьбы паміж беларусамі.

Да гэтага часу існаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, які хоць не праяўляў вялікай дзейнасьці ўсё-ж такі быў агульна-нацыянальнай установай. Праўда, ў апошнім часе Беларускі Нацыянальны Камітэт ня меў ужо фактычна характару нацыянальнай рэпрэзэнтацыі, бо найвялікшыя ўплывы мела там Грамада. Дзякуючы гэтаму Нацыянальны Камітэт меў даволі аднабаковы характар. У ліпні г. г. пас. Ярэміч з другімі зрабіў спробу рэарганізацыі Камітэту. Але гэтая дзіўная „рэарганізацыя“ скончылася на заснаваньні другога Нацыянальнага Камітэту з групай сваіх аднадумцаў. Пас. Ярэміч прызнаў першы Камітэт за неістнуючы. Словам, поўная „дэтронізацыя“. У адказ на выступленьне пас. Ярэміча, першы Нацыянальны Камітэт пастанавіў выключыць пас. Ярэміча і іншых з ліку сяброў Нацыянальнага Камітэту і назваў іх „машэннікамі“, — а паўстаўшага Камітэту ня прызнаў правамочным. Маемо цяпер аж два Нацыянальныя Камітэты. На чале першага стаіць даўны старшыня грам. Савіцкі, на чале нова-паўстаўшага сэн. Багдановіч.

---

### Літэратурныя аб'яднаньні беларускіх паэтаў і пісьменнікаў.

У канцы мая ў Вільні зроблена першая спроба аб'яднаць беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. На паседжаньні, якое адбылося 29 мая прыняты статут Т-ва, абраны прэзыдыўм у складзе Н. Арсеньневай, М. Васілеўскага і І. Грыневіча і пастаноўлена чамусьці назваць Т-ва словам „Веснаход". На перашкодзе арганізацыі Т-ва стаіць палітычны разброд беларускае прэсы-газэты, у якой у большасьці друкуюцца творы паэтаў і пісьменьнікаў. Магчыма, што гэтая першая спроба і ня дасьць пажаданых вынікаў— і што з часам будзе заснавана не адно, а некалькі таварыстваў у залежнасьці ад таго, у якіх часопісях будуць друкавацца тыя, ці іншыя паэты і пісьменьнікі. Такі падзел існуець у БССР. — Група „Маладняк" друкуецца ў часопісі „Маладняк", — група „Узвыша" у часопісі „Узвышша". Трэба адзначыць яшчэ тое, што асаблівасьці творчасьці паэта і пісьменніка (індывідуалізм) заўсёды будуць стаяць на перашкодзе шырокага літэратурнага аб'яднаньня.

Як агульнае правіла, прызнаныя крытыкамі і грамадзянствам пісьменнікі вельмі неахвотна працуюць у літэратурных арганізацыях, бо пэўны ў сваіх сілах.. Ня гледзячы на гэта Літэратурнае аб'яднаньне ў Вільні вельмі патрэбна—бо яно было-б школай для пачынаючай пісаць моладзі.

### Беларускі Народны Тэатр.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зарганізаваў Беларускі Народны Тэатр, які выехаў на правінцыю, дзеля пастаноўкі беларускіх спэктакляў. Вёска аднеслася вельмі прыхільна да пачынаньняў Беларускага Народнага Тэатру і спэктаклі праходзілі ўсюды вельмі ўдачна. Прыхільнасьць вёскі сьведчыць аб тым, што народныя масы адчуваюць патрэбу працы над узмацоўваньнем беларускае нацыянальнае культуры. Арганізацыя Беларускага Народнага Тэатру вельмі карысны пачын Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, які трэба падтрымаць усяму грамадзянству.

### Т-во „Беларуская Культура".

У хуткім часе мае заснавацца ў Вільні культурна-прасьветнае Т-ва „Беларуская Культура". Мэтай Т-ва будзе: пашырэньне нацыянальнае сьведамасьці сярод беларускага насяленьцтва ў Польшчы і культурная і матэрыяльная дапамога беларускім масам.

# Бібліаграфія.

## Кароткі сьпісак віленскіх беларускіх выданьняў за першую палову 1927 году.

### I. ПАЭТЫЦКІЯ ТВОРЫ.

#### а) Літэратурныя навінкі.

1) *Натальля Арсеньнева*: **„Пад сінім небам"**—*вялікі зборнік вершаў*. Выданьне „Віленскага выдавецтва" Б. Клецкіна. Вільня. 1927. Старонак 141 in octo з партрэтам пясьняркі.

2) *Францішак Грышкіевіч*: **„Веснавыя мэлёдыі"** — зборнік вершаў. Выданьне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Вільня. 1927. Старонак 78 разьмеру васьмёркі.

3) *Ян Васілеўскі*: **„Скарб"** — невялічкая паэмка з беларускага народнага жыцьця. Выданьне Т-ва „Беларуская Хатка ў Вільні", з ілюстрацыямі. Вільня. 1927. Старонак 16, разьмеру павялічанай шаснасткі. Кніжка выйшла двума альфабэтамі: лацінкай і гражданкай.

#### b) Новыя выданьня старых твораў.

4) *Максім Багдановіч*: **„Вянок"** — зборнік вершаў. Выданьне II-гое, папраўленае „Віленскага Выдавецтва" Б. А. Клецкіна з партрэтам песьняра. Старонак 118 in 8-o, Вільня. 1927.

5) *Francišak Bahušewič* (Maciej Buraček): **„Dudka Biełaruskaja"** — зборнік вершаў. Выданьне 6-тае, перадрукаванае з 2-га кракаўскага выданьня 1896 г. Вільня. 1927. Старонак 47 in 8-o.

6) *Альбэрт Паўловіч*: **„Снапок"**—зборнік вершаў. Выданьне 3-цяе Ул. Знамяроў-

скага. Вільня. 1927. Старонак 38, разьмеру паменшанай васьмёркі.

7) *Ядвігін Ш.* (Антон Лявіцкі): **„Дзед Завала“** — невялічкая паэмка з часоў паўстаньня 1863 г. Выданьне 2-гое Ул. Знамяроўскага. Старонак 15, размеру 16-ткі.

## II. ПРОЗА.

### a) Літэратурныя навінкі.

8) *Hrynkiewič Stanisłaŭ*: **„Arlanio“** — новэлла. Выданьне „Biełaruskaje Krynicy“. Вільня. 1927. Старонак 51, фармату павялічанай шаснасткі.

### b) Новыя выданьні старых твораў.

9) *Гушча Тарас* (Я. Колас—К. Міцкевіч): **„Казкі жыцьця“** — зборнік алегорычных новэллаў. Выданьне „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна. Старонак 100 in 8-o. Вільня. 1927.

### c) Пераклады.

10) *Jöergensen J.*: **„Prypowieści“**— зборнік алегорычных новэллаў у духу рэлігійным. Пераклаў Х. П. Т. Выдавецтва „Biełaruskaj Krynicy“ з партрэтам аўтара. Старонак 55 фармату паменшанай васьмёркі. Вільня. 1927.

11) *Даудэт Альфонс:* **„Сэкрэт дзядькі Карніля“** і іншыя францускія творы ў перакладах *Я. Ц.* і *Л. М.* — зборнік новэллаў. Выданьне Т-ва „Пагоня“. Вільня. 1927. Старонак 57, разьмеру 16-ткі.

## III. СЦЭНІЧНЫЯ ТВОРЫ.

### a) Літэратурныя навінкі.

12) *Браславіч Пётра:* **„І нас разбудзілі“** —п‘еса ў 3-х актах. Вільня. 1927. (Сканфіскавана).

13) *Башкір Янка*: **„Гурток“** — камэдыя ў 1 дзеі з сучаснага жыцьця. Старонак 32, фармату 16 ткі. Вільня. 1927.

14) *Васілеўскі Антон*: **„Дахапаліся!...“**— правінцыянальныя абразкі з нядаўняй мінуўшчыны. Выданьне А. Яцыны. Вільня. 1927. Старонак 16, разьмеру 16-ткі.

15) *Галубок У:* **„Суд“** — п‘еса ў 1 акце. Выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні“. Вільня. 1927. Старонак 32 паменшанай васьмёркі.

16) *Гаротны А.*: **„Лекары і лекі“** — камэдыя ў 1 дзеі. Выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні“. Вільня. 1927. Старонак 16 in 8-o.

17) *Гаротны А.*: **„Два жаніхі“**—камэдыя ў 1 дзеі. Выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні“. Вільня. 1927.

18) *Уліцін Аграном:* **„Суд над трохпалёўкай“** — агро-п‘еса ў 1 акце. Выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні“, Пераробленае для Заходняй Беларусі У. Павадковічам. Вільня. 1927. Старонак 27, паменшанай васьмёркі.

### b) Новыя выданьні старых твораў.

19) *Купала Янка* (Луцэвіч Ян): **„Паўлінка“** — сцэны з шляхоцкага жыцьця ў 2-х актах. Выданьне II-гое І. Мятлы. Вільня. 1927. Старонак 61, фармату паменшанай васьмёркі.

### c) Пераклады.

20) *Э. Ожэшко:* **„У зімовы вечар“** — сцэна з сялянскага жыцьця. З польскае мовы пераклаў Власт. Выданьне І. Мятлы і І. Дварчаніна. Вільня. 1927. Старонак 31 павялічанай шаснасткі.

---

21) *Сцэнічныя творы*—зборнік, зьмяшчаючы ў сабе: 1) **„Боты“**—водэвіль у 1 акце з украінскага; **„Мікітаў Лапаць“**—камэд. у 2-х дзеях *М. Кудзелькі* (Міхася Чарота); 3) **„Пакой у наймы“**—жарт у 1 акце з польскага; 4) **„Чорт і Баба“** — жарт у 1 акце *Францішка Аляхновіча.* Выданьне Т-ва „Пагоня“. Вільня. 1927. Старонак 36 in octo.

## IV. РОЖНЫЯ ТВОРЫ.

22) *Колас Якуб* (К. Міцкіевіч): **„Выбраныя творы“** — *угодкавае выданьне* „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні з партрэтам песьняра. Вільня. 1927. Старонак 78, фармату in quarto.

23) *Дварчанін І.:* **„Хрэстаматыя беларускай літэратуры“** (Ад 1905 г.) Выпуск І шы. *(Ядвігін Ш.; К. Каганец; А. Паўловіч; Цётка).* Выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні“ з партрэтамі пісьменьнікаў. Вільня. 1927. Старонак 80, фармату павялічанай васьмёркі.

24) *Дварчанін І.:* **„Хрэстаматыя новай беларускай літэратуры“**. Выпуск II-гі. *(Янка Купала; Якуб Колас).* Выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні“ з партрэтамі песьняроў. Вільня, 1927. Старонак 132, фармату павялічанай васьмёркі.

---

Рэдактар-Выдавец:
Ф. Умястоўскі.

# Зьмест:



Друкарня Язэпа Завадзкага ў Вільні, вул. Сьв. Анны 3.